ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА МАСТАЦТВА

3 ВЕРАСНЯ 1993г. №35 (3705) Кошт 10 руб.


## ЦІ ЗАБ'ЁМ СВАЮ ДУШУ?

*Думкі чытача пра наша нацыянальнае адраджэнне*

**СТАРОНКІ 3—4**

## «ГУБЛЯЦЬ ВЕРУ НАМ НЕ ТРЭБА...»

*Ніл ГІЛЕВІЧ адказвае на пытанні Алеся МАРЦІНОВІЧА*

**СТАРОНКІ 5, 12**

## «СТАНОВІМСЯ ТЫМІ, КІМ ЯШЧЭ НЕ БЫЛІ»

*Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ: «Перад вамі не літаратуразнаўчае даследаванне, а ўсяго толькі — будзем лічыць так — літаратуразнаўчая гульня»*

**СТАРОНКІ 6—7**

## ТЭРАКТ

*Сатырычная аповесць часоў застою Юры СТАНКЕВІЧА*

**СТАРОНКІ 8—9, 14—15**

## КУДЫ ПЛЫВЕ БЕЛЫ ПАРАХОД?

*Нататкі Надзеі БУНЦЭВІЧ з фестывалю «Славянский базар — 93»*

**СТАРОНКІ 10—11**

## ДВА ЮБІЛЕІ БЕЛАРУСКАГА ДЫЗАЙНУ

*Якаў ЛЕНСУ: «Першыя парасткі дызайну ў савецкай Беларусі выкарчавалі, калі яны толькі паспелі ўзысці. Але ідэі, якія распрацавалі ўновісаўцы, не былі забытыя, іх увабралі наступныя пакаленні дызайнераў як на Беларусі, так і ў іншых рэспубліках былога Саюза. Больш таго, гэтыя ідэі перасеклі межы СССР і зрабіліся здабыткам культуры ўсяго цывілізаванага чалавецтва»*

**СТАРОНКА 16**




*Упаў, як зорка, і ляжыць,*
*Безабаронны, адзінокі, —*
*Каб пацішэлі нашы крокі*
*На тым шляху, што ўдаль бяжыць...*

*Фота Аляксея МАЦЮША*

Кола дзён

***На мінулым тыдні бацькам, дзядулям і бабулям было не да палітыкі: увесь час занялі зборы дзяцей і ўнукаў у школу. Многія ў чэргах, пэўна, не раз прыгадалі забытыя з савецкіх часоў словы «дэфіцыт» і «блат». Сшыткаў перад пачаткам вучэбнага года не было тады, не хапае і зараз. Дзесяць гадоў назад вінаватых не шукалі, моўчкі стаялі ў чэргах, атрымліваючы «па пяць сшыткаў на рукі». Сёння вінаватых шукаць не трэба: «савецкі чалавек» адразу скажа — гэта незалежнасць, суверэнітэт, дэмакраты, нацыяналісты... Якая кароткая, аказваецца, у людзей памяць. І зараз карыстаюцца гэтым неакамуністы, спяваючы пра каўбасна-застойны рай, якога не было. Былі такія ж пустыя паліцы ў крамах і суцэльны «дэфіцыт». Памятаеце?..***

НАВІНА ТЫДНЯ

31 жніўня міністр абароны Беларусі Павел Казлоўскі і выконваючы абавязкі пасла ЗША ў Беларусі Д. Крол урачыста адкрылі ў Нацыянальным агенцтве па кантролю і інспекцыях лінію пастаяннай сувязі паміж Мінскам і Вашынгтонам. Першы адказ на факсімільнае паведамленне з Мінска быў атрыманы з Вашынгтона праз чатыры хвіліны.

СЕНСАЦЫЯ ТЫДНЯ

Прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын прыняў рашэнне аб адхіленні ад сваіх пасад віцэ-прэзідэнта А. Руцкога і віцэ-прэм'ера У. Шумейку за ўзаемныя абвінавачванні ў карупцыі, якія наносяць шкоду органам улады. Але — адхіленне з'яўляецца часовым і будзе залежаць ад канчатковых вынікаў расследавання.

ЦЫТАТА ТЫДНЯ

«Уратаваць кожную нацыю здолеюць толькі яе ўласныя намаганні, уласная нацыянальная палітыка, эканоміка па ўласных сродках-магчымасцях. Цяжка? Так, інačай і не магло быць: пераход ад аднаго сацыяльна-палітычнага ладу да зусім іншага, мабыць, бесканфліктна не адбываецца. Хаця, канешне, шмат што зроблена няўмела, многа не зроблена зусім, іншае зрабіць не далі абставіны ці чужыя варожыя сілы. Але суверэнітэт дае надзею — калі не нам, дык хоць нашым дзецям»

*/З артыкула народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава «Каб захаваць уладу, яны здольныя аб'яднацца хоць з самім д'яблам», «Народная газета» за 1 верасня/*

КРЫЎДА ТЫДНЯ

Украіна і Расія, аказваецца, доўгі час вялі перамовы аб будаўніцтве транзітнага газаправоду праз тэрыторыю Украіны ў Заходнюю Еўропу. Перамовы падыходзілі да канца, калі ўкраінскі бок даведаўся, што газаправод пройдзе па польскай зямлі. Расія з Польшчай тут жа падпісалі пагадненне. Крыўду ўкраінскага ўрада, якую выказаў на пасяджэнні парламента прэм'ер-міністр, можна зразумець: за транзіт расійскага газу Украіна магла б мець прыблізна тыя ж выгады, што і Польшча. Што будзе мець Беларусь, калі газаправод пройдзе праз яе? Зрэшты, шлях, якім будзе ісці расійскі газ, пакуль захоўваецца ў таямніцы. Прынамсі, на Беларусі пра яго нічога не пішуць і не гавораць. І лёгка зразумець чаму. Мае рацыю В. Быкаў: каб захаваць уладу, наш урад можа прадаць нас хоць д'яблу. І за бясцэнак.

СХОДКА ТЫДНЯ

27 жніўня ў Мінску сабраліся лідэры РКП, КПУ і ПКБ, каб, ні больш-ні менш, абмеркаваць шляхі ліквідацыі СНД і аднаўлення СССР. Дэпутаты-камуністы трох краін ужо атрымалі адпаведныя ўказанні аб дэнансацыі на бліжэйшых сесіях белавежскіх пагадненняў. Наступныя крокі — заключэнне спачатку эканамічнага, а потым абароннага і палітычнага саюзаў. Імперыю не адрадзіць без адзінай партыі, вырашылі неакамуністы, і, магчыма, у хуткім часе, РКП, КПУ і ПКБ аб'ядноўцца ў СКП /Саюз камуністычных партый/. Кампартыі новыя, стыль — стары: тое ж «планов громадьё», якое ніяк не стасуецца з рэальнымі ўмовамі і магчымасцямі.

ЗЛАЧЫНСТВА ТЫДНЯ

На галоўным аптэчным складзе Брэсцкай вобласці некалькі месяцаў ляжаць імпартныя лекі больш чым ста назваў на суму ў мільярд рублёў. Ляжаць таму, што дагэтуль не вызначаны іх кошт. Сардэчныя, анкалагічныя, ныркавыя і інш. сродкі, так патрэбныя хворым, патроху псуюцца, губляюць тэрмін ужывання, у чаканні пакуль чыноўнікі прымуць нейкае рашэнне. Для колькіх хворых гэтыя лекі маглі б стаць выратавальнымі?

ПАДЗЕЯ ТЫДНЯ

Апошні расійскі салдат пакінуў Летуву. Могуць, як бачыце, і расійцы дзейнічаць аператыўна, асабліва, калі размова зайшла пра выплату мільярдных стратаў, нанесеных суседняй краіне за час, які Савецкая Армія абараняла яе ад захопу капіталістамі.

КАНФУЗ ТЫДНЯ

75—80 працэнтаў беларускіх школьнікаў пойдуць сёння ў першыя класы з роднай моваю навучання — паведамілі напярэдадні навучальнага года рэспубліканскія газеты. Парадаліся на гэтую «вудачку» і мы. А «белороссийцы» нават пачалі кампанію супраць дыскрымінацыі «русскоязычного населения» і «насильной белорусизации»... І вось пайшлі нашыя дзеткі ў школу. І што? 99 працэнтаў настаўнікаў у беларускамоўных школах гавораць па-расейску, родная мова выкладаецца і гучыць толькі на ўроках роднай мовы пару разоў на тыдзень, усё астатняе — гэтак жа, як і было летась... І сапраўды — дыскрымінацыя.

Кола дзён

З нагоды

# КАЛІ МІНІСТР ГАВОРЫЦЬ ПРАЎДУ...

Падзеі на афгана-таджыкскай мяжы — кепская рэклама для «системы коллективной безопасности». Што б ні казалі прыхільнікі далучэння Беларусі да ваеннага саюзу, як бы ні даводзілі, што гэта адпавядае нацыянальным інтарэсам нашай краіны — малаверагодна, каб беларусаў прываблівала ідэя абараняць гэтыя інтарэсы за тысячы кіламетраў ад роднай хаты. Можна не сумнявацца, на рэферэндуме па пытанню «далучацца — не далучацца» большасць грамадзян Беларусі прагаласуе за нейтралітэт.

Сёння «коллективная безопасность» складаецца з Расіі і краін, урады якіх хацелі б скарыстаць расійскія ўзброеныя сілы супраць унутранай апазіцыі і знешняй пагрозы, а потым, калі створаць уласныя арміі, указаць Расіі на дзверы. Расія, у сваю чаргу, хацела б як мага далей захаваць праз «коллективную безопасность» сваю палітычную і вайсковую прысутнасць на колішніх «ускраінах» імперыі ды яшчэ пераклaсці на плечы «ўскраін» уласныя, у прыватнасці — вайсковыя, праблемы. Невыпадкова расійскія генералы так часта паўтараюць, што таджыкска-афганская мяжа — гэта яшчэ і дзяржаўная /?/ мяжа СНД, і таму абарона яе павінна быць агульным клопатам.

Праўда, апошнім часам праз намаганні маскоўскай дыпламатыі канцэпцыя «коллективной безопасности» набывае новы выгляд. Пра гэта апавядаў у мінулую пятніцу ў інтэрв'ю Беларускаму тэлебачанню міністр абароны Беларусі /генерал П. Казлоўскі якраз вярнуўся з Масквы, дзе сустракаўся са сваімі калегамі з іншых краін СНД/. Калі міністр гаворыць праўду, дык, далучыўшыся да «коллективной безопасности», Беларусь не будзе пасылаць свае войскі ў Сярэднюю Азію ці Закаўказзе. Адпаведна і Сярэдняя Азія з Закаўказзем не стануць дапамагаць Беларусі сваімі вайсковымі кантынгентамі ў выпадку, калі наша краіна стане ахвярай агрэсіі. Удзел у вырашэнні канфліктных сітуацый будуць браць толькі тыя суседзі, якія ў гэтым зацікаўлены непасрэдна. Скажам, Таджыкістану дапамагае Расія і сумежныя краіны Садружнасці, урады якіх не хацелі б, каб вайна перакінулася і на іхнюю тэрыторыю. Рэалізаваная на практыцы гэта канцэпцыя азначала б, што «коллективная безопасность» трансфармуецца ў сістэму рэгіянальных ваенных блокаў, у кожным з якіх дамінуючае становішча захоўваецца за Расіяй. Бо Расія, як вялікая дзяржава, мае свае інтарэсы на ўсёй прасторы былога СССР, і яе ваенны патэнцыял большы, чым ва ўсіх краінах Садружнасці разам. Калі ж гэта ідэя будзе рэалізавана, наступны крок — аб'яднанне рэгіянальных ваенных блокаў пад эгідай Расіі, і далей — зноў «объединенные вооруженные силы» на чале з расійскім маршалам.

Прэм'ер Кебіч калісьці паабяцаў нам, што ніводны беларускі салдат не будзе служыць за межамі Беларусі. Але Кебіч шмат чаго абяцае — і тое, што мову беларускую вывучыць, і тое, што чарнобыльцаў у «чыстыя» раёны пераселіць, і тое, што бензін будзе, і цэны не будуць расці і яшчэ шмат чаго. Ці трымае прэм'ер слова, запытайце ў людзей...

Безумоўна, на чарговай сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі зноў паўстане пытанне аб «коллективной безопасности», і галоўным аргументам бальшавіцкай большасці ў ВС за далучэнне да ваеннага блоку будзе гэта самая новая канцэпцыя. Але з савецкай гісторыі вядома: бальшавікі думаюць адно, гавораць другое, робяць трэцяе, і заўжды на сваю карысць. Пытанне аб далучэнні да вайсковых саюзаў, аб пераглядзе нейтральнага статуса краіны павінен вырашаць не Вярхоўны Савет, чыя легітымнасць падаецца досыць спрэчнай, а народ Беларусі на рэферэндуме.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

Семінары

# ДЗЯРЖАЎНЫ ЛАД — РЭСПУБЛІКАНСКІ

У мінулую суботу, 28 жніўня, праходзіў чарговы семінар Сойма БНФ па пытаннях геапалітычнага становішча Беларусі ў мінулым і сёння. Гэтым разам гаворка ішла аб Беларусі /Літве/ у складзе Рэчы Паспалітай. Як і мінулым разам, з асноўнымі дакладамі выступілі А. Грыцкевіч, Г. Сагановіч, Ю. Хадыка. Дакладчыкі адзначылі, што ў XVII стагоддзі Літва /Беларусь/ у значнай ступеніператвараецца з суб'екта ў аб'ект палітычных маніпуляцый. Палітычную сістэму Вялікага княства Літоўскага ўмоўна можна лічыць рэспубліканскай, як, дарэчы, і сістэму Рэчы Паспалітай увогуле. Але для экстрэмальных сітуацый гэта сістэма не падыходзіць. Між тым, XVI—XVIII стагоддзі былі для нашай дзяржавы суцэльным экстрэмам.

У гэты час усе суседзі Літвы /Беларусі/ нарошчваюць колькасць сваіх узброеных сіл, а наша войска паступова змяншаецца. Найбольшае войска Вялікае княства Літоўскае мела ў 1576 годзе — 50000 чалавек. А ў XVII стагоддзі — усяго 6—7 тысяч.

Колькасная перавага ворагаў Беларусь /Літва/ супрацьстаўляла прафесіяналізм і мужнасць ваяроў, талент палкаводцаў. У гістарычных хроніках занатавана, што калі гетман Ян Караль Хадкевіч перад бітвай пад Кірхгольцам /цяпер — Саласпілс/ запытаў падначаленых, ці варта пачынаць бой, маючы чатыры тысячы супраць чатырнаццаці, ён пачуў у адказ: «Атакуй! Паб'ём, тады ўсіх палічым». І сапраўды, варожае войска было разбіта ўшчэнт, Хадкевіч жа страціў толькі сто чалавек. «Нават калі б на нас абрушыліся нябёсы, мы б вытрымалі іх на сваіх дзідах», — казалі беларускія гусары.

... Абсалютна не вывучаны сёння беларускі партызанскі рух часоў вайны з Масквою. Рух гэты быў у асноўным сялянскі. Беларускія сяляне стваралі атрады самаахові, нішчылі гарнізоны і абозы акупантаў. І ўсё ж наша дзяржава не вытрымала супрацьстаяння з агрэсіўнымі суседзямі, і пасля трох падзелаў Рэч Паспалітая знікла з палітычнай карты Еўропы. Дык, можа, сапраўды «дэмакраты давялі»? Супраць гэтага тэзіса рашуча выступіў З. Пазняк. Так, дзяржава панесла паразу, але дух незалежнасці закладзены ў дзяржаўным ладзе Вялікага княства і Рэчы Паспалітай захаваўся ў крыві беларусаў-ліцвінаў і пад расійскай акупацыяй. Пра гэта яскрава сведчыць гісторыя барацьбы за аднаўленне дзяржаўнасці. Барацьбы, якая яшчэ не скончана, але ўжо сёння вынікам яе стаўся распад Савецкай /Расійскай/ імперыі. Гэтую думку многія ўспрынялі як слушную.

Наступны семінар будзе прысвечаны Беларусі пад расейскай акупацыяй, барацьбе нацыі за аднаўленне дзяржаўнай незалежнасці.

**П.В.**

З пошты тыдня

# БЕЛАРУСЬ — ЧАСТКА ЛІТВЫ

Гартаю «ЛіМ» за 20 жніўня. На першай старонцы словы: «Калі спяваюць «Ліцьвіны», нібыта чуеш жывыя галасы старажытнай Літвы-Беларусі». Другая старонка — допіс «Беларусь, геапалітыка»: «Ад утварэння Вялікага княства Літоўскага: «...Беларусь /Літва/ пачынае моцна ўплываць на агульнаеўрапейскія і еўразійскія працэсы» і г.д. Некалькі разоў паўтор — Літва і Беларусь, як адно і тое ж.

Старонка 15. У.Скрабатун піша: «Лічу, што нам, беларусам... неабходна ехаць у Гаагу ў міжнародны арбітраж і аспрэчваць сваё выключнае гістарычнае права на назву Літва...» У адным нумары газеты тры аўтары даводзяць, што наш сапраўдны назоў — Літва /ліцьвіны/. Што можна прывесці ў якасці аргументаў? Літвой называлі нас усе суседзі, апроч, хіба, латышоў, якія звалі нас крэво /крывічы/. Усе астатнія бачылі нас як Літву і ліцвінаў. Украінцы казалі на людзей з-пад Ноўгарад-Северскага і Чарнігава — лытвыны. Украінамоўныя палешукі звалі люд на поўначы /Слуцак, Слонім/ таксама лытвіны, краіну — адпаведна. Жамойты называлі Каліноўскага «каралём Літвы». Расейцы нашых сялян «величали» «літоўскімі людзьмі», а мову «літоўскай». У творах Пушкіна, Лермантава /паэма «Литвинка»/,

# АБ ЗАХАВАННІ ГРАМАДСКАГА АДЗІНСТВА

## СУПОЛЬНАЯ ЗАЯВА

Эканамічны і палітычны крызіс, у якім апынулася Беларусь, відавочны: спыняюцца прадпрыемствы, вымушана не працуюць людзі. Кіраўніцтва краіны, выбранае і прызначанае ў часы СССР і панавання КПСС, аказалася няздольным праводзіць эканамічныя рэформы і кіраваць новаю незалежнаю дзяржавай. Стары здыскрэдытаваны рэжым стаў на шлях адмаўлення ад нейтралітэту, ад прагрэсіўных рэформаў, ад незалежнасці Беларусі, на шлях супрацоўніцтва з рэакцыйнымі, камуністычнымі, імперскімі коламі Расеі. Гэтыя колы зацікаўлены ў тым, каб захаваць у Беларусі расейскія войскі, паласу супрацьпаветранай і супрацьракетнай абароны Масквы, базы стратэгічных і тактычных ракет — фактычна пакінуць Беларусь у стане краіны-заложніцы.

Сутнасць змовы — у тым, каб, штучна стварыўшы эканамічныя цяжкасці, прымусіць Беларусь уступіць у сістэму калектыўнай бяспекі і ў вайсковы саюз з Расеяй, ліквідаваць нашу дзяржаўную незалежнасць. Выкарыстоўваецца паліўна-энергетычны шантаж і ствараецца штучны дэфіцыт нафты; адбываецца грубы націск на беларускую фінансава-крэдытную сістэму; арганізуюцца розныя палітычныя акцыі.

У Беларусі ніколі не было міжнацыянальнай варажнечы, і шчасце наша — у тым, што яе няма і цяпер, у няпростыя крызісныя часы. Але пракамуністычныя, праімперскія сілы не трацяць надзеі справакаваць у Беларусі сутычкі на нацыянальна-моўнай глебе, унесці ў краіну нестабільнасць і стварыць такім чынам падставы для замацавання таталітарнага імперскага рэжыму.

Раздзімаецца надуманая праблема дзяржаўнага двухмоўя. Чарговаю спробаю распаліць напружанасць стала задума правядзення «кангрэсу народаў Беларусі», з якою выступілі арганізацыі камуністычнага ды імперскага кірунку, аб'яднаныя ў «Народное движение Белоруссии». Сама назва меркаванага мерапрыемства выклікала абурэнне сваёю правакацыйнасцю. Бо народ Беларусі — адзіны, ён не дзеліцца па этнічна-моўных прыкметах; народ Беларусі — гэта ўсе мы разам: і беларусы, і прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў. Нездарма, атрымаўшы адмову з боку арганізацый нацыянальных меншасцяў, ініцыятары мерапрыемства вымушаны былі ўнесці змену ў яго назву /кангрэс не «народаў», а «народа Беларусі»/.

Адсутнасць паўнамоцнага прадстаўніцтва ператварае гэтую акцыю ў палітычны фарс. Арганізатары «кангрэсу» нікога, акрамя саміх сябе, не прадстаўляюць, аднак збіраюцца прыняць на ім патрабаванне аб скасаванні незалежнасці нашае краіны праз канфедэрацыю з Расеяй. Але ж сапраўдную думку народа аб будучыні нашай краіны ўжо выказаў прадстаўнічы З'езд беларусаў свету, што нядаўна адбыўся ў Менску.

Уступіўшы ў канфедэрацыю з Расеяй, Беларусь непазбежна будзе зацягнута ў бясконцыя і крывавыя войны. Але новыя Афганістаны непатрэбныя ніводнаму жыхару Беларусі.

Мы пярэчым спробам знішчыць незалежнасць нашай краіны і перакрэсліць надзею на лепшае ў нашага народа. Мы патрабуем спыніць правакацыйныя намаганні перасварыць людзей Беларусі.

Мы выступаем за незалежную Беларусь, якая мае добрыя дачыненні з усімі суседнімі краінамі і супрацоўнічае з імі на двухбаковай аснове. Мы выступаем за Беларусь, дзе будуць гарантаваныя правы чалавека кожнай нацыянальнасці.

**Ад Беларускага народнага фронту «Адраджэнне» — Зянон ПАЗНЯК**
**Ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады — Алег ТРУСАЎ**
**Ад Згуртавання беларускіх татар «Аль-Кітаб» — Барыс ШАБАНОВІЧ**
**Ад Саюза палякаў Беларусі — Тадэвуш ГАВІН**
**Ад свабоднага прафсаюза Беларусі — Генадзь БЫКАЎ**
**Ад Асацыяцыі ўкраінцаў Беларусі «Ватра» — Багдан МІХАЙЛЮК**
**Ад Беларускай сялянскай партыі — Іван НІКІТЧАНКА**
**Ад Партыі народнай згоды — Іван СТАДУБ**
**Ад Аб'яднання беларускіх яўрэйскіх арганізацый і суполак — Леанід ЛЕВІН**
**Ад Таварыства немцаў Беларусі «Адраджэнне» /Беларускага цэнтра нямецкай культуры/ — Аляксандр МАЙСНЭР**
**Ад Беларуска-Літоўскага Задзіночання — Ян ВОЙНІЧ**
**Ад Жаночага хрысціянска-дэмакратычнага руху Беларусі — Людміла ПЕЦІНА**
**Ад Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» — Ганна СУРМАЧ**
**Ад Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі — Станіслаў ГУСАК**
**Ад Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі — Алесь АПРЫШКА**

# УГОДКІ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

Падобна, што адзначаць угодкі Ларысы Геніюш у Зэльве, ператвараючы іх у маленькую падзею, робіцца традыцыяй. Перадусім расстараўся тэатр «Зніч» — беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра, а менавіта — Галіна Дзягілева, што летась прадставіла публіцы Мінска свой спектакль «Белы сон» паводле «Споведзі» знакамітае паэткі, а потым наладзіла цэлыя гастролі на зямлі, дзе Ларыса Антонаўна выпраўлялася ў свой апошні шлях. Сёлета, 22 жніўня, у зэльвянскіх падзеях чынны ўдзел бралі і прадстаўнікі жаночага хрысціянска-дэмакратычнага руху Беларусі на чале са сваім старшынёй Людмілай Пецінай, а таксама госці з Бельгіі. Асаблівае ўражанне на гасцей і ўдзельнікаў зрабіў спектакль Галіны Дзягілевай, а таксама наведанне надмагілля Геніюшаў.



*Прадстаўніцы жаночага хрысціянска-дэмакратычнага руху Беларусі /у цэнтры — Людміла ПЕЦІНА і Ганна СУРМАЧ/ на могілках.*

*Фота Аляксея ІЛЛІНА*

Астроўскага, Талстога безліч згадак пра літоўскія гарады, рэчкі, войны паміж Масквой і Вільняй і г.д. нават калі самі пісьменнікі не ўсведамлялі «белоруссов» ліцвінамі. Палякі называлі Ягайлу «літоўскім мядзведзем». Гумарыст Задорнаў казаў, што жамойты знімаюць помнік Пушкіну, бо той, бачыце, пакрыўдзіў іх, назваўшы славянамі, і «волнения Литвы» вызначыў як «спор славян между собою».

Як вядома, пасля Люблінскай уніі Украіна перайшла пад Польшчу і ў ВКЛ засталіся Літва /Беларусь/ і Жамойць. І дзяржава стала звацца Вялікае княства Літоўскае і Жамойцкае. Нашы далёкія прадзеды звалі суседзяў-балтаў на паўночным захадзе — жамойты, жамойцы. Чаму ж мы выдумляем нешта, а не кажам і пішам: Жамойцкая рэспубліка, Жамойць і г.д.? Жамойты маюць ад вусатага фашыста Вільню, а яшчэ хочуць прысабечыць з гербам і ўсю гістарычную спадчыну ВКЛ. Спадар Ландсбергіс вунь ужо затурбаваўся: як гэта, маўляў, у нас нейкія беларусы забіраюць нашу гісторыю! Але нічога мы не забіраем, а толькі сваё вяртаем. У часы ВКЛ дзяржаўныя людзі ўсю краіну ведалі толькі як Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае. Літоўскае — цяперашнія «беларускія» землі, Рускае — Украіна, і Жамойць яна і ёсць Жамойць. А вось ужо на нашых землях заходняя частка да дняпроўскай Бярэзіны была Літвой, на ўсходзе — Русь. Людзі называлі сябе рускімі, бо тады моцны ўплыў мела праваслаўная царква, што звалася «рускай». А вось палітычны і этнічны назоў наш — Літва /ліцвіны/. Скарына быў ліцвінам з горада Полацка, што не замінала яму пісаць «Библию руску» — праваслаўную.

Артыкул В.Чаропкі ў «ЛіМе» мусіць пераканаць усіх, хто мы на самай справе ёсць. Беларусь — гэта толькі гістарычная вобласць на ўсходзе нашай дзяржавы — Літвы. Ваша газета павінна прапагандаваць наш сапраўдны назоў — яе чытаюць, чытаюць людзі свядомыя. Давайце вернем сабе нашу славу, вернемся да саміх сябе.

**Сяржук ВАСІЛЕНКА**
*г.Мінск*

# ЦІ ЗАБ'ЁМ СВАЮ ДУШУ?..

***Сярод нацыянальна свядомых беларусаў сталася труізмам падчас разважанняў аб нацыянальнай мове згадваць словы Ф.Багушэвіча пра «апратку душы» чалавека. Крылатае выслоўе прамаўляюць, з яго слушнасцю ніхто не спрачаецца, але многія беларусы па-ранейшаму ставяцца да сваёй мовы, як дзеці да нялюбай мачахі — называюць непрыгожай, нязграбнай, грубай, няразвітай і ўрэшце наогул непатрэбнай.***

А, можа, прычына тоіцца не ў мове, а ў нашай душы? Можа, беларусы таму і не хочуць гаварыць па-беларуску, што ім не падабаецца ўласны нацыянальны характар — ціхі, памяркоўны, разважлівы, хітраваты, але не ганарысты, не задзірлівы, без усялякага налёту месіянства?

А, можа, прычына не ў мове, і не ў душы, а, гаворачы па-сучаснаму, у міжнародным іміджы /маю на ўвазе найперш суседнія народы/? Бо яшчэ з часоў Някрасава жыве ў свядомасці рускіх людзей вобраз цёмнага беларуса з каўтуном у валасах, а сярод сучасных жыхароўскіх існуе ўяўленне пра беларусаў, як пра няпоўнавартасных /у сэнсе агульнай культуры/ рускіх, якія асаблівых дасягненняў у мастацтве і навуцы не маюць і гавораць на нейкай паўмове — дрэннай рускай з дамешкамі польскай. Зрэшты і самі адраджэнцы пачатку XX ст. назвалі беларусаў самым цёмным народам. Праўда, яны мелі на ўвазе якраз узровень нацыянальнай свядомасці, ды хто асабліва на гэта звяртае ўвагу? Самы цёмны — ён і ёсць самы цёмны ва ўсім. І той з беларусаў, хто хацеў «асвятліцца», найперш браўся ачышчаць сваё маўленне ад яго тутэйшых сакавітых фарбаў.

Што ж, у сэнсе мовы наш народ сёння вельмі «пасвятлеў», толькі ці нагода гэта для гонару?

У пачатку XX ст. актывісты беларускага руху, якія згуртаваліся вакол газеты «Наша Ніва», як асноўны аргумент на карысць пашырэння роднай беларускай мовы ў дзяржаўным жыцці Паўночна-Заходняга краю Расійскай імперыі выстаўлялі цяжкасць разумення чужой рускай мовы для прадстаўнікоў карэннага насельніцтва, асабліва дзяцей, таму і дамагаліся права на заснаванне нацыянальнай школы. Цяпер абставіны змяніліся і руская мова для многіх беларускіх гараджан больш зразумелая, чым беларуская. Дык ці засталася патрэба ў пераводзе дзяржаўнага жыцця Беларусі на беларускую мову?

Калі адказваць на гэтае пытанне з пазіцый рацыянальнай логікі, то такой патрэбы няма. Інфармацыю можна перадаваць на любой мове, абы яна была зразумелая адрасату.

Аднак чалавек стаўся «чалавекам разумным» не толькі дзякуючы рацыянальнаму мысленню, але, ці не найперш, дзякуючы яго, на першы погляд, ірацыянальнаму імкненню да прыгожага. Чалавек шукаў лагічных сувязей не толькі ў матэрыяльным свеце, але і ў духоўным. І чым вышэй ён ставіў вартасці духоўныя, тым большага прагрэсу дасягаў у матэрыяльным дабрабыце. Чым больш развіваў сваю душу, тым больш дагледжаным і здаволеным аказвалася цела, і наадварот — прыкладам таму могуць служыць гісторыі Старажытных Егіпта, Грэцыі і Рыма. /Безумоўна, калі не замыкацца на чымсьці адным і не спыняць пошуку шляхоў да ўдасканалення, як гэта здарылася з народамі Азіі/.

А цяпер пра «апратку душы». Мы хочам гаварыць як рускія, апранацца як французы, развіваць эканоміку то як немцы, то як японцы, то як туркі, альбо палякі. Мы хочам... Мы хочам шмат і баімся толькі аднаго — каб не быць беларусамі, бо яны ж «цёмныя».

Смяюцца «светлыя» гарадскія беларусы над мовай «цёмнай дзярэўні». Чырванеюць вясковыя беларусы, стараючыся гаварыць «нібы па-руску», каб «акультурыцца». І ніяк не зразумець і тым, і другім, што не стануць яны ні Андрэямі Балконскімі, ні Наташамі Растовымі, бо руская ў іх толькі мова, а душой яны — беларусы, і адпаведна беларускія вызначальныя рысы іх характару, тып паводзін, бо душу, як мову, не пераменіш па жаданню.

Слухаеш па радыё, глядзіш па тэлевізары, як нашы дзяржаўныя мужы на чале з шаноўным В.Ф.Кебічам, ды незлічоныя шэрагі дырэктараў прадпрыемстваў, старшынь калгасаў і інш. гавораць на жахліва сапсаванай беларускім вымаўленнем, але больш «культурнай» /паводле іх разумення/ рускай мове і разумееш, што мы яшчэ доўга не будзем жыць, як сапраўды культурная нацыя.

А між тым, цывілізаваны свет гатовы прыняць нас менавіта як такіх. Ужо трэці год з ініцыятывы дацэнта філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта У.А.Навумовіча ў Мінску дзейнічае Міжнародная школа беларускай мовы, літаратуры і культуры /МШБ/. Школа праводзіць месячныя курсы па вывучэнню беларускай мовы ўлетку, калі студэнты і вучоныя ўсяго свету маюць вольны час. Гэта дае магчымасць прыехаць усім, хто зацікавіўся нашай культурай. Але наколькі вялікім павінна быць жаданне, каб ахвяраваць дзеля гэтага даўно чаканым адпачынкам! І тым не менш, цікавасць да беларускай культуры і беларускай мовы ў свеце немалая. Сёлета на курсах МШБ займаліся грамадзяне Македоніі, Германіі, Францыі, Японіі; летась былі яшчэ і з Аўстрыі, Швейцарыі, Італіі, Канады, ЗША, Польшчы; пазалетась — яшчэ і з Чэхіі.

Аб прыхільным стаўленні да нашага нацыянальнага адраджэння сведчыць і пазіцыя слухача курсаў француза Калін Дзідзье:

— Пра існаванне Беларусі я даведаўся год сем назад. У Францыі існуе шмат рухаў і часопісаў, якія выступаюць за вызваленне паднявольных народаў. Мой бацька з Фландрыі, маці — з Брытані, таму любоў да малых народаў у мяне з дзяцінства. І калі я пачаў вывучаць славістыку ў Берліне, то свядома хацеў даследаваць не рускую мову. Тады мая выкладчыца параіла вывучаць беларускую. Апрача мовы, мяне цікавяць славянскія традыцыі. Я думаю, што ў Беларусі яны захаваліся лепш, як у Расіі.

Адно з японскіх выдавецтваў заказала маладому вучонаму

*(Працяг на стар. 4)*

Думка чытача

# КОЛЬКІ Ж ІХ, АХВЯР ПАЛІТЫЧНЫХ РЭПРЭСІЙ?

***У «ЛіМе» за 16 ліпеня г. г. быў надрукаваны артыкул доктара гістарычных навук А. Сарокіна «Пад прэсам бальшавізму», у якім аўтар разглядае сутнасць і эвалюцыю палітычных рэпрэсій.***

***Цэнтральнае месца ў гэтым артыкуле займаюць разважанні аб колькасці асоб, рэпрэсіраваных па палітычных матывах на Беларусі. Аўтар адмаўляе ацэначную лічбу ў 600 тысяч ахвяр палітычных рэпрэсій, якая даецца даследчыкамі на аснове дакументальных архіўных матэрыялаў. Са спасылкай толькі на асобныя факты рэпрэсій ён прыходзіць да высновы, што «лічба аб прыкладна 3 млн. жыхароў беларускай вёскі /падкрэслена мною. — У. А./ — ахвяр таталітарнага рэжыму на пачатак 50-х гадоў — хаця не дакладная, але і найбольш верагодная».***

Барані Божа, каб мяне западозрылі ў імкненні неяк зменшыць колькасць ахвяр сталінскага генацыду. І ў рэшце рэшт, лічба ў 600 тысяч чалавек, якія па ацэнках спецыялістаў трапілі на Беларусі ў молах бальшавіцкіх рэпрэсій, выклікае жах, але я лічу, што любыя гістарычныя даследаванні, у тым ліку і тыя, што тычацца рэпрэсіўнай палітыкі камуністычнай сістэмы, павінны грунтавацца на выверaных фактах і дакументах.

Колькасць ахвяр таталітарнага рэжыму сярод сельскіх жыхароў рэспублікі, якая, паводле А. Сарокіна, складае 3 млн. чалавек, не пацвярджаецца дакументальнымі дадзенымі.

Па перапісу насельніцтва 1959 года ў Беларусі пражывала 8.054.600 жыхароў. З іх 5.516.300 — у сельскай мясцовасці. На пачатак 50-х гадоў гэтая лічба была значна меншай. Палавіну ад яе складалі дзеці і састарэлыя людзі. Дык аб якіх 3 мільёнах рэпрэсіраваных сялян можа ісці гаворка? Калі ўсе яны сталі ахвярамі рэжыму, былі сасланы за межы рэспублікі /а рэпрэсіравалі найбольш здаровых і працаздольных мужчын/, то хто ж тады карміў 5 мільёнаў жыхароў Беларусі, што засталіся?

Паважаны Анатоль Мікалаевіч Сарокін, як здаецца, гэта павінен ведаць. Тэма яго навуковых інтарэсаў — вёска, сельская гаспадарка.

А цяпер звернемся да дакументаў і фактаў. Разглядаючы пытанне аб колькасці ахвяр палітычных рэпрэсій, менавіта палітычных, а не ў тым жа ліку крымінальных, аб якіх гаворыць аўтар артыкула, спасылаючыся на «надзвычай жорсткія меры пакарання па законах аб ахове грамадзянскай уласнасці ад 1932 і 1947 гадоў», перш за ўсе патрэбна вызначыць дэфініцыю, хто ж з'яўляўся ахвярамі палітычных рэпрэсій. У сваім артыкуле Анатоль Мікалаевіч адзначае, што «тайнай за сямю пячаткамі застаецца змест паняцця «палітычныя рэпрэсіі». Хацелася б напомніць паважанаму апаненту, што пры падрыхтоўцы пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб парадку рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій 20—50-х гадоў у Рэспубліцы Беларусь» вялася вялікая дыскусія па гэтаму пытанню. І канчатковая рэдакцыя гэтага вызначэння была прынята пасля абмеркавання яго ў аддзеле Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі, у якім прымаў удзел і Анатоль Мікалаевіч Сарокін. Пасля доўгіх дыскусій вучоныя і практыкі спыніліся на такой фармуліроўцы: «неабгрунтавана рэпрэсіраванымі з'яўляюцца грамадзяне Рэспублікі Беларусь, СССР, замежных дзяржаў ці асобы без грамадзянства, прыцягнутыя на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь судовымі ці несудовымі органамі па палітычных, сацыяльных, нацыянальных і другіх матывах да крымінальнай адказнасці за дзяржаўныя /контррэвалюцыйныя/ злачынствы, а таксама ж па гэтых матывах падвергнутыя ссылцы, высылцы, накіраванню на спецпасяленне, выдаленню за межы Рэспублікі Беларусь у адміністрацыйным парадку».

Па-другое, усе мы ў той ці іншай ступені ўскосна з'яўляемся ахвярамі таталітарнай сістэмы. У дадзеным жа канкрэтным выпадку размова пойдзе пра грамадзян Беларусі, якія непасрэдна пацярпелі ад палітычных рэпрэсій, ці другімі словамі прамых ахвяр палітычных рэпрэсій.

Дык пра што сведчаць архіўныя матэрыялы?

Спачатку пра тых, хто быў прыцягнуты да адказнасці судовымі і несудовымі органамі /«двойкамі», «тройкамі», калегіямі АДПУ, НКУС і г. д./.

З пачатку рэабілітацыі ў 1956 годзе па сённяшні дзень у рэспубліцы перагледжана звыш 70 тысяч спраў і рэабілітавана амаль 130 тысяч чалавек. Яшчэ неабходна перагледзець больш 70 тысяч спраў у адносінах да больш за 100 тысяч чалавек. Такім чынам, судовымі і несудовымі органамі ў рэспубліцы па палітычных матывах было прыцягнута да адказнасці звыш 240 тысяч грамадзян.

Усе гэтыя крымінальныя справы поўнасцю захаваліся і знаходзяцца ў архівах Камітэта дзяржаўнай бяспекі рэспублікі. У больш складаным стане знаходзіцца даследаванне рэпрэсій, якія выліліся ў «раскулачванне», а таксама ў ссылку, высылку, арганізацыю спецпасяленняў і г. д. «нядобранадзейных» асоб. Аднак звернемся да наступных лічбаў і фактаў.

У 1930 годзе на Беларусі было «раскулачана» амаль 16 тысяч сялянскіх гаспадарак.

У выніку такога маштабу рэпрэсій супраць сялянства колькасць «кулацкіх» гаспадарак з кожным годам рэзка зніжалася. Сяляне баяліся пашырыць іх лік, таму ішоў раздзел маёмасці і зямлі паміж дарослымі членамі «кулацкай» сям'і. Многія больш-менш заможныя сяляне перасталі набываць у асабістае карыстанне сельгасмашыны і інвентар.

Паводле зводкі Народнага камісарыята фінансаў БССР ад 7 сакавіка 1931 года «Аб выяўленых кулаках, налічаней і спагнаней з іх сумы сельгаспадатку» па стану на 1 сакавіка 1931 года ў 99 раёнах Беларусі налічвался 4252 кулацкія гаспадаркі. З 1931 па 1934 год — да завяршэння ў асноўным калектывізацыі ў рэспубліцы, гэтыя гаспадаркі неабгрунтавана падвяргаліся рэпрэсіям. Па статыстыцы тых гадоў у кулацкіх сем'ях Беларусі было ў сярэднім па 8 чалавек. Нават, калі дапусціць, што ўсе сем'і ў поўным складзе «раскулачваліся» і высяляліся за межы рэспублікі /што адбывалася не заўсёды/, то атрымліваецца лічба ў 261 тысячу чалавек.

Што тычыцца заходняй часткі Беларусі, дык, напрыклад, у інфармацыі па пытанні аб высяленні асаднікаў, якая была накіравана ў Цэнтральны Камітэт ВКП/б/ непасрэдна І. Сталіну, адзначана, што за межы рэспублікі па стану на канец 1940 года выселена 9755 сем'яў асаднікаў і работнікаў лясной аховы агульнай колькасцю 50732 чалавекі. Лічбы дадзены ў разрэзе ўсіх абласцей Заходняй Беларусі. Усяго ж за межы рэспублікі /з заходняй і ўсходняй частак/ у 1939—1941 і ў пасляваенныя гады выселена ў адміністрацыйным парадку 87729 чалавек. Такім чынам, у 30—50-я гады неабгрунтавана рэпрэсіравана ў адміністрацыйным парадку звыш 349 тысяч грамадзян рэспублікі, а агульная лічба ахвяр палітычных рэпрэсій у Беларусі складае каля 600 тысяч чалавек. Вось такая жудасная статыстыка генацыду супраць нашых суайчыннікаў, якія сталі ахвярамі таталітарнай сістэмы перыяду 20—50-х гадоў.

Наш абавязак — аднавіць для гісторыі і ўвекавечыць добрае імя кожнай ахвяры тэрору. З гэтай мэтай у Камітэце па архівах і справаводстве пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь вядзецца персанальны ўлік грамадзян, якія былі неабгрунтавана рэпрэсіраваны па палітычных матывах і пазней рэабілітаваны. З розных месцаў, у тым ліку і з архіваў КДБ і МУС, ідзе сюды інфармацыя па распрацаванай адзінай форме, якая ўтрымлівае асноўныя звесткі аб пацярпелых.

На сённяшні дзень ужо ёсць больш як 50 тысяч такіх картак персанальнага ўліку. Цяпер яны апрацоўваюцца і ўносяцца ў ЭВМ. Менавіта на іх аснове ў некаторых рэгіёнах рэспублікі спісы неабгрунтавана рэпрэсіраваных друкуюць у мясцовым друку, рыхтуюцца матэрыялы для серыі дакументальных хронік «Памяць».

І яшчэ аб адным. Анатоля Мікалаевіча Сарокіна, як ён піша, «непакоіць, што айчынныя аўтары пры характарыстыцы працэсу, па сутнасці, абходзяць бокам падзеі 1917—1920 і 50—80 гадоў». На гэты конт прывяду дакладныя лічбы. У нашай картатэцы знаходзіцца некалькі тысяч чалавек, рэпрэсіраваных па палітычных матывах у 1917—1920 гг., а што тычыцца падзей 50—80 гг., то гэтую лічбу прыводзіць у артыкуле сам А. Сарокін — 150 заяў паступіла ў камісію Вярхоўнага Савета з чэрвеня 1990 года.

**У. АДАМУШКА,**
**кандыдат гістарычных навук, загадчык аддзела Камітэта па архівах і справаводстве пры Саўміне Рэспублікі Беларусь**

# «БЕЛАРУСКАЯ ЛІНГВІСТЫКА»—40

Выйшаў чарговы, можна сказаць, юбілейны, 40-ы выпуск зборніка «Беларуская лінгвістыка», які рыхтуе Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі. Ён адкрываецца артыкуламі вядомых мовазнаўцаў П.Бузука «Да характарыстыкі дыялектаў паўднёвабеларускіх і пераходных да ўкраінскіх» і Я.Воўка-Левановіча «Беларускае аканне». Публікацыя прымеркавана да 100-годдзя нараджэння аўтараў і 50-годдзя іх трагічнай канчыны /1891—1943/.

Важным і актуальным пытанням сучаснага мовазнаўства прысвечаны ўсе наступныя матэрыялы зборніка. Так, у артыкуле Г.Вештарт «Месца размоўнай лексікі ў сучаснай беларускай літаратурнай мове» адзначаюцца рысы, якімі характарызуецца размоўная лексіка, падкрэсліваецца экспрэсіўнасць, ацэначнасць яе семантыкі, праводзіцца класіфікацыя гэтай групы лексікі паводле ролі і функцыі ў мове.

Цікавасць уяўляе артыкул М.Антропава і М.Ісачанкавай «Этнадыялектна-культурная стратыфікацыя Брэсцка-Пінскага Палесся па этналінгвістычных даных», у якім шырока раскрываецца гісторыя складання і развіцця этналінгвістыкі як навукі, вучэнне аб агульнай славянскай і аўтаномнай этналінгвістыцы асобных славянскіх народаў і іх груп, у тым ліку беларускай. Аб'ектам даследавання аўтараў паслужыла лексіка, звязаная з абрадава-культавымі традыцыямі і звычаямі, якіх прытрымліваліся насельнікі розных рэгіёнаў Брэсцка-Пінскага Палесся.

Артыкул Т.Бандарэнкі «Аднасастаўныя пэўна-асабовыя і няпэўна-асабовыя сказы ў паэмах Я.Коласа «Новая зямля» і «Сымон-музыка» прысвечаны структурным тыпам аднасастаўных сказаў і іх выкарыстанню ў творах мастацкай літаратуры. На багатым матэрыяле вызначаюцца граматычныя і семантычныя тыпы пэўна- і няпэўна-асабовых сказаў, раскрываецца іх функцыянальная роля і прызначэнне.

У артыкуле Г.Канцавой «Аб некаторых асаблівасцях таўталагічных атрыбутыўных словазлучэнняў» ставіцца на мэце даследаваць ужыванне аднаго з відаў эпітэтаў вуснай народнай творчасці, разглядаюцца іх структураўтваральныя і семантычныя тыпы, роля і прызначэнне ў мове.

Ю.Мацкевіч і Е.Грынавецкене ў артыкуле «Серан, шарон у беларускіх народных гаворках» раскрываюць семантыку гэтых слоў, іх значэнне, паходжанне і ўжыванне, прaследжваюць фанетычныя відазмяненні і замяшчэнні, якія адбываюцца ў іх структуры. Падаюцца карты-схемы тэрытарыяльнага пашырэння, фанетычныя і граматычныя адметнасці.

М.Гарбачык у артыкуле «Лексіка рамёстваў і прафесій, звязаных з апрацоўкай дрэва» звяртаецца да актуальнай, але яшчэ недаследаванай тэмы. Аналіз лексікі праводзіцца паводле асноўных вырабнічых працэсаў і прафесій, якія ўключаюць восем асноўных груп сацыяльна-прафесійнай лексікі.

Недаследаванай практычна застаецца і такая даволі шырокая галіна мовазнаўства, як сацыяльныя дыялекты. Таму артыкул А.Лукашанца «Аб адной беларускай умоўнай мове» вельмі надзённы і актуальны. Аўтар дае тыпалагічную характарыстыку спосабаў намінацыі на прыкладах выкарыстання штучнай мовы — жаргону адной пэўнай сацыяльнай групы дарэвалюцыйнага грамадства. Матэрыялам для аналізу паслужыў «Руска-жабрацкі слоўнік, складзены з размовы жабракоў Слуцкага павета Мінскай губерні мястэчка Семежава» Ф.Сцяпуры, які налічвае звыш 700 лексічных адзінак. Жабрацкія аргатызмы разглядаюцца ў артыкуле з пункту погляду спосабаў намінацыі ў плане распрацоўкі тыпалогіі сацыяльных дыялектаў, што дазволіць распрацаваць методыку даследавання і іншых сацыяльных груп дыялектаў.

Шэраг артыкулаў прысвечаны пытанням культуры мовы, у раздзеле «Хроніка» змешчаны артыкул П.Міхайлава, прысвечаны 80-годдзю з дня нараджэння члена-карэспандэнта АН Беларусі Ю.Мацкевіч, і інфармацыя В.Курцовай аб міжнароднай канферэнцыі «Руска-беларуска-польскае супастаўляльнае мовазнаўства і літаратуразнаўства», што адбылася 17-18 ліпеня 1990 года ў г.Віцебску.

Несумненна, чарговы зборнік «Беларуская лінгвістыка» зацікавіць усіх, на каго разлічаны: мовазнаўцаў, выкладчыкаў, студэнтаў, настаўнікаў сярэдняй школы, аматараў роднага слова. Пажадаем жа шчаслівага старту і наступным выпускам «Беларускай лінгвістыкі».

**А.НАРКЕВІЧ**

# ЦІ ЗАБ'ЁМ СВАЮ ДУШУ?..

*(Пачатак на стар. 3)*

Такійскага універсітэта Курода Рюнасуке напісанне беларускай граматыкі на японскай мове, і гэтым летам Рюнасуке таксама быў слухачом Міжнароднай школы беларусістыкі.

... Адкрываючы сёлетнія курсы, рэктар МШБ, дэкан філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта, член-карэспандэнт АН Беларусі, прафесар, вядомы літаратуразнаўца і паэт А.А.Лойка ва ўступным слове чытаў свой верш «Дарог бясконцае суседства...» Цудоўны верш. Слухалі яго госці, слухалі мы, гаспадары, і думалася: розныя бываюць дарогі. Розныя сцежкамі бяжыць і лёс беларуская народа. Выбягаў ён на чужыя магістралі і зноў збіваўся — усё шукае свой. Ды толькі ці знойдзе, ці адшукае? Няўжо пабеларуску загаворыць немец, француз і японец, а беларусы палічаць сабе за сорам?

Аберагаць мову, культуру, а значыць і душу беларуса павінны ўсе грамадзяне Беларусі. Вельмі многа робяць дзеля гэтага згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», ТБМ імя Ф.Скарыны, Скарынінскі цэнтр, Беларускае згуртаванне вайскоўцаў і ўжо названая Міжнародная школа беларусістыкі. Але яны гуртуюць прыхільнікаў, свядомых беларусаў і сяброў. А як выхаваць пачуццё патрыятызму, любові і гонару за сваю гісторыю і свой народ у грамадска-пасіўных шэрагах?

Думаецца, выключную ролю тут павінны адыграць тэлебачанне, радыё і прэса. Усе мы ўяўляем сабе амерыканскі, нямецкі, французскі, англійскі і інш. стылі жыцця, паводзін, а які ж беларускі стыль? Няўжо не існуе? Не верыцца. І варта было б яго акрэсліць, рафінаваць ад дамешкаў, вылучыць лепшае, годнае і шырока рэкламаваць. Паверце, нам ёсць чым ганарыцца.

Пакуль жа не стане папулярным і прэстыжным **адчуваць сябе, трымаць сябе, паводзіць сябе як беларус**, масавае адраджэнне не разгорнецца.

... Яшчэ ў 1912 годзе выдаўцы «Нашай Нівы» заўважылі, што ніякая вайна не зможа знішчыць увесь народ. Увесь народ можа знішчыць толькі... сам народ, калі заб'е сваю душу і найперш — мову, якой дыхае душа кожнай нацыі.

Дык ці заб'ём сваю душу, беларусы?

**Павел НАВОЙЧЫК,**
**выкладчык БДУ**

Інтэрв'ю ў нумар

*І верасня ўступілі ў дзеянне 7 артыкулаў Закона аб мовах, што тычацца самых розных аспектаў, звязаных з наданнем беларускай мове статуса дзяржаўнай. Што ўжо зроблена ў гэтым кірунку і што неабходна зрабіць, наколькі беларусы пачалі пачуваць сябе нацыяй, якія праблемы патрабуюць неадкладнага вырашэння ў бліжэйшы час — гэтыя і іншыя пытанні закранаюцца ў гутарцы нашага карэспандэнта са старшынёй Камісіі па культуры, гісторыі і захаванню гістарычнай спадчыны, старшынёй Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны Нілам ГІЛЕВІЧАМ.*

# НІЛ ГІЛЕВІЧ: «ГУБЛЯЦЬ ВЕРУ НАМ НЕ ТРЭБА...»

**— Ніл Сымонавіч, тры гады мінула з моманту ўступлення ў дзеянне Закона аб мовах. Не мною гэта сказана, а многімі ўжо: усім нам дадзены апошні шанц. Ці быць беларусамі, жыць годна, як і належыць цывілізаванаму людству, мацуючы дзяржаўнасць, ці, пра што і падумаць страшна, вяртацца назад, у «Северо-Западный край». Ніл Сымонавіч, вы, як старшыня адной з важнейшых парламенцкіх камісій і старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, так сказаць, знаходзіцеся ў эпіцэнтры ўсіх тых праблем, што звязаны з працэсамі беларусізацыі. Калі ласка, скажыце, наколькі можна сцвярджаць сёння, што Закон аб мовах «запрацаваў»?**

— Думаю, гэта якраз той выпадак, калі лепш недаацаніць, чым пераацаніць. Сёння яшчэ няма падстаў карыстацца словамі «закон запрацаваў» — як ні горка ўсведамляць гэта. Хоць, з другога боку, нельга і сказаць, што наогул у гэтым плане нічога не змянілася і зусім нічога не робіцца. Сёетое змянілася і працягвае — на карысць нашага нацыянальнага адраджэння — мяняцца. Патроху, марудна, аднак ж адчувальна і прыкметна мяняецца ў лепшы бок сама грамадская атмасфера ў адносінах да беларускай мовы, адбываецца пэўны пералом у грамадскай псіхалогіі шырокіх слаёў насельніцтва, — і гэта, бадай, самае важнае, тое галоўнае, што абнадзейвае, дадае ўпэўненасці, натхнення і аптымізму. Каб пэўная тэндэнцыя развіцця запрацавала — неабходна стварыць належныя перадумовы. І яны паступова ствараюцца. На вялікі жаль, не так хутка, як хацелася б. Але губляць веру, а тым больш кідацца ў паніку ад гэтага не трэба. Мова — не тая сфера, дзе перамены адбываюцца лёгка і хутка. Галоўнае — настойліва і паслядоўна весці работу па вяртанню беларускай мовы ў шырокі грамадскі ўжытак, апіраючыся, вядома ж, на закон, на Канстытуцыю дзяржавы. І думкі нельга дапускаць, што свой гістарычны шанц мы, беларусы, упусцім. Ніякіх сумненняў і размагнічвання! Ніякага аслаблення і перадышкі ў працы!

Што да выканання канкрэтных артыкулаў Закона аб мовах... Сітуацыя тут не ўсюды аднолькавая, я сказаў бы — стракатая, але агулам пакуль што няўцешная. З тых звестак, якія пастаянна атрымлівае наша камісія, вынікае старая-старая ісціна: усё залежыць ад канкрэтных людзей, ад тых, хто — кожны на сваім месцы — абавязаны клапаціцца пра ажыццяўленне дзяржаўных законаў. На першае верасня гэтага года павінны быць поўнасцю ўведзены ў дзеянне сем артыкулаў, а менавіта: 11, 27, 28, 29, 31, 32, 35. Можаце ўзяць закон, прачытаць гэтыя артыкулы, а затым праверыць, як і дзе яны «працуюць» у жыцці, у штодзённай грамадскай практыцы. Ні адно міністэрства ці ведамства, якіх гэта датычыць, не забяспечыла іх выкананне ў поўным аб'ёме. Ды што ў поўным — хоць бы напалавіну было зроблена! Натуральна запытацца: а чаму? а па якіх прычынах? Вельмі няпроста адказаць, бо гэтых прычын многа — і аб'ектыўнага, і суб'ектыўнага парадку, часцей — так пераплеценых, што, спрабуючы разабрацца, трапляеш у зачараванае кола. «Няма падрыхтаваных кадраў — няма сродкаў — ніяк не знойдзем спонсараў — не прагаляць жа людзей са службы, яны не вінаватыя, што іх не вучылі мове... Дзе магчымасці ёсць, нешта робім, там і там перайшлі ўжо на беларускую, а там і там яшчэ не...» Пры гэтым трэба мець на ўвазе незвычайную, можна сказаць — легендарную здольнасць нашага чыноўніцтва абысці артыкул закона або знайсці ў ім нейкую шчыліну, каб выкруціцца і апраўдацца.

На жаль, калі выпрацоўваліся артыкулы закона, гэтая «здольнасць» не прадбачылася, разлічвалі — як і павінна быць — на людзей законапаслухмяных і па-дзяржаўнаму зацікаўленых у выкананні закона. Хацелася, каб закон быў дэмакратычны, памяркоўны, каб нікога не пакрыўдзіць, у культурнай жа краіне жывём. Скажам, у артыкуле 29 ветліва агаворана, што мовай афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі, апрача беларускай, «могуць таксама быць руская мова і мовы іншых нацыянальнасцей». Могуць, вядома, і гэта справядліва. Але ж на першым месцы павінна быць мова дзяржаўная — беларуская! А тады ўжо «могуць таксама...» Так робіцца ва ўсіх дзяржавах свету. А ў нас — наадварот. Галоўныя афіцыйныя рэспубліканскія выданні — апрача газеты «Звязда» — усе рускамоўныя /«Народная газета», праўда друкуе матэрыялы і на беларускай мове, але гэта практыка ў прынцыпе заганная і, прашу прабачэння, смехатворная: хацеў бы ўявіць галоўную афіцыйную газету, ну, скажам, Польшчы, на старонках якой сярод польскамоўнага масіва раскіданы тэксты на нейкай іншай мове. А мы глядзім і, падобна, нават не разумеем, якую непавагу да саміх сябе на цэлы свет выстаўляем/. Ну, а хто ж у першую чаргу вінаваты? Тыя, каму гэтыя афіцыйныя выданні належаць.

Мы гаворым пра кепскае выкананне Закона аб мовах, а вы скажыце, які іншы закон Рэспублікі Беларусь выконваецца ў нас бездакорна? Баюся, што такога закона няма. А якое пагадненне, заключанае ў рамках СНД, выконваецца? У друку паведамлялася, што — ніводнае. Ні адно — з прыблізна двухсот падпісаных! Такі час, такая сітуацыя, такія парадкі. Дык, можа, яшчэ трэба радавацца, што нават і ў гэтых умовах наш закон патроху дае аб сабе знаць. Пэўныя зрухі адбыліся. І не толькі ў сферы адукацыі, культуры, навукі. Заўважаюцца яны і на транспарце, і ў гандлі, і ў міліцыі, і ў арміі, і ў многіх іншых сферах грамадскага жыцця.

**— Сапраўды, зрухі ёсць. Вось і літаральна днямі, незадоўга да гэтага інтэрв'ю, патэлефанавалі нам у рэдакцыю з Белкаапсаюза. Цікавіліся, як правільна перакласці на беларускую мову «гарантийный срок сохранения солянки со времени изготовления...» У той жа час, на маю думку, выкананне закона стрымліваецца, так сказаць, і «аб'ектыўнымі» прычынамі. Скажам, усе мы абураемся, як па-ранейшаму з'яўляецца шмат новых рускамоўных перыядычных выданняў. Найбольш гарачыя галовы кідаюць папрокі Міністэрству інфармацыі: яно не павінна іх рэгістраваць і кропка! Проста? А ў нас жа няма Закона аб друку, у якім бы, напрыклад, прама было б сказана: «Новыя рускамоўныя выданні ў рэспубліцы рэгіструюцца ў парадку выключэння». Ці нешта падобнае. А цяпер дзейнічае Закон аб друку неіснуючага СССР, згодна якому гэтыя выданні і рэгіструюцца...**

— Пра афіцыйныя перыядычныя выданні я толькі што сказаў — безумоўна, гэта ненармальная для незалежнай дзяржавы сітуацыя, калі мае месца такая перавага рускамоўных газет над беларускімі. Бо паўстае пытанне: куды ж тады дзяржава ідзе і якімі шляхамі хоча дасягнуць мэты? Калі мы сапраўды зацікаўлены ў станаўленні сваёй уласнай дзяржавы, дзе б сам народ чуўся гаспадаром і забяспечыў сабе жаданы дабрабыт, дык ігнараваць пры гэтым такую рэч, як патрыятычнае выхаванне, — недаравальнае ўпушчэнне. Які патрыятызм, якое радалюбства можна выхаваць, не жывячы гэтае пачуццё любоўю да роднай мовы — першаэлемента нацыянальнай культуры, асновы духоўнасці народа? А нашы афіцыйныя рускамоўныя выданні ўбіваюць у галовы чытачам зусім іншае, праводзяць выхаваўчую лінію ў прама процілеглым кірунку. Нават дазваляюць сабе кпіць і здзекавацца з беларускай мовы, з патрыятычнага пачуцця беларусаў /ад высокай культуры, вядома/. А ўрад — як бы і не чуе і не бачыць. Законны ўрад нацыянальнай дзяржавы!

Што ж да неафіцыйных рускіх газет і газетак — а іх на Беларусі безліч, — то ніякі сапраўды дэмакратычны Закон аб друку іх не забароніць, — пры ўмове, што яны не праводзяць антыдзяржаўную, антынародную палітыку, не прапагандуюць гвалт, жорсткасць, парнаграфію, распусту і іншае недазволенае законамі гадства. У дэмакратычным грамадстве было б дзіўным і гаварыць аб тым, каб не рэгістраваць прыватнае выданне толькі таму, што яно не на дзяржаўнай мове. Паўтараю, — калі яно выданне нармальнае, прыстойнае, культурнае, вытрыманае ў духу павагі да грамадства і законаў дзяржавы. Такія выданні будуць выходзіць, пакуль у іх будуць чытачы. А сілай, прымусам чытачоў ад іх не адвернеш. Мы хочам, каб большала чытачоў у беларускіх выданняў? Дык для гэтага трэба здзейсніць тое галоўнае, пра што мы вядзём гаворку, трэба, каб чытачы — па настроях, пачуццях, перакананнях — станавіліся беларусамі, дакладней — патрыётамі Беларусі і беларушчыны. Апрача таго, трэба больш дбаць пра якасць, пра прафесійны ўзровень нашых выданняў — каб яны былі яшчэ больш цікавымі і змястоўнымі.

А новы, свой Закон аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі патрэбен, ён падрыхтаваны, але, на жаль, да гэтага часу не разгледжаны на сесіі Вярхоўнага Савета. Пры ўсім тым, што мы ведаем аб адносінах у нас да заканадаўчых актаў, названы закон у значнай меры паспрыяе развіццю беларускага друку, радыё і тэлебачэння. Калі, вядома, ад падрыхтаванага праекта не застануцца — пасля абмеркавання на сесіі — рожкі ды ножкі.

**— Безумоўна, кожны артыкул Закона аб мовах варты ўвагі, але, думаецца, артыкул 28 ці не адзін з галоўнейшых. Як вядома, ён называецца «Мова ў сферы культуры». У ім указваецца, што дзяржава «забяспечвае пераклад і выданне на беларускай мове мастацкай, палітычнай, навуковай, вучэбнай і іншай літаратуры, вытворчасць і паказ фільмаў і аўдыёвізуальных твораў». На жаль, менавіта з выкананнем гэтага артыкула становішча ці не найбольш трывожнае. Выпуск літаратуры вядучымі выдавецтвамі «Мастацкая літаратура», «Юнацтва», «Народная асвета» і іншымі рэзка скараціўся, а што ўжо казаць пра перакладную...**

— Вядома, у якім цяжкім становішчы апынулася культура, мастацтва, літаратура, калі ў нас запанавала стыхія дзікага рынку, калі пачалося безагляднае разбазаванне нацыянальных багаццяў. Мастацкая творчасць не можа развівацца без матэрыяльна-фінансавай падтрымкі, а магчымасці дзяржавы на такую падтрымку істотна зменшыліся — нацыянальны бюджэт трашчыць па ўсіх швах і надзей на яго аздараўленне, на паляпшэнне становішча пакуль што не прадбачыцца. І вось у законе запісана, а ў рэальнасці... Праўда, становішча з выданнем арыгінальнай беларускай літаратуры не такое катастрафічнае, як можна падумаць з увагі на агульную эканамічную сітуацыю. У неймаверна цяжкіх умовах калектывы дзяржаўных выдавецтваў стараюцца даць беларускай кнізе «пуцёўку ў жыццё», да чытачоў. У гэтым пераканалі мяне нядаўнія размовы з некаторымі кіраўнікамі выдавецтваў — перш за ўсё з С.А.Андраюком. Як ні будзе складвацца далей эканамічная сітуацыя — абавязак дзяржавы перад нацыянальнай культурай паніжацца не павінен. Тое, што знаходзяцца зычлівыя спонсары, якія падтрымліваюць пэўныя культурныя акцыі /напрыклад, фірма «Дайнова»/, — гэта добра. Але будзем помніць, што і ў самых развітых і самых раскапіталістычных краінах свету такія сферы, як культура, фундаментальная навука, экалогія, у значнай меры і адукацыя «трымаюцца» на дзяржаўным бюджэце.

**— Трывогу выклікае і тое, што ўсё больш актывізуюцца сілы, якія выступаюць за наданне рускай мове статуса другой дзяржаўнай мовы. Пазіцыя Камісіі па гісторыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны сумнення тут не выклікае. Тым не менш, Ніл Сымонавіч, як на вашу думку, можна супрацьстаяць моцнаму націску гэтых сіл? Супрацьстаяць, абараняючы беларускую мову, беларускі народ і адначасова з павагай ставячыся да тых нацыянальных меншасцяў, якія здаўна ў згодзе жывуць на нашай зямлі?**

— Для гэтага, на маё перакананне, трэба паслядоўна, добрасумленна і спакойна праводзіць у жыццё прынятыя Вярхоўным Саветам рэспублікі законы — аб мовах, аб адукацыі, аб культуры, аб захаванні і зберажэнні гістарычнай спадчыны, аб нацыянальных меншасцях... У іх усё прадугледжана для таго, каб, з аднаго боку, забяспечыць дзяржаўнае становішча мове асноўнай карэннай нацыі краіны — беларусаў, гарантаваць адраджэнне беларускай гісторыі і культуры, а, з другога боку, — садзейнічаць і дапамагаць нацыянальным меншасцям на Беларусі развіваць уласныя нацыянальна-культурныя формы духоўнага быцця, у тым ліку і свабодна карыстацца, вывучаць і ведаць родную мову. Гэта датычыць і рускіх, і ўкраінцаў, і палякаў, і яўрэяў, і татараў, і жамойтаў, і прадстаўнікоў іншых нацый, для каго Беларусь — даўным даўно ці нядаўна — стала другою Радзімай.

На вялікі жаль, далёка не ўсім грамадзянам Беларусі хочацца гэтыя добрыя, людскія, дэмакратычныя законы выконваць. Адным — проста па ляноце душы, па заспанасці розуму, а другім — таму, што разумеюць: паўсюднае і няўхільнае ўсталяванне беларускай мовы ў якасці адзінай дзяржаўнай — гэта верны шлях да незалежнасці духу, а апошняе ёсць самая галоўная перадумова незалежнасці палітычнай. А вось гэтага ім страх як не хочацца! Не падабаецца ім дзяржаўны суверэнітэт Беларусі. І хоць Беларусь гатова супрацоўнічаць і з Расіяй і з іншымі былымі рэспублікамі Саюза літаральна па ўсіх магчымых лініях — і ў эканоміцы, і ў экалогіі, і ў навуцы, і ў адукацыі, і ў культуры, — гэтага ім мала. Вярніцеся ў склад «адзінай і непадзельнай»!

Вось гэтыя «другія», што добра ведаюць, чаго хочуць, і з'яўляюцца ініцыятарамі і арганізатарамі руху за наданне рускай мове ў Беларусі статуса дзяржаўнай. Іншымі словамі — за дзве дзяржаўныя мовы ў нашай рэспубліцы. Пры гэтым яны не спыняюцца перад рознымі спекуляцыямі на недасведчанасці людзей, перад падтасоўкай і падменай паняццяў, прычын

*(Працяг на стар. 12)*

*Як чалавека мы здалёку пазнаём па яго паходцы і паставе, так і паэта — з першых радкоў — па рытмічна-інтанацыйным малюнку, па асаблівасцях стылю, па эмацыянальнай афарбоўцы. Пазнаём, вядома, не кожнага, а толькі надзеленага адметным голасам і ў найбольш характэрных для яго творах.*

*Акрамя індывідуальных інтанацый, ёсць непаўторныя інтанацыі часу. Возьмем для прыкладу пачатак стагоддзя: расійскія рэвалюцыйныя ўплывы ды ўласныя нацыянальна-дэмакратычныя тэндэнцыі прыўнеслі ў беларускую паэзію слёзна-праставатыя настроі тыпу «Бо я мужык — дурны мужык». Адпаведнымі былі і псеўданімы: Журба, Гарун, Бядуля, Хмурны. Крыху пазней тон мяняецца: пануе прыўзятасць, гучаць заклікі /«Не ўздыхай, не бядуй, брат замучаны мой!»/, павеяла нейкім масавым аптымізмам. Калі параўнаць вершы гэтага перыяду ў Купалы, Коласа, Гаруна, Цёткі, Багдановіча — тагачасных лідэраў нашай маладой літаратуры, то падумаеш не толькі пра НЕСВАБОДУ мастака ад грамадства, але і пра наяўнасць паэтычнай моды /як бы кашчунна гэта для нечага вуха ні гучала/.*

*Калі да рэвалюцыі галасы ўсё ж адрозніваліся — пры ўсім падабенстве тэм і матываў, то пасля яе курс на творчую нівеліроўку і аднаголоссе становіцца агульнадзяржаўнай задачай. З сумнавядомага ленінскага артыкула вынікала, што калі ўжо літаратура па сваёй прыродзе абавязана некаму служыць, то няхай яна лепей служыць бальшавіцкай партыі. Масавая мабілізацыя ў паэзію грамадска-актыўных, але нярэдка пазбаўленых адпаведных здольнасцей людзей як нельга лепш спрыяла пастаўленай задачы. Постаці па-сапраўднаму таленавітых творцаў, што як адзінокія сосны ўзвышаліся над «бурапенай», на агульную карціну ўплывалі слаба.*

*Асабовага пачатку амаль цалкам пазбаўлена і пасляваенная паэзія. Яна літаральна раздушана ідэалогіяй, перад намі адна шэрая, вартая жалю пляма. Куляшова ад Броўкі і тады, праўда, можна было адрозніць, але гэта чыста знешняе, павярхоўнае адрозненне. Размаітасць жыцця і свету належала ўкласці ў дзве-тры абавязковыя тэмы, партытуры былі распісаны, дырыжор строгі.. Той жа Броўка пры больш спрыяльных для творчасці ўмовах усё ж здолеў вырасці ў паэта — чым не пераканальны аргумент супроць тэорыі і практыкі «партыйнасці літаратуры»?*

*Ажываць, набываць моц і шматгалоссе савецкая паэзія пачала пры «адлізе». Ад радасці, што нарэшце павеяла воляй, яна хапалася за самыя дробныя тэмы, сваволіла, цешылася магчымасцю бегаць басанож, а не тупаць на катурнах ілжывай патэтыкі. Менавіта тады прыйшло ў нашу паэзію пакаленне, якое і сёння ў многім вызначае яе ўзровень і дух. І хоць яшчэ доўга давялося плаціць слоўную даніну партыі і «вечна жывому», але вяртання ў мінулае ўжо быць не магло. Паэты паглыбіліся ў свет пачуццяў; паэткі, не баючыся абвінавачванняў у «камернасці», цэлыя кнігі прысвячалі каханню; спакваля пераадольвалася інерцыя традыцыйных формаў. У 70-ыя гады канчаткова перамагла поліфанія.*

*Кожны вядзе сваю самастойную партыю і грае на чым хоча: хто на скрыпцы, хто на трамбоне, хто на бас-гітары. Усё ішло да таго, што паэзія скора перастане слугаваць дзяржаве, а значыць — не будзе патрэбнай нікому, акрамя жменькі аматараў. Такая цана волі...*

*... Неяк пачула: сэнс музыкі — у інтанацыі. Інтанацыя і для паэзіі рэч немалаважная, з яе пачынаецца знаёмства з аўтарам. Наступная прыступка спазнання — характар лірычнага героя, выяўленне асаблівасцей творчай манеры, паэтычных схільнасцей і слабасцей. Усё гэта дапаўняецца ўспрыманнем паэта як асобы, як чалавека, як грамадзяніна. У выніку маеш агульнае, комплекснае ўяўленне пра таго ці іншага творцу. Адсюль і задума гэтых суб'ектыўных нататкаў.*

*Можа ўзнікнуць пытанне адносна выбару творчых постацяў. Для мяне ў дадзеным выпадку рашаючае значэнне мела тая акалічнасць, што ГЭТЫХ ПАЭТАЎ МОЖНА ПАЗНАЦЬ. Вось чаму ў серыі кароткіх партрэтаў, якія я прапаную чытачу, вы не сустрэнеце імён, а толькі «кодавыя» назовы.*

*Адразу прашу прабачэння, калі раптам сам прыём або, можа, тон маіх нататкаў падасца некаму занадта фамільярным. Перад вамі не літаратуразнаўчае даследаванне, а ўсяго толькі — будзем лічыць так — літаратурная гульня.*

*Буду рада, калі чытачы пазнаюць паэтаў, пра якіх я пішу. Што яны пазнаюць сябе самі, я не сумняваюся...*

*АЎТАР*

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

# «СТАНОВІМСЯ ТЫМ, КІМ ЯШЧЭ НЕ БЫЛІ»

## СПРОБА МІНІ - ПАРТРЭТАЎ

### Эскіз першы. МАЙСТАР.

Як жа называецца гэта старая дзіцячая цацка? Круціш трубачку, а ў ёй зіхатлівыя шкельцы складваюцца ў адвольныя, кожны раз новыя ўзоры. Менавіта такая ўзнікае асацыяцыя, калі чытаеш яго вершы. І хоць асноўнае якраз у бясконцасці варыянтаў, што ствараюцца дзякуючы прыроднаму чуццю слова, але і самі словы-шкельцы — зусім не танны шкляны друз. Такое зззяннепераліванне дае толькі каштоўны, адшліфаваны рукой умельца каменьчык.

**Час адчыняць шуфляды,**
**І скрынкі, і прыскрынкі.**
**Што там у іх —**
**Парады,**
**Падгляды,**
**Звады, здрады**
**Ці светлыя іскрынкі?**

Здаралася, грашыў фармалізмам /нездарма ён перакладаў Вазнясенскага!/: «Лілею млявы плёс люляе...» Назіральны, уважлівы к дэталям, к драбніцам сялянскага побыту:

**У верасня — свой асаблівы пах:**
**Курыць сівец — плыве дымок гаркавы,**
**Зямлёю пахне бульба у капцах.**
**Антонаўкамі — зоры па начах**
**І туманы — ляжалаю атавай.**

У першых кнігах ён элегічны і жартаўлівы адначасова. Метафарычнасць яшчэ не выпінаецца з вершаў, яна — сродак, а не мэта. Пазней, з чацвёртага недзе зборніка, паэта часам цягне на абагульненні, адсюль і назвы вершаў «Зямля», «Мая бацькаўшчына»... Але вось дзіва: варта яму адарваць позірк ад прадметна-канкрэтнага рэчыўнага свету, як слова пачынае адразу траціць у вазе. Ці не занадта лёгка давалася яму складанне вершаў, бо сваім уменнем з гадамі ён пачаў злоўжываць. За вобразамі, якімі б свежымі і самабытнымі яны ні былі, не заўсёды адчуваецца перажытае, вынашанае. Таму, што магло б быць нітачкай у габелене /«Маладога выраю здзіўленыя бровы»/, надаецца вартасць уласна мастацкага палатна. Альбо вось для прыкладу кароткі верш, да якога з фармальнага боку не прыдзярэшся:

**Хай сэрца заходзіцца глуха —**
**Жадання ў сабе не глушы**
**Пабыць**
**На вяршынях духу**
**І на глыбінях душы.**

Паэтычная знаходка? Так. Падобных знаходак многа. Аднак, сутнасна падыходзячы, ні «вяршыняў духу» на далягядзе не назіраецца, ні «глыбіняў душы» праз радкі не прасвечвае. Як некалі казаў сам аўтар, чытача, гэтага стрэлянага вераб'я, на мякіне не правядзеш. Без забяспечанасці «залатым запасам» верш ператвараецца ў прыгожы выштукаваны выраб — тую самую цацку. Можна пагуляць, а можна і ў кут закінуць.

З гадамі, з прыходам сталасці паэт, здаецца, пераадольвае інерцыю ўласнага майстэрства. У нейкім сэнсе даводзіцца «развітвацца з самім сабой», каб прыйсці да сябе самога. У кнігах апошніх гадоў менш лёгкасці, затое болей важкасці зместу. Майстэрства, ураўнаважанае сэнсавай напоўненасцю, і ёсць Паэзія. Бліскучае становіцца золатам. Гульня ў словы — лёсам.

У побыце дасціпнік і насмешнік. Атрымліваючы пасведчанне сябра БНФ, сказаў: «Служу Беларускаму народнаму фронту!» Трошкі злосны, мяркуючы па сатыры і з'едлівых вершыках, што распаўсюджваюцца вусна. Крытыкаваць яго паэзію /зрэшты, як і многіх іншых жывых класікаў/ не прынята.

Тыповы экстраверт і мо з-за гэтага схільны да групаўшчыны. Па колькасці выдадзеных кніг усіх жанраў, бадай, на першым месцы сярод сваіх равеснікаў.

### Эскіз другі. МУДРЭЦ.

Каб палюбіць яго паэзію, у яе трэба доўга і цярпліва ўчытвацца. Ён прамаўляе разважліва, няспешна, з паўторамі, з варыяцыямі. Можа скласціся ўражанне, што ён не столькі хоча быць пачутым, колькі засяроджана слухае самога сябе. Гэта паэзія інтэлекту, перавагі разумовага пачатку над пачуццёвым і публіцыстычным.

Уважлівы да свайго духоўнага росту, патрабавальны да іншых.

**Абрастаем болямі, охамі.**
**Як валун абрастае мохам,**
**абрастаем мохам абставін.**
**Абрастаем даўгамі, хвастамі...**

Жыццёвая канкрэтыка для яго — толькі ўзлётная пляцоўка. Мэта і звышзадача — падняцца ў «неба ідэалу». Абвострана ўспрымае ўсё, што звязана з маральнасцю, з грамадзянскім абавязкам. Яго герой няўступчывы, у пэўных выпадках — непрымірымы, але голасу ніколі не павышае. Нават тады, калі абураецца. Жартаўлівы ў жыцці, у творчасці паэт ці не занадта сур'ёзны, толькі калі-нікалі сустрэнешся з усмешкай ці лёгкай іроніяй. Часамі — задужа павучальны, робіць вывады там, дзе чытач ужо ўсё даўно зразумеў:

**Хібам нашым ёсць апраўданне,**
**подласці апраўдання няма.**

Схільны падключацца да «ўсепланетнай сістэмы» агульначалавечых каштоўнасцей, ён, тым не менш, заўжды абапіраецца на глебу перажытага, дакладны ў дэталях, тонкі ў псіхалагічным малюнку. Рэфлексуе. У плане самарэфлексіі цікавы, на мой погляд, верш пра анёла. Херувім сабраў анёлаў і пачаў іх хваліць, дзякаваць за добрую службу. Анёлы расчуліліся, і толькі адзін з іх паводзіў сябе дзіўна: маўчаў, унурыўшыся, а потым узбунтаваўся. Анёл усумніўся ў сваім праве быць бездакорным, калі вакол — суцэльны грэх.

**На небе быў страшны перапалох.**
**Анёлы рыкалі, як звяры.**

І характэрная, іранічна-няпэўная канцоўка:

**Не ведаю я, як вырашыў Бог,**
**якія прыняў ён меры.**

Сярод ідэй, ідэалаў і таму падобных абстрактных паняццяў у яго паэзіі знаходзіцца месца і чалавеку. Прычым не нейкаму там герою ці супермену, а чалавеку звычайнаму, радавому, так званаму простаму. У ім паэт умее разгледзець лепшае, шчыра спачувае яму ў ягоных бедах і нават, як сапраўдны інтэлігент, у нечым перад ім вінаваціцца. «Даруйце, даруйце!» — па-хрысціянску просіць ён прабачэння, звяртаючыся да маці і да сына, да жанчыны і да сябра — да ўсяго свету, і прагне скупіць віну: «Я з пошласці, з бруду няўмольна, няўхільна цягнуць сябе буду».

Прага чалавечнасці спараджае філасофію чалавечнасці — філасофію найвышэйшага кшталту.

**Сумленне —**
**заўсёды**
**на лаўцы падсудных.**
**Само сябе судзіць,**
**само сябе судзіць.**
**Тым самым ратуе яно**
**сваю сутнасць.**

Адносіцца да катэгорыі «малапішучых». Паэтычны імпульс выспявае ў ім марудна, цяжка, таму, магчыма, і стыль цяжкаваты. Вусным красамоўствам таксама не вызначаецца. Справядліва будзе сказаць: піша як гаворыць.

Мае добры густ, і калі перабірае, то адно ў паўторах. З жанчынамі джэнтльмен, што на сёння з'ява амаль рэліктавая. Тыповы інтраверт і прыроджаны дыпламат. Апошняе спатрэбілася яму ў сферы палітыкі, якой усур'ёз, на мой погляд, заняўся.

### Эскіз трэці. АРАТАР.

Ясная, упэўненая, пераканаўчая інтанацыя. Цвярозы аналітычны розум, спалучаны з паэтычным талентам, апелюе і да свядомасці, і да пачуцця. Магутны публіцыстычны зарад.

**Куды ж і з кім па безгалоўю**
**Ісці табе — праз буралом?**
**З любоўю, братачка, з любоўю!**
**З сумленнем,**
**З праўдай**
**І з дабром!**

Здаецца, ён упэўнены, што яго чуюць усе, не могуць не чуць, не запаліцца яго святой верай у адзінага бога, імя якому — Бацькаўшчына. Ці не з-за гэтай упэўненасці ён часам «пераціскае», часам прамаўляе як бы звысоку /з лектарскай трыбуны?/. І як жа прыкра бывае ўсведамляць, што слухаць некаторыя не жадаюць, іншым, чужым багам моляцца, што ім варожае ўсё, па чым збалелася тваё сэрца. Тады ён крыўдуе і крыўды схаваць не можа — на нейкую там «мадам» ці яшчэ каго. Ас палемікі — як у вершах, так і ў форме газетнага артыкула: тактоўна спапяляе.

Публіцыстычнасць не заўжды пераважала ў яго творчасці: былі мінорныя актавы, медытатыўныя санеты, здзеклівыя «замовы», апавядальныя паэмы: жанравая палітра куды багацей за выяўленчую. Не выключана, што паэт свядома абмяжоўвае сябе ў выбары мастацкіх сродкаў — разумеючы, што гэта толькі **сродкі** і выкрунтасы стылю падчас зацямняюць сэнс або, нават, камуфлююць адсутнасць сэнсу.

Рана стаў на ногі ў сацыяльным і прафесійным плане. Шмат зрабіў для філалагічнай навукі. Зычліва сустрэты старэйшымі, рана склаўся як паэт, можа, таму і сам любіць апекавацца літаратурнай моладдзю.

**Вось і прыйшла пара для справаздач.**
**Авансаў больш не выдаюць, хоць плач, —**

напісана ў 1965 г., ва ўзросце, які для сённяшніх творцаў з'яўляецца ледзь не «садаўскім».

У свой час, як і ўсе, меў ілюзіі адносна «праграмы шчасця грандыёзнай», але і тады паказваў характар: «табе выгадней, каб я быў без душы, нямым і пакорлівым робатам?»

Асноўная ўласцівасць паэтычнай манеры — прастата, я сказала б — годная прастата, бо за ёй і неардынарнасць асобы, і высокая моўная культура.

**Гэта спадчына**
**Мне засталася ад прадзедаў —**
**Гэта матчыных**
**Песень дзівоснае прадзіва:**
**І вясёлых,**
**І сумных,**
**І слёзных,**
**І грозных...**

/Заўважым, што любоў да роднай песні — тут зусім не рытарычная фігура, яна пацверджана руплівай працай на ніве фалькларыстыкі/.

Асноўная «болевая кропка» — у сферы нацыянальнага. Гэта кропка сёння развярэджана і дамінуе над астатнім. У вершах пра «скарб бясцэнны» — мову, у палкім прамаўленні да суайчыннікаў паэт дасягае найвышэйшага эмацыянальнага напалу. Аднак пры адной вядучай ноце ўражання аднастайнасці не ўзнікае. Самапаўтораў амаль няма.

Апошнім часам знайшоў сябе ў палітыцы. Паслядоўны незалежнік, хаця рэзкіх рухаў і крайнасцей пазбягае. Нераўнадушны да пахвалы і грамадскага прызнання. Мяркуючы па грамадскай актыўнасці, яшчэ праявіць сябе ў ролі «дзяржаўнага мужа».

## Эскіз чацвёрты. ПАТРЫЁТ.

Як быццам на добрай машыне едзеш па роўнай дарозе і пазіраеш праз акно. Каб страсянула хоць раз, каб падкінула!.. Вока ледзь паспявае фіксаваць прыкметы навакольля: пярэстую страху ўдовінай хаты, постаць дзядзькі на валуне, коней на атаве, капусту ў гародах, адмытыя дажджом бярозы... «Не забывай пра карані!» — гэты наказ мог бы стаць эпіграфам да ўсёй творчасці паэта. Повязь з першавытокамі, з асновамі народнага быцця, з роднай зямлёй дэкларуецца нястомна і настойліва. У пэўныя часы гэта лічылася добрым тонам для ўсякага нармальнага беларускага паэта, ніводная нізка не абыходзілася без патрыятычнага «паравозіка». Але тут іншы выпадак: перад намі паэт ярка выяўленага грамадзянскага тэмпераменту. Наколькі адметна і ярка ўвасабляецца гэты тэмперамент — пытанне таксама іншае, і мы яго не абмінём.

Яго лірычны герой — чалавек неабыякавы да жыцця, дзейсны, прамы і адкрыты характарам.

**І не думаць толькі пра сябе,**
**А пра іншых клапаціцца болей, —**

вось яго маральнае крэда. У гэтай паэзіі людна: тут маці, дзед, землякі, партызаны, падлеткі, дачушка, суседка, салдат, камбайнер, госці, сляпы баяніст, шахцёр... Для кожнага знаходзяцца цёплыя, прачулыя словы. Што аўтар любіць сваю малую радзіму, сваю Бацькаўшчыну — няма ніякага сумнення. Адно незразумела: адкуль жа бяруцца тыя сцёртыя штампы, якімі выказваецца сыноўняя любоў, — «высокая зямля», «родныя нівы», «дарагія магілы», «балючыя раны», «трывожная радасць», «шчаслівы будзень», «век імклівы»? Чаму «святое пачуццё айчыны» задавальняецца гэткім банальным «джэнтльменскім наборам»? Лішне будзе казаць пра тое, што воблік Радзімы прыхарошаны, з'ідэалізаваны /ад асноўнага правіла сацрэалізму мала хто асмеліваўся адступаць і са старэйшых, і з маладых/.

У яго кнігах няма відавочна слабых у мастацкіх адносінах вершаў, але не шмат і творчых узлётаў — нейкая выраўненая атрымліваецца кардыяграма. Між тым ёсць трапныя назіранні: «Валюхаецца ў рэчцы сом чорнаю галавешкай», малыя сядзяць на лаўцы, «як боб у зялёным струку». Ёсць роздум пра свет і пра сваё прызначэнне на зямлі, сустракаецца нават афарызмы:

**Жыцця ніколі не бывае многа,**
**Так, як і праўды —**
**колькі ні жыві.**

Маштабнасць абагульненняў, схільнасць да апісальнасці, ураўнаважанасць тону... Чакайце, дык гэта ж рысы эпікі, а не лірыкі! Невыпадкова не вершы, а паэмы гэтага аўтара атрымалі высокую ацэнку крытыкі і грамадскасці: і словы ў іх знаходзяцца сапраўдныя, да слёз працінаюць, і напружанне ствараецца не рыторыкай, не лабавымі дэкларацыямі, а паўнакроўнымі мастацкімі вобразамі.

Падаецца таксама, што паэт злоўжывае публіцыстычнымі сродкамі выказвання, што цэлы мацярык — яго ўнутраны свет — застаецца для чытача белай плямай. Ці не занадта старанна ён хавае ад нас асабістае жыццё — не раўнуючы, як рэзідэнт разведкі — шыфр. Верагодна, што якраз з-за гэтай дыстанцыі, з-за празмернай асцярожнасці герой яго паэзіі занадта правільны, станоўчы, «дыстыляваны», што не вельмі натуральна з жыццёвага боку і непераканаўча — з мастацкага. /Адтуль, адтуль завядзёнка — з сацрэалізму! Аніякія ж слабасці і заганы не павінны мець месца ў вобліку будаўніка камунізму!/

«Адпусці сваё сэрца на волю», — хочацца параіць паважанаму аўтару яго ж словамі. Не заціскай яго ў кулак, бо яно ў цябе звычайнае, чалавечае, і баліць, напэўна, не толькі з-за чужых бедаў.

Неблагі арганізатар і кіраўнік. Актыўны ў адстойванні беларушчыны.

## Эскіз пяты. АКЦЁР.

Выступае пераважна ў амплуа абыякавай да чужых позіркаў славутасці. Але азіраецца ў партэры. Па сутнасці безабаронны, як і ўсякі паэт ад Бога, і яго паэтычная бравада — гэта шчыт, якім прыкрываецца збалелае сэрца.

Чытаць яго вершы трэба абавязкова з паўзамі. Паўзы ствараюць уражанне прасторы і надаюць словам больш сэнсу, чым у іх змяшчаецца.

Спакуса —
**Сусвет скалануць,**
**На пах паспытаць і на смак.**
**Ды страшна, што могуць пачуць.**
**Пачулі! Спускаюць сабак!**

Схільны да панаццяў высокіх, значных, здольных вышэгнуць верш з побытавага плана ў надпобытавы, адсюль — «Сусвет», «век», «памяць», «светлыя далі», «Вечны агонь»... Прысутнічае і ваенная тэма, што для яго пакалення ўжо не характэрна.

Бадай, асноўнае ў яго светаўспрыманні — амаль фізічнае адчуванне хуткаплыннасці часу, што перадаецца сродкамі скупымі, але выразнымі. Улюбёны паэтычны матыў — дарогі, шляху /вынік шматлікіх паездак?/.

**Мой спадарожнік, мы не галернікі**
**Не прыкаваны!**
**Нашы надзеі, нашы амерыкі**
**Не адкрываны.**

Любіць прыём кантрасту, збліжэння непадобных з'яў і рэчаў:

**Не карай мяне ўсёдараваннем!**
**Злітуйся...**
**Даруй мне...**
**Пракляні...**

Яго каханне з адценнем драматызму /што добра відно з папярэдняй цытаты/. Яго герой — чалавек глыбокіх і трывалых пачуццяў, які прагне разумення і чалавечага цяпла.

У пару бурнай камсамольскай маладосці грашыў таннай рамантыкай, «БАМ», як і іншыя «будоўлі веку», без яго пяра не абышоўся. Пэўнай пастаноўкі голасу і некаторай позы ад яго патрабавала эстрада, з якой ён пасябраваў з тых самых камсамольскіх гадоў. Увесь Савецкі Саюз быў удзячнай эстраднай пляцоўкай. Мне даводзілася назіраць, як перад паэтам замірала шматтысячная маскоўская маладзёжная аўдыторыя. У некай ступені ён сапраўды акцёр, бо добра валодае дыялогам і размоўным слэнгам, а вершы свае не проста чытае — выконвае. У нас такой чытальніцкай школы няма і блізка, гэта школа рускай паэзіі, сучаснымі прадстаўнікамі якой з'яўляюцца Еўтушэнка і Вазнясенскі.

Здаецца, з прыцэлам на публічнае выкананне ў яго шмат што напісана. Ну, напрыклад, вось гэтае:

**Што, Валодзька?.. Зноў, здаецца,**
**З каляіны выбіла...**
**Ах, як выбалела сэрца!**
**Ах, як выбалела.**
**Таргаваў на кірмашы**
**Весела ранетамі...**
**Вершаў сумных не пішы.**
**Дурань гэтакі.**

Відно па ўсім, што песіміст, але хочацца думаць, што маска хранічнай абыякавасці на яго твары — толькі маска, толькі частка таго самага іміджу ўдачлівага, спешчанага лёсам прыгажуна.

Да палітыкі індыферэнтны. Нягледзячы на сапраўдны або ўяўны сплін, любіць жаночую ўвагу і сябруе з начальствам.

## Эскіз шосты. ПРАРОК.

Існуе выключна ў свеце высокіх матэрый. На вышыні, як вядома, паветра разрэджана, там выжываюць толькі моцныя духам ды загартаваныя целам. Ёсць меркаванне, што дасканала вывучыў філасофію Усходу і шмат што ўзяў. Не выключана, што займаецца медытацыяй альбо нават класічнай ёгай. Славалюбства калі і меў, пераадолеў, публічныя зборышчы пазбягае, аддае перавагу вузкім кантактам на ўзроўні Настаўнік-Вучань. Наконт вучняў звестак няма, а вось паслядоўнікаў і перамальнікаў шмат. Кажуць, стварылася цэлая школа. Гэта адказна.

У першай кнізе нішто, здаецца, не прадвяшчала будучага радыкалізму ў адносінах да формы. Варта падкрэсліць, што пры ўсіх пошуках і навацыях форма ў гэтага аўтара — не самамэта, яна падпарадкавана зместу і вынікае з яго. «Усё менш ува мне мяне, і ўсё больш бязмежжа». Паспрабуйце выкласці гэтую тэзу з дапамогай якога-небудзь ямба, ці атрымаецца што?

Балансуе на лязе паміж філасофскай паэзіяй і ўласна філасофіяй, у большасці выпадкаў перамагае ўсё ж паэзія.

**Але хіба ведае дзічка, чаму яна дзічка?**
**Але хіба ведае горкі палын, чаму ён**
**горкі палын?**
**І хіба ведаюць людзі, чаму яны людзі?**

Здзіўляе яго ўменне перадаць танчэйшыя адценні і пераліvы думкі пры дапамозе нейтральнай лексікі. Прычым нейтральная з абстрактнай утвараюць вельмі арганічны сімбіёз. Найбольш падабаюцца мне ў яго вольным вершам напісаныя паэмы. Пазней яму спатрэбяцца пункціры — настолькі раздробіцца на атамы, разбяжыцца яго бязмежны сусвет. А покуль космас яшчэ большменш цэласны. Цэласны, але не гарманічны: гармонія парушана, хаос абудзіўся і пульсуе, як раскрытае нажом хірурга сэрца, разбухае, запаўняе сабой прастору. Ад яго няма ратунку, акрамя як зжыць у творчасці — **у вымаўленні сябе**. Слова тут зусім не гліна, не цагліны, з якіх складваюць палац ці царкву. У гэтага слова неверагодная вага, немагчымая сканцэнтраванасць — як у рэчыва зоркі, што ўпала ў калапс. /Такая зорка толькі паглынае энергію, не выпраменьваючы, і робіцца нябачнай для назіральніка/. **Так** пісаць працягнуў час нельга. На мой погляд — самагубна: самому можна скалапсаваць...

**О ненавідная,**
**прыйдзі і адпусці! —**

моліць паэт, заціскаючы, як у містычным трылеры, крывавую рану на грудзях. Каго моліць? Каханую? Музу? О, яна не адпускае так лёгка, тым больш пасвечаных!..

«Вяршыні духа» бялеюцца ў аддаленні. Звычайнаму чытачу іх не адолець, ды і патрэбы такой няма — абавязкова дайсці да ўсіх. Дасаткова, што яго абагаўляе інтэлектуальная эліта — тая, што ўзмоцнена вывучае Ніцшэ і Камю. Дасць Бог, знойдзецца прарок і ў нашай Айчыне!

Засяроджанасць і адасобленасць ад жыццёвага тлуму — звычайны стан гэтага паэта і мысліцеля. Пашырае абсяг інтэрэсаў і сфер выяўлення праз кантакт з мастакоўскім асяроддзем. У студэнцкія гады здзейсніў **учынак**, што мела рэзананс і было належна ацэнена шчырымі беларусамі. Мабыць, яму аднолькава да твару былі б і німб святога, і арэол дэманічнасці, і лаўры мадэрніста-першапраходцы. Што яму самому больш даспадобы — не ведаю.

**На маёй дарозе ўзгоркі і ўпадзіны.**
**Але гэта м а я дарога: яна рухаецца,**
**яна развражае, яна размаўляе, яна ўдакладняе маю хаду.**

## Эскіз сёмы. ПАЛЯШУК.

Увасабляе ў слова дух паганства з яго першабытнай дзікасцю і прыўнесенай сённяшнім уяўленнем паэтычнасцю. «Самыя вясёлыя і галасістыя салаўі на вясковых могілках», — сцвярджае ён. Да могілак мы вернемся ніжэй, а зараз пакуль пачытаем.

**Былі сухмені, і былі залевы,**
**і стрэхі хат, як прывіды, плылі,**
**тады алені, журавы і дрэвы**
**да астравоў мой радавод вялі.**

Тут адчуванне повязі з родам, з зямлёй, з каранямі не на ўзроўні канстатацыі, — яно глыбіннае, геннае, амаль падсвядомае. «Ваўчыцы галодны смех», «расце раса», «трэснуў лёд, быццам трэснула жыла», «і ў ручаёх жывое стыхіяў», «сабака ў горы пасівеў» — усё гэта не толькі вобразна і самабытна, але і паказальна ў сэнсе пантэістычнасці светаадчування. Цікавая з'ява: як увогуле старажытнейшыя пласты псіхікі і светаўспрымання сёння могуць абудзіцца ў душы сучаснага, быццам бы цывілізаванага чалавека. Цывілізацыя, якую так модна супрацьпастаўляць культуры, даўно павінна была б усе гэтыя парасткі загалтаць. Цуд мастацкай творчасці? Адметнасць суб'екта?

Адна з характэрных рысаў — апакаліптычныя настроі і матывы, што літаральна пранізваюць яго апошнія па часе творы. Тутэйшы Эдгар По на могілках сапраўды адчувае сябе ўтульней, чымся ў гарадской кватэры, ад якой часам хочацца бегчы куды вочы глядзяць. Там, дзе бацька і дзяды, няма чаго баяцца. Іх дух агорне і дасць супакаенне. Але ад верша да верша фарбы згушчаюцца. У лірычнага героя і сляза «з крывавым прожылкам», і сэрца ягонае «дзяўбуць крумкачы», і кола яго штодзень перааджае — д'яблава і богава аднычасова. Два пачаткі змагаюцца ў душы героя /дакладней, за яго душу/ — чорны і светлы, і мы назіраем за гэтай барацьбой не без боязі і нервовай напругі. Распятасць на крыжы паэзіі — знак абранасці ці асуджанасці? Хаця, як помніца, нехта сцвярджаў, што гэта адно і тое ж...

«Цяжкія, гнятлівыя радкі», балансаванне на вастрыі ляза, небяспечная гульня з прывідам небыцця /выпрабаванне сябе? выклік лёсу?/.

**Жыццё — вялікая мана,**
**І толькі смерць не пазнанне.**

«Таптаці поле валуны» — нібы трызненне хворага, нібы ўвасоблены сродкамі паэзіі фрагмент з карціны Босха, — па сутнасці маленькі шэдэўр. Я захапляюся б многімі яго вершамі, каб не столькі ў іх чарноцця, каб не былі яны дзецьмі змучанага грахом духа. Напэўна, перад намі той класічны выпадак, калі эстэтыка з этыкай не вельмі мірацца...

Паэт мае цікавасць да гістарычных постацяў, і ў дачыненні да гісторыі яго драматызм не мае адцення надрыву. Мяркуючы па шматлікіх літаратурных імёнах, прысвячэннях і рэмінісцэнцыях, у літаратуры ўсім не адчувае сябе навічком. Супраць наймення «малады паэт» катэгарычна пратэстуе. Прызначэнне паэзіі, асоба і натоўп, мера асабістай адказнасці за ўсё, што дзеецца на Айчыне — вось асноўныя накірункі яго паэтычнага роздуму. У адрозненне ад «ціхіх» сваіх равеснікаў, актыўны ў дзеянні, якое, на жаль, зачаста пераходзіць у антыдзеянне. Маю на ўвазе адыёзнасць паводзін і поўнае ігнараванне правіл добрага тону. Так што слава ў яго, як калісь у Ясеніна, скандальная і, на жаль, распаўсюджваецца на ўсё асяроддзе беларускіх літаратараў.

У свой час быў арганізатарам і лідэрам аб'яднання літаратурнай моладзі «Тутэйшыя». Аўтарытэтаў для яго не існуе, у тым ліку і ўласнага.

***ПАСЛЯСЛОЎЕ. Быў намер накідаць і такія творчыя партрэты: «Добры хлопец», «Эстэт», «Вечны юнак», але ёсць пагроза збіцца на скорагаворку. Акрамя таго, не хапае фактуры — усяго, што тычыцца асабовых і чалавечых праяў. І самае, бадай, істотнае — далёка не ўсе творчыя індывідуальнасці паддаюцца адназначнаму называнню, і ўжо адно гэта выводзіць іх за межы гэтай літаратурнай прыхамаці. Хто ведае, можа, яно і да лепшага?..***

Віншуем!

# УЛАДЗІМІРУ КАЗБЕРУКУ — 70



Плённасць літаратуразнаўчых і даследчыцкіх росшукаў Уладзіміра Казберука тлумачыцца, бадай, яго багатым жыццёвым і творчым шляхам. Нарадзіўся 29 жніўня 1923 года ў вёсцы Бандары, цяпер тэрыторыя Беластоцкага ваяводства Рэспублікі Польшча. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў 1949 годзе працаваў выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ў Любчанскай сярэдняй школе, а з 1951 па 1952 год выкладаў рускую мову і літаратуру ў Нягневіцкай сярэдняй школе, што на Навагрудчыне.

Закончыў аспірантуру пры Мінскім дзяржаўным педагагічным інстытуце, быў выкладчыкам Полацкага педагагічнага вучылішча імя Ф.Скарыны. З 1959 года звязаў свой лёс з Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі, дзе і працаваў да выхаду на пенсію.

Літаратурную дзейнасць пачаў з рэцэнзій, крытычных артыкулаў, першыя з якіх апублікаваў у 1958 годзе. Ужо сам пералік асноўных кніг У.Казберука сведчыць, наколькі пільна прыглядаецца аўтар да складаных праблем літаратуры — «Якуб Колас у школе» /1967/, «Паэма Якуба Коласа «Новая зямля» /1979/, раздзелы ў «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры» /т.2, 1969/...

1974 годам пазначана манаграфія У.Казберука «Ступені росту». Гэтая праца, што мае падзагаловак «Беларуская літаратура канца XIX — пачатку XX стст. і традыцыі польскіх пісьменнікаў», і сёння прыцягвае ўвагу глыбокай аўтарскай дасведчанасцю, эрудзіраванасцю. У.Казбярук, прынамсі, стаў першым, хто падрабязна расказаў пра польскую паэтэсу і перакладчыцу Зоф'ю Тжашчкоўскую, якая, дарэчы, нарадзілася ў вёсцы Дарагавіца цяперашняга Капыльскага раёна.

Апошнім часам імя У.Казберука часта можна сустрэць на старонках часопісаў «Полымя», «Спадчына», «Роднае слова» /«Беларуская мова і літаратура ў школе»/ і іншых. Пастаянны ён і аўтар «ЛіМа». Як правіла, яго кожная публікацыя прыцягвае да сябе ўвагу, бо ён раскрывае невядомыя і малавядомыя старонкі гісторыі літаратурнага і ўвогуле культурнага жыцця на Беларусі, уносіць удакладненні ў асэнсаванне асобных момантаў мінуўшчыны.

З днём нараджэння, Уладзімір Міхайлавіч! Хай і надалей спадарожнічае вам творчы поспех!

# ЯШЧЭ АДЗІН ЮБІЛЕЙ...

Выйшла шасцідзесятая кніжка «Бібліятэкі маладосці». Ёй стаў зборнік апавяданняў Уладзіміра Дуктава «Дзякуй і даруй».

Хто незнаёмы з аўтарам, нагадаем, што ён друкаваўся ўжо ў «ЛіМе», часопісе «Маладосць», калектыўных зборніках. Працуе У.Дуктаў галоўным рэдактарам магілёўскай раённай газеты. Што тычыцца непасрэдна твораў, дык яны ў добрым сэнсе гэтага слова традыцыйныя, хоць аўтару і не адмовіш у сваім поглядзе на складаныя праблемы жыцця.

Н.К.

Васіль ЖУКОВІЧ



## МАЎЧАННЕ — НЕ ЗОЛАТА

1

**Маўчыш, народзе, згорбіў плечы,
трываеш ты сваю галечу
і здраднікаў высокі зброд.
Маўчыш, народ, —
цярпі, народ!..**

**Сваіх чыноўнікаў прадажных,
бугроў пыхлівых, дужа важных,
чужых, і іх увесь прыплод
кармі, народ,
паі, народ!..**

**Служы, ахвяра прыніжэнняў,
рабаўнікам тваіх кішэняў,
рабаўнікам тваёй душы...
Дзе ж край цярпення,
адкажы?**

2

**І жаль не раз мяне бярэ і жах:
няўжо, народ, падняцца ты не ў стане!
Як прыніжаць сябе не перастанеш,
цябе не перастануць зневажаць.**

**Устань з каленяў — волю набліжай.
Супроць сваіх прадаўцаў не паўстанеш —
па сутнасці арганікаю станеш,
якая ім памножыць ураджай...**

**Самазабойства — самазабыццё,
тваё маўчанне — гэта патуранне;
эксперымент народзіць «адкрыццё»:**

**паставяць у вярхах сваіх пытанне —
«Ці трэба табе мова і жыццё?»
і «высветляць»: даволі... існавання.**

●

**Ты ідзеш,
а за табой — гайня,
след вынюхвае
з шалёным брэхам —
і ляціць, ірве прастору
рэха;
над табой — чароды гругання.**

**Д'яблы
сілы чорныя ўсё будзяць,
ім не даспадобы ты, прарок.
Ты ідзеш
і твой рашучы крок:
людзі там, знявераныя, блудзяць...**

**Выведзеш іх ты
з маны, лухты,
у сэрцы данясеш ім праўды словы;
гэты скарб нясеш ты без аховы. —
бог шануе ўчынак твой святы.**

●

**Іуду я сустрэў на тратуары,
дваццатага стагоддзя «дзеяча».
Ні пакаяння на драпежным твары,
Ні страху, ані сораму ў вачах.**

**Настаўніка распялі ў трыццаць сёмым.
А гэты, у каго язык — змяя,
жыве сабе, бадзёры і вясёлы,
так лёгка носіць юдава імя.**

**І мае хлеб, вядома, і да хлеба
без клопату, душу прадаўшы, ён
/карміць яе даносамі не трэба/,
і цешыць слых
сярэбранікаў звон.**

●

*Светлай памяці Тамары ЧАБАН*

**Званы адзванілі у Ракаўскім храме.
Адплакалі свечкі на ўскрайку труны.
А скруха матулі і смутак па маме
не пройдуць, ніколі не пройдуць яны.**

**Паэма прачулых прамоў прагучала,
аддадзена шчыра даніна журбе.
А скруха каханаму ў сэрца запала,
ў ранімае сэрца запала глыбей.**

**...Калі весняй ружаю плоць памірае,
жыве ціхі подзвіг няўрымснай душы,
каб зоркі над родным знявечаным краем
чыноўны не змог цемрашал патушыць.**

**Званы адзванілі у Ракаўскім храме.
Адплакалі свечкі гарачай слязой.
Святое імя узыходзіць як памяць
над скрухай зямной і зямною красой.**

## ТВАЁ СЛОВА

**Як многа адзінае слова сказала!..
Рэфрэнам высокім гучыць, як гучала,
і водарам дыхае, фарбамі грае,
і лёгка прыўзняты настрой мне ствараe.**

**Яго паўтарае мне ціша начная,
яго паўтарае мне хваля рачная,
яго паўтараюць зялёныя кроны.
Я словам тваім, чарадзейка, натхнёны.**

**Я ласкай тваёю навек паланёны.**

●

**Я любаваўся музыкай красы,
красы безабаронна-несмяротнай,
я доўга слухаў, як шумяць пяшчотна,
з валошкамі гамоняць каласы.**

**Пад шолах жыта роздумы плылі,
душа супачывала ў той гамонцы.
Я вочы ўзняў да маладога сонца
ад юнай песнядарнае зямлі.**

**Зямля, і сонца, і нябёс блакіт...
Як хораша ў галактыцы, як гожа!
Але перш-наперш дзякуй табе, божа,
што на зямлі ёсць краскі й каласкі!**

●

**Самазабыўна адышоў
ад польнай вузкае дарогі.
Па млечным шляху дзьмухаўцоў
бягу з далёкіх я гадоў —
расою апякаю ногі.**

**Люблю прайсціся па палях,
дзе ў красках-зорачках травіца.
А ноччу сніцца Млечны Шлях
і што лятаю, быццам птах,
як у маленстве, часта сніцца.**



*Фота А. БЕРАЗНЯКА*

Юры СТАНКЕВІЧ

# ТЭРАКТ



## САТЫРЫЧНАЯ АПОВЕСЦЬ ЧАСОЎ ЗАСТОЮ

Больш за іншыя сакратар райкама партыі па ідэалогіі Марыя Епіфанаўна Салавей упадабала рэвалюцыйнае свята сёмае лістапада. І гэтым разам, на 60-годдзе Кастрычніка, яна апранулася ў святочнае: чырвоную сукенку, чырвонае паліто, якое нагадвала мантыю, а на галаву, пасля роздуму, вырашыла, акрамя парыка, не надзяваць нічога. Зусім не па-партыйнаму з'явіцца ў капелюшы ці хустцы. Усё-такі яна адказны таварыш.

Марыя Епіфанаўна скіравала на гарадскі пляц, на якім здалёк была бачная гіганцкая бронзавая скульптура Ільіча. Побач з ёй пабудавалі трыбуну, па абодвух баках якой віселі партрэты членаў Палітбюро.

Было ўжо даволі марозна. Пахмурнае неба раз-пораз з карканнем крыжавалі вароны. Людзі рыхтаваліся да дэманстрацыі. «Пыжыкі стаяць, трусікі ідуць». Адгадка — дэманстрацыя. Як данёс ёй штатны райкамаўскі паведамляльнік, інструктар аргаддзела Цельнікаў, гэтую варожую загадку напярэдадні свята загадваў у сваім кабінеце інструктар аддзела прапаганды, былы камсамольскі работнік Гурый Шашкоў. Давялося правесці з ім папераджальную гутарку. Зараз Марыя Епіфанаўна нават усміхнулася, успомніўшы той выпадак. Успомнілася ёй і асабістая мянушка: Чырвоная Мар'я, якую ёй далі ў райкаме. У глыбіні душы Марыя Епіфанаўна Салавей вельмі ёю ганарылася.

Сакратар райкама па ідэалогіі велічна перасякла плошчу, падышла да трыбуны з тыльнага боку і зазірнула: то быў яе ўчастак работы — праверыць усё да пачатку дэманстрацыі. Цупкія чорныя вочкі яе адразу ўгледзелі на падлозе трыбуны нешта іншароднае. Марыя Епіфанаўна падалася бліжэй і... атарапела.

На падлозе месцілася куча. Марыя Епіфанаўна адзначыла адразу, што яна была не жывёльнага, а чалавечага паходжання. Думкі, жахлівейшая адна за другую, замільгалі ў яе галаве. Кінула ў гарачыню. Яна хуценька зірнула на гадзіннік: хаця да пачатку дэманстрацыі працоўных была яшчэ амаль гадзіна, але ж ганаровы прэзідыум, раённае кіраўніцтва прыйдзе сюды раней. Хутчэй за іншых можа з'явіцца першы сакратар таварыш Панцялей Сігізмундавіч Прус, якому Марыя Епіфанаўна непасрэдна падпарадкоўвалася. Зірне на падлогу і — сакратар па ідэалогіі зноў жахнулася. Характар Панцялея Сігізмундавіча яна ведала. Нішто, калі толькі абложыць мацюкамі. Так здарылася нядаўна, калі Марыя Епіфанаўна паехала з ідэалагічнай групай на праверку ў раён, затрымалася на вячэру ў адным настаўніцкім калектыве /яна была па адукацыі настаўніцай біялогіі/ і ўзяла там чарку. Пасля чаркі яна заспявала частушку, а потым не стрывала і нават пусцілася ў скокі, як рабіла гэта ў камсамольскай маладосці ў расейскай глыбінцы, адкуль была родам. Ужо назаўтра яе выклікаў у свой кабінет Прус. Угледзеўшы яго, Марыя Епіфанаўна ў думках нагадала чамусьці мерцвяеда. Панцялей Сігізмундавіч нейкі час свідраваў яе вочкамі без павекаў, а потым ускочыў і зароў так, што яна ледзь не павалілася ад страху. Пазней яна ўцяміла, што пра яе вячэру з чаркай і скокі адразу паведаміў у райкам, магчыма, нават і шафёр. «Сука, мацць тваю! — роў Панцялей Сігізмундавіч. — Я табе пакажу п'янстваваць! Пад коўдрай дома пі! Зашлю ў Халопаўку, у васьмігодку!» Халопаўка была самая далёкая вёска ў раёне, дзе жылі стараверы. Марыя Епіфанаўна надта тады спужалася, бо ведала, што таварыш Прус, узлаваўшыся, мог ажыццявіць гэтую сваю нялюдскую, як яна меркавала, ідэю.

Цяпер сітуацыя была яшчэ больш складанай. Варта было загадаць, каб ля трыбуны ноччу стаяў міліцэйскі пост, але ж вось, упусціла ініцыятыву і нейкая контра здолела ўсё-такі здзейсніць правакацыю супраць савецкай улады і працоўнага народа. Марыя Епіфанаўна кінулася праз плошчу ў райкам, да тэлефона. Яна набрала нумар і спытала:

— Алё, гэта органы?

— Дзяжурны слухае, — адказала трубка.

— Гаворыць сакратар райкама. На плошчы, на трыбуне ноччу праведзены тэрарыстычны акт.

Яна паклала трубку і хацела пратэлефанаваць ужо Шашкову і загадаць, каб браў рыдлёўку і бег да трыбуны, але раптам пачула нейкі шолах і азірнулася.

За спіной яе стаяў загадчык аддзела Самахвал — мажны, румяны мужчына з пукатым жыватом.

— Ага, — сказала сакратар Салавей. — Вось вы як загадчык і прымайце меры. Адбыўся тэракт.

— Што? — разявіў рот Самахвал. — Дзе? Каго?

— На трыбуне. — Марыя Епіфанаўна строга зірнула на загадчыка. — Ідзіце хутчэй, прымайце меры!

Самахвал павярнуўся і знік за дзвярыма.

Шашкоў быў дома.

— Позна спіце! — упікнула яго сакратар. — Бярыце рыдлёўку і хутчэй у райкам.

— А што капаць? — пацікавіўся Шашкоў.

— Тэракт. Даю вам пятнаццаць хвілін. Усё ясна?

— Н-н-нічога не разумею.

— І не трэба вам разумець.

Салавей паклала трубку і подбегам пашыбавала да трыбуны. Па дарозе ў галаве з'явілася яшчэ адна надта трывожная думка. Ці ў парадку партрэты членаў Палітбюро? А помнік Ільічу, які нядаўна пабудавалі?

Ля помніка было пуста. Самахвал як скрозь зямлю праваліўся. Але калі сакратар Салавей ззаду зазірнула на трыбуну, спадзеючыся, што ўсё ёй прымроілася ў сне, то ўбачыла сагнутага літарай Г супрацоўніка органаў Плешакова, былога камсамольскага работніка. Той старанна вывучаў кучу.

Плешакоў таропка пацісnуў сакратару руку. Ён ведаў яе раней, па рабоце ў камсамоле, пакуль адтуль яго не забралі ў органы.

— Нічога не кранаць! — прашыпеў Плешакоў. Вочы яго ліхаманкава блішчэлі.

— Ты што, звар'яцеў? — незалюбіла Марыя Епіфанаўна. — Як гэта не кранаць? А дэманстрацыя? З абкама таварыш будзе.

— Займайцеся сваім, — непахісна адсек Плешакоў. — Не кранаць да высвятлення!

Раптам ён саскочыў на зямлю і папоўз пад трыбуну. Былі нейкі час бачныя яго ступакі ў модных чаравіках, а потым і яны прапалі.

У цемры, пад трыбунай Плешакоў запаліў сярнічку і агледзеўся. Здаецца, нічога падазронага не было. Але каб знайсці якую зачэпку, ён вырашыў неадкладна ўзняць на ногі ўсіх сваіх інфарматараў. Ён павінен быў разаблачыць тэрарыстычную дзейнасць. Вобласць зверне ўвагу, павысяць у званні. Плешакоў у думках убачыў сябе ў форме маёра, і, нібы вусень, зашкроб нагамі, выпаўзаючы на святло.

Як ён выпаўз, то пабачыў, што сакратар па ідэалогіі рухаецца ўздоўж партрэтаў членаў Палітбюро, пільна агледаючы кожны. Не губляючы часу, Плешакоў кінуўся да машыны і паехаў да свайго галоўнага інфарматара, мясцовага паэта Хекальскага, кіраўніка літаратурнага аб'яднання пры райгазеце. Што было дзіўна нават Плешакову, Хекальскі з нагоды сваёй выключнай баязлівасці, завербаваўся сам. Перадусім нехта са знаёмых сустрэў яго на вуліцы і пажартаваў: «Пра цябе органы цікавяцца, так вось». Хекальскі не спаў усю ноч, а раніцай прыбег, пакаяўся сам, ды заадно выклаў усё, што ведаў пра мясцовых літаратараў, сябрэў і сабутэльнікаў.

Цяпер Плешакоў спяшаўся і ўвесь час націскаў на акселератар. Вочы яго пільна ўзіраліся ў брукаванку.

Марыя Епіфанаўна, між тым, агледзела партрэты членаў Палітбюро і асабліва помнік правадыру. Быццам ніякіх наўмысных пашкоджанняў не было. Да пачатку маніфестацыі заставалася ўжо менш гадзіны, і яна пачала вельмі нервавацца. Самахвал на вочы не з'яўляўся, што было дзіўна, але ж і Шашкова яна дагэтуль не дачакалася. Ды неспадзявана яе натхніла. Зусім жа побач, метраў за дзвесце месцілася вайсковая часць, якой камандаваў палкоўнік Хропік. Ён, дарэчы, з'яўляўся членам бюро райкама і павінен быў прысутнічаць на трыбуне ў час маніфестацыі працоўных. Палкоўнік, не інакш, знаходзіцца зараз у часці, меркавала сакратар па ідэалогіі Салавей, а ўжо ваенныя дапамогуць, анягож. І Марыя Епіфанаўна пашыбавала ў часць. Ад хвалявання твар яе пакрыўся чырвонымі плямамі.

Палкоўнік Хропік сапраўды знаходзіўся ў распалажэнні палка сувязі, якім і камандаваў. Гэта быў усім незадаволены, падазроны і недаверлівы чалавек з тварам, які нагадваў сапрэлую грушу. Палкоўнік Хропік так шмат часу праводзіў на службе, што зусім здзічэў і цураўся жонкі, дарослай дачкі і нават унукаў.

Ён моўчкі выслухаў сакратара райкама і знешне не выказаў аніякага здзіўлення ці яшчэ якіх пачуццяў.

— Дык вам выдзеліць радавога, каб узняць флагі? — спытаў ён.

— Ды зусім не флагі, — нервова растлумачыла яму Марыя Епіфанаўна. — Трэба прыбраць на трыбуне. Адбыўся правакацыйны акт.

— Так, — дыхнуў на яе ўчарашнім перагарам палкоўнік, — так, зразумела.

— І як мага хутчэй. Пачынаецца дэманстрацыя працоўных. Будзе адказны таварыш з абкама. Мы павінны дзейнічаць.

Палкоўнік Хропік задумаўся, але доўга думаць ён адвучыўся, гэта яму было нязвыкла і таму адразу пераключыўся на выкрыкванне каманд. Прыбег па выкліку лейтэнант, камандзір мотастралковага ўзвода, якому палкоўнік загадаў пастроіць байцоў.

Узвод неўзабаве пастроіўся. Нейкім таямнічым чынам салдаты даведаліся пра тое, што здарылася на плошчы. Марыя Епіфанаўна ўсё яшчэ чакала, але палкоўнік Хропік сказаў ёй, каб ішла да трыбуны, а жаўнера ён зараз прышле, той яе нават дагоніць па дарозе.

Сакратар Салавей уздыхнула і з надзеяй скіравала назад на плошчу, дзе ўжо грымела з рэпрадуктараў урачыстая музыка.

Палкоўнік Хропік, між тым, з палёгкай вымавіў некалькі мацюкоў і загадаў:

— Радавы Хуцышвілі, выйсці са строю!

Смуглявы жаўнер зрабіў два крокі наперад і стаў на «зважай».

— Вазьмі вядро, анучу, флагі, цьфу ты, рыдлёўку і — да трыбуны, — сказаў палкоўнік.

— Нэ пайду.

Палкоўнік разявіў рот.

— Выконваць загад! — зароў ён.

— Грузін нэ пайдет.

— Пяць сутак арышту! — аб'явіў палкоўнік.

Але ліквідаваць тэракт адмовіліся следам за грузінам літовец, чачэн, армянін, беларус, узбек і нават мардвін. Усіх іх азвярэўшы палкоўнік скіраваў на гаўптвахту.

«Разборка» зацягвалася. Урэшце палкоўнік так быў збіты з панталыку і, будучы яшчэ не зусім цвярозы з учарашняга, увогуле запамятаваў, пра што яго прасіла сакратар па ідэалогіі Салавей. Ён зноў задумаўся, але галава была як каўдобец, і тады паслаў шараговага, расейца Курачкіна з абярэмкам чырвоных флагоў, каб той развесіў іх на дрэвах, што акалялі плошчу. Чамусьці палкоўнік вырашыў, што менавіта пра гэта дбала сакратар Салавей.

Між тым на плошчу на гукі музыкі з'явіліся людзі. Рэдкія сняжынкі плавалі ў паветры і асядалі на іх. З рэпрадуктараў тлусты барытон апантана спяваў пра мудрасць партыі.

Марыя Епіфанаўна аж ела вачыма дарожку да вайсковай часці, на якой павінен быў з'явіцца жаўнер з вядром і рыдлёўкай. Але таго ўсё не было.

Неўзабаве сакратар па ідэалогіі з жахам убачыла, як ля райкама спынілася белая «Волга» і падумала, што, пэўна, прыбыў першы сакратар райкама таварыш Прус, ці, можа, адказны таварыш са сталіцы. Але з машыны вылез старшыня прыгараднага калгаса, Герой Сацыялістычнай Працы, былы партызан Стрыжанец і з цяжкасцю праціснуўся ў дзверы райкама. Праз некалькі хвілін ён выйшаў зноў і скіраваў да трыбуны. Значыць, таварыша Пруса яшчэ не было. Марыя Епіфанаўна знерухомела. Яна ўжо моцна шкадавала, што сваімі рукамі адразу не прыбрала на трыбуне. Але Стрыжанец падышоў не да трыбуны, а да яе, падаў руку і, адводзячы вочы, буркнуў:

— Здароў, Маня.

Марыю Епіфанаўну перасмыкнула, але яна мусіла ветліва адказаць. Стрыжанца ўсе нават пабойваліся, бо ён сябрукаваў з урадоўцамі — таксама былымі партызанамі. Ёй чамусьці і не да часу нагадалася, як колькі гадоў таму, яна пасля камсамольскай пасады прыйшла ў райкам і горача ўзялася за справу. Службовай машыны ён не належала, ездзіла на раён па чарзе з другім сакратаром Дубовікам, які тую чаргу ўсяляк парушаў. Дык вось неяк яна паехала ў прыгарадны калгас «Радасны шлях» да Стрыжанца, каб праверыць наглядную агітацыю. На яе вялікае здзіўленне, агітацыі ў калгасе не выявілася аніякай. Марыя Епіфанаўна кінулася да Стрыжанца. Той пільна агледзеў яе з усіх бакоў і папрасіў прад'явіць дакумент, хаця, як член бюро ўжо ведаў яе. Стрыжанец уважліва прачытаў яе чырвонае пасведчанне і згадзіўся, што нагляднай агітацыі ў калгасе няма. А на «чаму няма?», у сваю чаргу, запытаўся, ці не паедзе сакратар Салавей яшчэ ў якую гаспадарку. Марыя Епіфанаўна неабачліва пацвердзіла, што хацела б праехаць у самы дальні саўгас «Камуністычны курс». Стрыжанец паклікаў свайго шафёра Пецю.

— Адвязеш сакратара ў «Камуністычны курс», — загадаў ён і яшчэ нешта дадаў таму на вуха.

На белай «Волзе» Марыя Епіфанаўна прыехала ў самы далёкі саўгас раёна і добра агледзела ўсю наглядную агітацыю. Але пасля таго, як яна ўсё праверыла і паўшчувала саўгаснага парторга за недахопы, высветлілася, што Пецця знік разам з машынай. Да горада яна дабралася толькі па абеду наступнага дня і адразу пабегла скардзіцца Прусу на каварства старшыні Стрыжанца. Але сакратар Прус, якому далі перадусім прачуханку з абкама, грукнуў кулаком па сталу і раўнуў на яе тады так, што яна коркам вылецела з кабінета.

Нагадаліся Марыі Епіфанаўне і падзеі зусім нядаўнія. Загадчык аргаддзела Самахвал, якога прывезлі на пасаду з нейкай меліярацыйнай канторы суседняй вобласці, тэлефанаваў па загаду Пруса ўсім старшыням калгасаў і дырэктарам саўгасаў, каб тыя тэрмінова пералічылі грошы на будаўніцтва новага помніка правадыру сусветнага пралетарыяту. Менавіта гэты гіганцкі помнік і ўзвышаўся цяпер над плошчай. Расказвалі, што Самахвал, не ведаючы, так бы мовіць, броду, не абмінуў і Стрыжанца. Гутарка паміж імі працякала наступным чынам:

— Я загадчык аддзела райкама партыі, — прадставіўся Стрыжанцу Самахвал. — Вы пералічылі грошы на помнік правадыру?

У трубцы доўга чуўся нейкі соп, валтузня, плямканне вуснамі, а пасля незадаволены голас перапытаў:

— Дык хто ты такі?

Самахвал зноў прадставіўся і запатрабаваў справаздачы пра помнік.

— Табе трэба, ты і рабі, — урэшце нават памяркоўна сказаў голас старшыні калгаса, пасля чаго пачуліся кароткія гудкі.

Самахвал наліўся крывёю і зноў набраў нумар.

— Вы што, адмаўляецеся пералічваць грошы на помнік правадыру ўсіх пралетарыяў? — злавесна запытаў ён і закрычаў. — Сабатуеце пастанову бюро?!

У трубцы нейкі час панавала маўчанне, а потым голас сказаў:

— Едзь у маўзалей і пацалуй правадыру с...

Цяпер Марыя Епіфанаўна занепрвавалася, каб Стрыжанец да часу не ўзняўся на трыбуну. Але старшыня падышоў да помніка, пакалупаў пальцам мармуравы падмурак і чаравік правадыра, потым утаропіўся вачыма ў яго выцягнутую руку, якая чамусьці была большая за галаву, і нібы закажанеў.

«А Ленин такой молодой!» —
неслася з дынамікаў, што віселі над плошчай.

Марыя Епіфанаўна зноў зірнула на гадзіннік і закруціла галавой, азіраючыся. Але ні жаўнера, ні Самахвала, ні Шашкова не было. Яна аж узмакрэла. Між тым ля трыбуны нечакана і ціхенька ўзнік член бюро, рэдактар мясцовай газеты «Яднанне камунараў» Тараканаў. Гэта быў чарнявы чалавечак з маленькай галоўкай і надта ж вузенькім лобікам. Яго пацуковыя вочкі шнырылі па баках. З твару ён нагадваў тхара, які паядае курыныя мазгі. Тараканаў меў дзіўную звычку паціху падкрадацца са спіны і слухаць пра што гавораць.

Так і зараз, ён нячутна падсунуўся ззаду і гучна сказаў сакратару ў вуха:

— Харошы Ленін!

— Што?! — віскнула ад нечаканасці Марыя Епіфанаўна і павярнулася.

— Я кажу, харошы Ленін атрымаўся, — вернападданіцкі паказаў на помнік Тараканаў.

Нягледзячы на тое, што ён быў член бюро, Марыя Епіфанаўна раптам адчула гідлівасць, нібы ўбачыла аскарыду ў слоіку са спіртам, бо ўспомніла, што спіна рэдактара густа зарасла чорнай свіной шчэццю. Яна ўбачыла гэта на сенакосе, куды яны ездзілі як шэфы з горада. То была, меркавала чамусьці, хаця і цвёрдая атэістка, сакратар Салавей, сатанінская метка.

«Сапсуюць свята», — аж утрупянела Марыя Епіфанаўна і з жахлівай тугой убачыла, як да райкама пад'ехала «Волга» сакратара райкама Пруса, а за ёй чорная — адказнага таварыша з абкама. Абодвы кіруючыя таварышы вылезлі з машын і скіравалі ў райкам. Да таго часу, пакуль яны выйдуць да трыбуны, заставалася зусім мала. Стрыжанец, пэўна, убачыў іх, бо пакінуў разглядаць помнік і пашыбаваў праз плошчу таксама ў райкам.

Салавей зірнула на гадзіннік, на дарожку да вайсковай часці і з палёгкай уздыхнула, бо ўбачыла на ёй жаўнера з нейкім скруткам у руках. Марыя Епіфанаўна пабегла насустрач.

— Хутчэй! — яшчэ здалёк замахала яна рукой. — Ідзіце сюды!

І яна паказала на трыбуну.

Нібы не зважаючы, жаўнер, а гэта быў шараговы Курачкін, разгарнуў скрутак, выцягнуў адтуль чырвоны флаг і палез з ім на дрэва.

Сакратар па ідэалогіі задыхнулася і анямела. У галаве яе закалола дробнымі іголачкамі. Перад вачыма паплыло.

— Што вы робіце?! — завішчэла яна. — Навошта вам лезці на дрэва?

— Выконваю загад таварыша палкоўніка Хропіка, — сказаў жаўнер і знік з флагам у галінках. Адтуль на сакратара пасыпаліся мокрае лісце, аскабалачкі кары і птушыны памёт.

Марыя Епіфанаўна пабегла ў часць, але палкоўніка Хропіка там ужо не было. Як ёй растлумачылі, той паехаў пераапранацца ў парадны мундзір.

Пакуль працягваліся ўсе гэтыя падзеі, Плешакоў у гарадскім скверыку меў прыватную гутарку з Хекальскім, які калаціўся ад страху.

— Даю табе гадзіну, — злавесна шыпеў Плешакоў. Вылічыш выканаўцу тэракта. А можа, гэта ты? — раптам рыкнуў ён.

Хекальскі адмоўна затрос галавой і стаў ламаць у роспачы рукі. Мокрыя вусны яго дрыжалі, а вялізныя палахлівыя вочы нагадвалі лемура.

— Усё зразумела? — цікнуў Плешакоў. Ён нават заскрыгатаў зубамі — для страху, ён гэта добра ўмеў. Хекальскі стаў белы, як сала. Толькі тады Плешакоў паехаў назад, на плошчу. Ён быў упэўнены ў поспеху.

Ля трыбуны, між тым, пабольшала народу. Прыйшоў загадчык аддзела культуры Рапапорт у новым касцюме і паліто, з афарбаванымі хной у цагляны колер валасамі і з вялізным, разы ў тры большым, чым у іншых, чырвоным бантам на грудзях. Ён адразу стаў шаптаць пра нешта з рэдактарам Тараканавым. «Харошы Ленін, харошы», — данеслася адтуль.

Марыя Епіфанаўна аж трымцела. Яе апаноўвалі то жах, то злосць на Самахвала і Шашкова, якія нібы растварыліся ў гэтай восеньскай мітуслівай раніцы.

Яна зноў зазірнула на трыбуну — мо, хто нейкім чынам там прыбраў, але куча месцілася, як і раней. Салавей у роспачы абвяла вачыма плошчу.

Час, між тым, ішоў. Ужо праз некалькі хвілін павінны былі зрушыцца рабочыя калоны. Пра тое, каму, як і за кім крочыць, было распрацавана раней, а на бюро вызначаны пераможцы сацыялістычнага спаборніцтва. Яны і павінны былі ісці ў авангардзе. Абывацелі паступова запаўнялі прастору перад райкамам — насупраць трыбуны і помнікам. Прыйшлі да трыбуны таварышы з райвыканкама, усе з чырвонымі сцяжкамі, і пачалі гучна віншаваць адзін другога са святам.

Да іх падкраўся ўжо і рэдактар Тараканаў, паслухаў, пра што гавораць, і неўзабаве і адтуль пачулася: «Харошы помнік, вельмі харошы»... Ніхто з іх, як ведала Марыя Епіфанаўна, на трыбуну зачасна не пойдзе. Цвёрдае першынство тут належала першаму сакратару Прусу, які прыходзіў роўна за дзесяць хвілін да пачатку маніфестацыі, і падымаўся наперадзе ўсіх на ўзвышэнне. Да гэтага тэрміну заставалася каля чвэрці гадзіны. Сакратар па ідэалогіі адчула, як у галаве пачаўся нейкі дзіўны камарыны піск.

Якраз перад яе вачыма бегаў з мікрафонам у руцэ арганізатар мясцовага радыё Валеры Піменавіч Гнюсікаў. Гэта быў плюгавы чалавечак з брушкам, з пульхнымі кароценькімі пальцамі, якімі ён увесь час варушыў у паветры. Калі Марыя Епіфанаўна бачыла яго дробную, шчакастую, у сальным тлушчы галоўку, то чамусьці нагадвала мучнога чарвяка. Тым не менш, яна вельмі ўпадабала Валерыя Піменавіча, бо той рэгулярна заходзіў да яе ў райкам і расказваў усё, што ведаў.

Марыя Епіфанаўна няўцямна зірнула на неба, на варон, на дрэвы, над якімі жаўнер працягваў вытыркаць чырвоныя флагі, і паклікала Гнюсікава.

*(Працяг на стар. 14-15)*

Фестывалі

# КУДЫ ПЛЫВЕ БЕЛЫ ПАРАХОД?

## ЭКСКУРСІЯ ПА «СЛАВЯНСКАМУ БАЗАРУ-93»

Для будучых даведкавых выданняў прапаную наступную фармулёўку: «Славянский базар» /скар. «СБ», нар. 1992/ — міжнародны музычны фестываль, які закліканы з'ядноўваць славянскія народы і садзейнічаць выхаду славянскай песеннай прадукцыі на агульнаеўрапейскі, а далей і сусветны рынак. Продкам «СБ» лічыцца былы фестываль польскай песні, што заўчасна загінуў у акіяне палітычных перамен. Хросным бацькам — І.Лучанок, якому сам лёс наканаваў з'ядноўваць людзей розных палітычных і творчых імкненняў.

У спадчыну «СБ» атрымаў: 1/ летні амфітэатр /якому бракуе з'ёмнага даху-«пялёсткаў», што практыкуецца ў свеце/; 2/ ідэю дружбы народаў і метады яе дэманстравання /у тым ліку састарэлыя/; 3/ набалелы недахоп грошай і гасцініц /уключаючы адсутнасць асобных загарадных катэджаў для суперзорак/.

За адзін толькі год «СБ» з немаўляткі вырас у падлетка: яго пачаў больш цікавіць шоу-бізнес, менш — далікатнасць узаемаадносін з былымі «выхавацелямі». Ён выйшаў у самастойнае плаванне — і гэта не проста метафара. Ёсць нешта сімвалічнае ў тым, што на гэты раз сцэна амфітэатра, дзе звычайна праходзяць асноўныя падзеі фэсту, павінна была ўяўляць сабой белы параход — ці, больш дакладна, яго палубу. З яе мы і пачнём наш экскурсійны маршрут, але спачатку —

### КРЫХУ ГІСТОРЫІ

Згодна ганарыстаму маскоўскаму погляду, «Віцебск — гэта глыбінка, а мы з яе намагаемся зрабіць Н'ю-Васюкі». /З афіцыйнага выказвання С.Віннікава, галоўнага рэжысёра «СБ» і прэзідэнта маскоўскай фірмы «Ірыда», на прэс-канферэнцыі ад 22.07.93 г./. А вось астролагі прадказваюць гораду статус культурнага цэнтра Беларусі — і, здаецца, яны маюць рацыю. У мінулым Віцебск заўсёды ахінала цудоўная мастацкая аўра, таму цяперашняе адраджэнне культурнага жыцця ў ім хутчэй нагадвае рэтраспекцыю. Па колькасці ж фестываляў, іх маштабнасці і рэзанансу ён пачаў даганяць /а ў нечым і пераганяць/ Мінск: нагадаю знакамітыя Дні джазу, фестывалі памяці І.Салярцінскага. Дарэчы, праз дзень пасля сёлетняга «базарнага» гала-канцэрта ў Віцебску пачынаўся яшчэ адзін фэст — бардаўскай песні. Прыемна, што ўсе гэтыя музычныя святы па-ранейшаму суправаджаюцца аншлагамі /і гэта нязменна здзіўляе замежных гасцей, якія даўно ўжо адвыклі ад шчырай добразычлівасці публікі/.

Акрамя музычных фестываляў, Віцебск слаўны сваім мастацкім асяроддзем: нібыта дух М.Шагала лунае над ім, натхняючы ўсё новых майстроў на пошукі і эксперыменты. Так, у дні «СБ» адбылося ўрачыстае адкрыццё Арт-цэнтра Марка Шагала, дзе да таго ж дэманстравалася цудоўная выстаўка двух маладых і творча дзёрзкіх мастакоў А.Прусава і В.Ласмінскага «Каменны дождж». У Дзяржаўным музеі, акрамя асноўных залаў, працавалі экспазіцыі «Ю.Пэн і яго вучні», «Віцебскі габелен», выстаўка фарфора і керамікі мастакоў В. і Л.Кавальчук. Насупраць, у Абласным навукова-метадычным цэнтры, — выстаўка «Летуценні Язэпа Драздовіча». Заўважу, што гэтыя «вакол-фестывальныя» з'явы і падзеі часта былі куды больш цікавыя ў мастацкіх і прафесійных адносінах за ўласна песенныя.

І ўсё ж — прашу на наш «параход». Як абяцала, па-першае —

### ПАЛУБА

Галоўнае месца правядзення ўсіх урачыстасцей. Сем канцэртаў — у тым ліку «Рок-апоўначы». Прывітанні фестывалю ад афіцыйных асобаў. Зорны дождж — І.Алеграва, І.Нікалаеў, Ф.Кіркораў, абодва Прасняковы, С.Ратару, А.Вескі, Т.Гвердцытэлі, Ф.Царыкаці. Ну, чым не свята! Убачыць любімых артыстаў і пачуць... фанаграмы любімых песень! Яшчэ да пачатку фестывалю /дый на працягу яго/ нас старанна супакойвалі, як гэта добра, што не будзе аркестра. Сапраўды, яго адсутнасць вельмі дапамагала спевакам «раскрыцца» — асабліва тым, хто пачаў страчваць голас ці наогул яго не меў. Але зусім да слёз мяне кранулі менавіта тыя «фанэркі», дзе, апрача музыкі, быў запісаны яшчэ й гарачы прыём публікі. Брава! Дарэчы, толькі рок-канцэрт /за выключэннем «Песняроў»/ ішоў «жыўцом».

Першым ступіць на «палубу» выпаў гонар А.Хлястоў, І.Афанасьева, В.Вуячыч, Я.Паплаўская з А.Ціхановічам, Я.Еўдакімаў і інш. На сцэне з'явілася бутафорскае азярцо, старажытная ладдзя, масток і сапраўдныя дрэвы. У спалучэнні з добра падабранымі касцюмамі беларускі канцэрт падаўся мне найбольш прыгожым. Хаця многія ганілі сцэнаграфію за несучаснасць і эстэтыку мінулага, асабіста я ўсё ж убачыла ў ёй паэтыку, нейкае пачуццё настальгіі па прыгожаму.

Дый гучаў канцэрт досыць годна. Па-першае, былі адабраны сапраўды лепшыя, добра вядомыя нумары. Па-другое, нашых зорак у гэты вечар ні з кім не трэба было параўноўваць, і з гэтай нагоды яны зіхацелі нібыта ярчэй. Толькі крыўда брала: няўжо ў нас так мала гэтага «лепшага»? Калі яго наскрэблі на адну «візітную картку» Беларусі, жвавым хлопчыкам з групы «НА-НА» /заўважу, яны наогул падаваліся як «цвік праграмы» амаль усяго фэсту, а Бары Алібасаў, іх «духоўна-матэрыяльны бацька», паводзіў сябе як бацька і адначасова сын «усіх народаў» і не стамляўся даваць журналістам жыццёвыя парады/. «На-найцы» весела адскакалі песню з назвай «Белы параход» — і шоу-вандраванне пачалося.

Скажу шчыра: на канцэрце адкрыцця я адчувала перадінфарктныя сімптомы. Найбольш вялікі ўклад у гэта ўнеслі беларускія артысты. У той час, калі Расія з Украінай старанна выказвалі нацыянальныя асаблівасці сваёй культуры, нешматлікія беларускія выканаўцы гэтак жа старанна дэманстравалі «растварэнне ў агульнамузычнай прасторы». Бліскучая /па адзенні/ Ліка запрашала на «Гавайі», Я.Еўдакімаў звяртаўся да «Палінушкі» /зразумела, усё на рускай мове/; А.Хлястоў, відаць, зусім заблытаўся ў сваім «Трохвугольніку», бо пасля беларускай песні пачаў дзякаваць па-польску. У выніку студыя «Сябры» засталася на «Нямізе» ў поўнай адзіноце — вось ужо сапраўды, як пяецца, «шчымлівая споведзь»!

Нават у вялізным фальклорным блоку не знайшлося месца для беларусаў — толькі пад канец канцэрта ансамбль «Купалінка» закампаніраваў... фальклорнаму дуэту з Расіі. Можа, некаму падалося дастатковым, што гасцей па прыездзе на вакзале штогод вітаюць выступленнем артысты віцебскай «Лявоніхі»? Пра гэта застаецца толькі гадаць, бо на ніводнай з прэс-канферэнцый так і не ўдалося высветліць, чаму Беларусь была прадстаўлена менавіта тымі нумарамі, а не іншымі.

У астатнім канцэрт быў звычайнай «салянкай»: пра заяўленую тэму «карабля» хутка забыліся і больш не ўспаміналі.

«Сольныя» канцэрты кожнай з трох сёстраў-краін гучна рэкламаваліся як *тэатралізаваныя песенныя спектаклі*. У нацыянальны дзень Расійскай Федэрацыі сцэна свяцілася макаўкамі цэркваў і палаючымі свечкамі. Тэатральнасць відовішча з назвай «...И зажигаем свечи» складалася з дэманстрацыі адзення Санкт-Пецярбургскага Тэатра моды і шматграннага звароту ў песнях да тэмы свечкі: ад рэлігійных адценняў да любоўных. Зоркі ж ніяк не маглі памірыцца з рэжысёрскімі намерамі і ўвесь час парушалі тэматычную скіраванасць: то Н.Бабкіна выклікала на сцэну «Песняроў», то І.Алеграва — І.Нікалаева, каб праспяваць дуэтам. Таму калі ў фінале ўсе ўдзельнікі выйшлі са свечкамі, я зразумела: свечку ставяць тэме-нябожчыцы.

Украінцы падышлі да сваёй тэматыкі «Зоряна ніч України» прасцей. Адмовіўшыся ад тэатральных дэкарацый, упрыгожылі сцэну ручнікамі з нацыянальным арнаментам — дый тэму акрэслілі як парад зорак эстрады. Шкада толькі, што іхнія зоркі /сапраўды неблагія!/ свецяць пакуль на адну Украіну.

У беларускім канцэрце «Як толькі ноч ліпнёвая...» бралі ўдзел «Песняры», «Сябры», «Харошкі», «Верасы», А.Саўленайтэ, дык няўжо не хопіць на іншыя канцэрты?

На гала-закрыцці працэнт удзелу беларускіх артыстаў набліжаўся да нуля. І ўсё ж, адкінуўшы ўласніцка-нацыянальныя запатрабаванні, я б назвала гэты канцэрт лепшым «на палубе». Можа, не ўсё ў ім было так шчыра, сустракаліся й недарэчнасці, і даволі слабыя нумары, і неэтычнае «вырубанне» гуку ў выступленнях рок-музыкантаў /маўляў, час не дазваляе даслухаць да канца/. Але разам з усімі недахопамі і «стадыённасцю» маштабаў была ў тым канцэрце нота камернасці і сардэчнасці — амаль «сямейнага свята» — з нараджэннем, хрэсьбінамі, вяселлем і, зразумела, падарункамі, і гэты асабісты зварот да гледачоў і ўдзельнікаў, бясспрэчна, кранаў.

Падводзячы некаторыя вынікі рэжысёрскім спробам набліжэння песні да тэатра, заўважу, што мяне пакуль больш уражвае камерны варыянт: «песня — маленечкі спектакль». Пераўтварэнне ж гала-канцэртаў у тэматычныя напластаванні патыхае нацягнутасцю, некаторай наіўнасцю і па сутнасці нагадвае рэжысуру тэлепраграм, складзеных з асобных пацерак-нумароў, — накшталт колішняй «Ранішняй пошты».

...Напрыканцы «экскурсіі» мы яшчэ вернемся на сцэну амфітэатра — прабачце, на «палубу», а зараз —

### ВЕРХНЯЯ ПАЛУБА

Так можна было б назваць другую сцэну фестывалю — Палац культуры прафсаюзаў. Калі першая дзякуючы тэлетрансляцыям была ўсеагульна даступнай /а на некаторыя канцэрты, каб запоўніць месцы, пускалі без білетаў/, дык другая калі-нікалі была закрыта нават для прэсы. Між іншым, на ёй адбываліся найцікавыя рэчы: сольнікі «на-найцаў», У.Данільца з У.Майсеенкам, якія прадстаўлялі «Маленькі гумарыстычны тэатр», а таксама Ф.Кіркорава, Я.Еўдакімава, Н.Бабкінай і ансамбля «Руская песня», У.Праснякова-малодшага. Тут часцей спявалі без «фанэры» і было відаць тое, што не бачна на вялікай сцэне, што старанна хавалі ці прыхарошвалі на прэс-канферэнцыях: уласны мастацкі густ, сапраўдныя якасці голасу, манера паводзіць сябе з публікай.

Але галоўнае — тут праходзіў ІІ тур конкурсу маладых выканаўцаў папулярнай песні /І турам лічыўся адбор удзельнікаў на месцах/. Менш за ўсё мне зараз хацелася б аспрэчваць рашэнне журы. Дадам толькі, што вітанне яго ўсімі без выключэння — не болей, чым міф. Дый сам працэс спаборніцтва знаходзіўся недзе на другім плане фестывальных з'яў: адначасова з ІІ турам адбывалася сустрэча з І.Алегравай, пасля яе — прэзентацыя цэнтра «Руская песня». Адначасова з фіналам конкурсу даваў сольны канцэрт Ф.Кіркораў. Зразумела, большасць журналістаў палічыла магчымым далучыцца да конкурсу толькі на стадыі канчатковых вынікаў.

Тым не менш рызыкну сказаць, што конкурс стаўся адной з лепшых старонак фэсту. Яго ўзровень быў даволі стракаты, але планку вышыні адзначыла ўжо першая ўдзельніца — Мадам Піяно /Ліляна Ранчыч/ з Югаславіі: спявачка прафесійна падрыхтаваная, з уласным стылем і добрым густам /ІІ прэмія/. Гран-пры атрымала Таісія Павалій /Украіна/ — пераможца многіх конкурсаў, у тым ліку міжнароднага. Яна валодае голасам шырокага дыяпазону і вялікай моцы, непаўторна робіць узыходзячыя глісанда, але асабіста мне падаецца, што зорка эстрады — гэта не толькі «каштоўны голас». Тыя ж заўвагі тычацца і Вадзіма Азарха /Расія/, для якога 1 прэмія, на мой погляд, усё ж пакуль аванс на шляху пошукаў уласнага іміджу. А вось вылучэнне Андрэя Шпака /Украіна/, уладальніка ІІІ прэміі, ні ў кога не вызывала спрэчак: наадварот, некаторыя прарочылі яму больш высокія ўзнагароды. Калі ж аб'ектыўна, дык ён глядзеўся нібыта з іншага конкурсу — *эстрадна-цыркавога*. Але ж вылучаўся ён не толькі добрай пластыкай з элементамі пантамімы ці стыкаваннем жанраў ва ўласна створаным «тэатры аднаго акцёра». Адметнымі рысамі былі творчая неардынарнасць і высокі прафесіяналізм, давядзенне песень /таксама ўласнага сачынення/ да стадыі філіграннай адточанасці.

Менавіта двуадзінства гэтых якасцей не хапала астатнім, і канкурсантаў можна было падзяліць на дзве катэгорыі: тых, хто спявае прафесійна, але да болю традыцыйна, — і тых, хто шукае /няхай інтуітыўна/, але не паспявае ці не ўмее прафесійна абыграць знойдзенае. Трэба аддаць даніну павагі журы, якое намагалася неяк адзначыць і тых і гэтых, але асноўная праблема ў іншым. З самадзейнасці на эстраду прыходзяць не толькі графаманы і пераймальнікі чужых манераў, але й таленавітыя хлопчыкі і дзяўчынкі, якія выбіраюць самастойны шлях. Хто іх падтрымае? Не толькі матэрыяльна, але і ў мастацкім сэнсе? На конкурсе было добра чуваць, як адрозніваліся фанаграмы ўдзельнікаў. У кагосьці цудоўная аранжыроўка ды яшчэ з такой магутнай падтрымкай, што пад яе ўсялякі голас загучыць прывабна — акрамя, хіба што, воўчага выцця. А ў кагосьці такі слабенькі варыянт, што ўмомант усё ўражанне сапсуе.

Асабліва крыўдна было за браткоў-беларусаў. Мы маем унікальны аркестр — Дзяржаўны канцэртны, вельмі перажываем яго «адлучэнне» ад фестывалю — і прадстаўляем да конкурсу фанаграмы-самаробкі без яго ўдзелу. Хіба ў адпомсту? Але каму? Канкурсантам? І яшчэ дэталь. На журналісцкае пытанне да журы, ці не прыкмеціў хто-небудзь з іх сабе пратэжэ сярод моладзі, раптам адказаў М.Фінберг, мастацкі кіраўнік аркестра: маўляў, мы ўжо запрасілі лаўрэатаў да супрацоўніцтва з нашым калектывам. Цудоўна! Калекцыя вакалістаў, што спявалі з аркестрам М.Фінберга, папоўніцца яшчэ трыма прыгожымі галасамі. Толькі хто папрактыкуе беларускіх выканаўцаў?

З нашых канкурсантаў найбольш прафесійным, досыць эмацыянальным і артыстычным быў папулярны Дзмітрый Смольскі — цяперашні саліст студыі «Сябры» /дыплом, *прыз за лепшае выкананне беларускай песні*/. Ягор Стражэвіч з групы «Ліцэй», хаця і не трапіў у фінал, пакінуў добрае ўражанне сваёй непадобнасцю да іншых. Вераніка Круглова няўдала выступіла ў фінале, але на ІІ туры глядзелася сапраўдным адкрыццём, адшукаўшы кропкі сутыкнення беларускага фальклору з заходнімі павевамі. Застаецца дзякаваць лёсу і У.Мулявіну, што В.Круглова няхай у самы апошні момант, ды ўсё ж трапіла ў Віцебск. У выніку — дыплом, прыз Міжнароднага аргкамітэта і глядацкіх сімпатый «За яркае ўвасабленне славянскай тэмы ў папулярнай песні» і запрашэнне на фестываль «Кіжы-Адраджэнне-94».

Перад тым як пакінуць «верхнюю палубу» назаву астатніх фіналістаў ад Беларусі: Ірына Дарафеева, Тато Майсурадзе /дыплом/, Віктар Бардуноў /прыз «Надзея беларускай песні»/. А цяпер — сама ўзысці на

### КАПІТАНСКІ МОСЦІК

«Капітанаў», «штурманаў» і іншых кіруючых асобаў было на фестывалі дастаткова: буклет стракацеў ад прозвішчаў заснавальнікаў, фундатараў, членаў аргкамітэта, мастацкага савета, рэжысёрска-пастановачнай групы. Але звернемся да тых, хто быў увесь час на вачах — членаў журы /а старшыня журы Н.Бабкіна сапраўды нагадвала гэткага бравага капітана сваім станам і манерамі/. Сярод беларускай капітан-каманды — Я.Еўдакімаў, М.Фінберг, А.Ярмоленка і... ніводнага кампазітара, акрамя У.Мулявіна. Справа не толькі ў іх асабістай адсутнасці: гэтак жа была «прадстаўлена» іхняя творчасць. Я далёкая ад думкі, што Саюз кампазітараў, як некалі, павінен быць дыктатарам музычных густаў і

заканадаўцам стылю; што ён адзіны, хто можа складаць праграмы «СБ» і ўсіх іншых песенных фэстаў на Беларусі. Я далёкая ад думкі, што ўсё напісанае беларускімі кампазітарамі — членамі творчага саюза — прафесійна годна. Але поўнае ігнараванне іх творчасці таксама нікому не на карысць. Упэўнена: удала падабраны рэпертуар дапамог бы многім канкурсантам /і артыстам!/ выглядаць значна лепей.

Ну як тут не прыгадаць трапную заўвагу Кемаля Турсана — прадстаўніка Еўрапейскай Асацыяцыі арганізатараў фестываляў FIDOF /Турцыя/. На яго думку, шоу-бізнес заходні і тутэйшы адрозніваюцца па двух параметрах. У іх з прыгожай дзяўчынкі робяць спачатку зорку і толькі потым /далёка не ва ўсіх выпадках/ — артыстку. А ў нас нават з артыстаў не заўсёды могуць зрабіць зорак. Можа, таму, што на Захадзе праца пачынаецца з пошуку музыкі — і толькі потым складаецца група, прызначаная менавіта для яе выканання. А ў нас — спачатку выканаўца, і толькі потым /далёка не ва ўсіх выпадках/ — клопат пра рэпертуар.

Што ж да «капітанаў», дык ім, па традыцыі, даводзілася бараніць гонар мундзіра, выступаючы паміж двух сур'ёзных канкурэнтаў: з аднаго боку — канкурсантаў, з другога — супер-зорак. Што ж, былі й расчараванні. Мне, напрыклад, неяк няёмка было чуць, калі нехта з членаў журы пачынаў спяваць пра сябе асабіста — зусім як помнік уласны будаваў. Ці калі пасля першай ноты ўсе разумелі: брала б тая спявачка ў конкурсе ўдзел — не бачыць ёй фіналу. Але і шмат добрага было, і нават цуд сапраўдны: калі пачынала спяваць /без усякіх «фанэрак»!/ маленечка-худзенечка жанчынка — Ніна Матвіенка, народная артыстка Украіны. Які голас! У Віцебск трэба было ехаць нават толькі дзеля яго аднаго!

З тымі, хто на «капітанскім мосціку», была магчымасць пазнаёміцца бліжэй — менавіта дзеля гэтага ўвесь час гасцінна расчыняла дзверы

## КАЮТ-КАМПАНІЯ

Гэтым налаўжартоўным тэрмінам я назвала б прэс-цэнтр. Там не проста дазвалялі журналістам карыстацца тэлефонам і факсам, раздрукоўвалі з камп'ютэра дадатковую інфармацыю, — кожны дзень па некалькі разоў «кают-кампанія» запрашала на прэс-канферэнцыі з афіцыйнымі асобамі і вядомымі артыстамі /нават цыкл быў складзены — «Рандэву з зоркамі»/. Ідзі — шыкоўныя, іх ажыццяўленне ...

Але ж ці можна было спадзявацца, што будзе інакш? Што зоркі вельмі расчуляцца ад сексуальна-гастранамічных пытанняў? Што «акулы» шоу-бізнесу, сеўшы перад газетчыкамі за вялізны стол літарай П, адразу ж пачнуць распавядаць, як грошы робяцца? Ці што арганізатары стануць прызнаваць свае памылкі? Ці будуць гранічна шчырымі? Ніколі!

Хаця прэсу і называюць «чацвёртай уладай», кіраваць ёю вельмі проста /нават самыя аб'ектыўныя крытыкі паддаюцца выкарыстанню: іх артыкулы прымаюць, калі трэба нешта ганіць, і заказваюць матэрыялы ліслівым, калі трэба пахваліць/. У дадзеным выпадку патрабавалася адно — заўважыць фэст. На ўсіх узроўнях, аж да бульварнай прэсы. Дзеля гэтага зацікавіць журналістаў — хаця б гутаркай з зоркамі. Абодва гэтыя пункты выкананы на 100 ... на 200%! Ну дзе калі бачылі, каб журналістаў каталі на баржы /чым не «белы параход»/ — ды ў кампаніі прыгожых хлопчыкаў з «НА-НА»! Ці каб спецыяльна для іх рабілі прызы! /Хадзілі чуткі, што кожнаму з трох пераможцаў дадуць па 100 тыс. руб., але далі «натурай» — вялізнай глінянай вазай коштам 16 тыс. руб. і букетам. Прызёрам ад Беларусі стаў Д.Падбярэзскі — намеснік рэдактара часопіса «Мастацтва» і галоўны рэдактар газеты «Славянский базар», якая выходзіла на фестывалі/.

Яшчэ заўвага: выдаткі па акрэдытацыі расійскіх і ўкраінскіх журналістаў узялі на сябе фундатары фэсту, беларуская ж выданні шукалі грошы самі — мне нават няёмка было апынуцца сярод шчасліўчыкаў /«ЛіМ», «Культура», «Тэатральная Беларусь»/, за якіх Міністэрства культуры ўнесла па 160 тыс. руб. Няўжо беларусам не патрэбна было рознабаковае і грунтоўнае асвятленне фэсту? Ды што журналісты! Знайшліся астранамічныя сумы на банкеты — не знайшлося 35 даляраў на ўдзел у конкурсе В.Кругловай, якая плаціла сама.

Але вернемся непасрэдна да прэс-канферэнцый. Калі беларусы ў чым і вылучыліся, дык менавіта ў гэтым жанры. Самай сонна-сумнай з боку журналістаў, на мой погляд, была прэс-канферэнцыя да нацыянальнага дня Рэспублікі Беларусь і Свята горада Віцебска. Затое якія арыгінальныя адказы на ёй мы пачулі! Напрыклад, Н.Кудрэйка з радыёстанцыі «Крыніца» спытала, чаму прадстаўнік дырэктара Сопацкага фестывалю, які ехаў наладжваць сувязі паміж двума фэстамі, уладкаваны на правах канкурсанта і адарваны ад афіцыйных мерапрыемстваў. Адказалі прыблізна наступнае: маўляў, мы прасілі дасласць з Польшчы канкурсантаў, таму хто адтуль прыехаў — той для нас і канкурсант. А калі журналісты пыталі пра эканамічны бок «СБ», іх наогул пачыналі сарамаціць. Я зразумела адно: з маім вышэйшым музычным у блытаных фінансавых справах не разабрацца...

Менавіта ў «кают-кампаніі» мне ў вочы кінулася цікавая рэч: расіяне /асабліва ў свой нацыянальны дзень/ намагаліся ўсё і ўсіх разрэкламаваць — як бы завочна «прадаць». Украінцы — даказаць, што і ў «жоўта-блакітных» нябёсах сокалы лётаюць ды зоркі свецяць /нават перастараліся: на рандэву прыйшло адразу пяцёра розных артыстаў!/. Беларусы ж цягнулі коўдру кожны на сябе. І сцягнулі яе — са свайго мастацтва.

## КУБРЫК

Калі кают-кампанія прызначана для начальніцкага складу судна, дык для астатняй каманды ёсць кубрык. У перакладзе на мову «СБ» — начны джаз-клуб.

Смешна, але я сапраўды ні разу не бачыла там нікога з «афіцыйных асобаў» /акрамя, можа, М.Шульмана — дырэктара прэс-цэнтра/. І атмасфера там была выключна музычная, разняволеная, імправізацыйная: піцерскі «Дайджэст» ды кіеўскі джаз-актэт «Экспромт» можна было слухаць бясконца. «Профі» нібы забаўляліся — а «дружба народаў» дэманстравалася вельмі проста: праз джэм-сэйшн, сумеснае гранне. І, прабачце, ніхто не ўшчувміляў нічые нацыянальныя інтарэсы. О, як гэта было цудоўна! І так не хацелася пасля «кубрыка» апынацца

## ІЗНОЎ НА ПАЛУБЕ

...У глыбіні сцэны на беларускім канцэрце стаяла старажытная ладдзя. Я ўсе чакалі, калі ж яна паплыве. Можа, у фінале? Не, не паплыла. Так і засталася нейкім сімвалам былога росквіту культуры Беларусі, якая лічылася цэнтрам Еўропы — калісьці, не цяпер. Чаму?

Як усе, спачатку я лічыла, што беларускую эстраду на фестывалі прыціскаюць, ёй замінаюць, не даюць раскрыцца. Але чым далей, тым больш разумела, што галоўнае не ў гэтым. І тады стала сапраўды жудасна. Бо ў якасці маёй «навукова-тэарэтычнай высновы» выступала шырока распаўсюджаная, «мяшчанска-абывацельская» думка пра... /жахліва вымавіць/ неканкурэнтаздольнасць многіх нашых зорак — дый амаль усёй эстрады! Тое, што старанна вуалірэуцца ў нашым «унутрыбеларускім» ужытку, штось цяжка зразумець праз ЦТ /можа, «у іх» проста кліпы лепей/, — у Віцебску, калі зоркі выходзяць побач адна з адной, робіцца відавочным.

Дык што цяпер? Дзе выйсце з цяперашняга даволі прыніжанага становішча беларускай песні?

Варыянт першы. Ляпнуць па кішэнях /чыіх?/, наскрэбці паболей грошай — ды ўзяць «СБ» у свае рукі, запрашаючы на яго тых зорак, што не заценяць зіхаценне нашых.

Варыянт другі. Бразнуць дзвярыма і больш у «СБ» не ўдзельнічаць: пакласці ўсе сілы /і грошы/ у свой уласны фэст, Маладзечанскі, зрабіць яго лепшым у свеце — не тое, што нейкі там Віцебскі «кірмаш».

Варыянт трэці. Ізноў ляпнуць па кішэнях /чыіх?/, наскрэбці паболей грошай — і праз іх пачаць «раскрутку» нашых у Маскве.

Варыянт чацвёрты. Ляпнуць сябе па лбе /зўрыкі!/, забыцца на амбіцыі, меней псаваць нервы з-за маскоўскіх шоу-бізнес-заваротаў — і пакласці ўсе сілы /і грошы/ на дасягненне нашай эстрадай такога ўзроўню, з якім нельга будзе не лічыцца. Каб маскоўскі карабель не дыктаваў свой курс, а ўлічваў наш, трэба спачатку самім пусціць сваю лодачку на ваду. Ці не так?

А каб наша «белая ладдзя» нарэшце паплыла, патрэбны тры моманты: уздым нацыянальнай самасвядомасці, рэальнае адчуванне ўсёй крытычнасці сучаснага становішча /без ура-патрыятызму/ — і хоць крышачку творчага багажу-патэнцыялу ў трумах. Дык чаго ж не хапае? Можа, менавіта прыдзірлівай самаацэнкі і жадання рабіць лепей? Віцебск, здаецца, даў для гэтага ўсе падставы. А грошай — хопіць, калі іх укладаць непасрэдна ў развіццё эстрады, а не ў стварэнне штучнай шуміхі вакол яе.

**Надзея БУНЦЭВІЧ,**
**спецыяльны карэспандэнт «ЛіМа»**

# СЯМЁН АЛЯКСАНДРАВІЧ ШТЭЙН



Беларускае мастацтва панесла вялікую страту. 25 жніўня на 66-ым годзе жыцця памёр вядомы оперны рэжысёр, народны артыст Беларусі, заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі Сямён Аляксандравіч Штэйн.

Сямён Аляксандравіч Штэйн нарадзіўся 7 студзеня 1928 года ў г.Куйбышаве. Пасля вучобы ў Дзяржаўным інстытуце тэатральнага мастацтва працяглы час працаваў у тэатрах Варонежа, Новасібірска, Куйбышава.

Большая частка 40-гадовага творчага шляху С.А.Штэйна ў оперным мастацтве звязана з Мінскам. Пасля яркай пастаноўкі «Зоркі Венеры» Ю. Семянякі ў 1970 годзе Сямён Аляксандравіч быў запрошаны ў ДАВТ Беларусі на пасаду рэжысёра-пастаноўшчыка. Тут з усёй паўнатой раскрыліся яго ны талент, найвышэйшы прафесіяналізм, выдатныя якасці арганізатара і выхавацеля. Натхнёна, захоплена, самааддана працаваў С.А. Штэйн над увасабленнем опер «Джардана Бруна» С. Картэса, «Сівая легенда» Д. Смольскага, «Сцежкаю жыцця» Г. Вагнера, «Новая зямля» Ю. Семянякі, «Князь Наваградскі» А. Бандарэнкі. Да лепшых заваёў беларускай опернай сцэны належаць і такія работы рэжысёра, як «Залаты пеўнік», «Барыс Гадуноў», «Пікавая дама», «Вайна і мір». Дзякуючы яго ініцыятыве, тэатр оперы і балета Беларусі першым сярод усіх тэатраў былога Савецкага Саюза паставіў «Магдалену» С. Пракоф'ева.

З імем С.А. Штэйна звязана і творчае станаўленне Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Беларусі — спектаклі «Паўлінка», «Мая цудоўная лэдзі», «Ноч у Венецыі» многа гадоў упрыгожвалі яго рэпертуар.

На творчым рахунку С.А. Штэйна шмат спектакляў, пастаўленых на сцэне маскоўскага Вялікага тэатра, пастаноўкі ў Санкт-Пецярбургскім Марыінскім /Кіраўскім/, Екацярынбургскім, Новасібірскім, Тбіліскім тэатрах, Сафійскай народнай оперы.

Прызнаны аўтарытэтны майстар опернай сцэны С.А. Штэйн заўсёды знаходзіў час, сілы, душэўную энергію для педагагічнай работы ў Беларускай акадэміі музыкі. Яго студыйныя пастаноўкі нязменна прыцягвалі ўвагу грамадскасці, у іх выхоўваліся і прафесійна гартаваліся кадры для абодвух тэатраў рэспублікі.

Сямён Аляксандравіч выдатна валодаў пяром, шмат рабіў для прапаганды любімага ім опернага мастацтва.

Раптоўная смерць напаткала С.А. Штэйна ў разгар падрыхтоўкі да новых пастановак «Пікавай дамы» і «Рыгалета», у час напружанай работы над стварэннем дапаможніка па опернай рэжысуры...

Ва ўдзячнай памяці калег, вучняў, аматараў мастацтва назаўсёды застануцца таленавітыя пастаноўкі С.А. Штэйна, жывы вобраз гэтага яскравага, светлага, сумленнага чалавека.

**ШУШКЕВІЧ С.С., КЕБІЧ В.Ф., ДЗЯМЧУК М.І, ГІЛЕВІЧ Н.С., ВАЙТОВІЧ Я.К., БУТЭВІЧ А.І., КРАЎЧАНКА П.К., ГЕРАСІМЕНКА А.М., ЛУЧАНОК І.М., ДУДАРАЎ А.А., ДРЫНЕЎСКІ М.П., КАРТЭС С.А., ЕЛІЗАР'ЕЎ В.М., АНІСІМАЎ А.М., ЦЮПА В.А., ІЗВОРСКА-ЕЛІЗАР'ЕВА М.Н., САЎЧАНКА А.М., КАЛАМІЙЦАВА Т.М., ЧАРНАБАЕЎ В.М., ДРУЖЫНА М.А., ШЫКУНОВА І.С., КАЛЯДКА М.С., ПЯТРОЎ Я.Ф., ДАНІЛЮК С.П., ГАЙДА Н.В., КЛІМАВА А.М., ЯНКОЎСКІ Р.І., ЯРОМЕНКА М.М., МАКАРАВА Г.К., СТАНЮТА С.М., ШМАКАЎ Ф.І.**

Музыка

# «ВОЛГАФЭСТ-93»

Нішто ў свеце не новае: і плынь ракі, і велічная старасветчына па берагах, і высакародная строгая прыгажосць прыроды. Усё гэта жывое, як аб'ектыўная рэальнасць, як дадзенае нам у спадчыну ад больш мудрых пакаленняў. Не новае — і фестывалі. У розных краінах, у вялікіх гарадах і мястэчках, у розных маштабах яны ладзіліся й будуць ладзіцца.

Сёлета, у год С.Рахманінава, фестывалі, прысвечаныя творчаму генію гэтага вялікага музыканта, былі праведзены, бадай, ва ўсіх буйных музычных цэнтрах розных краін свету. Вось і ў нас у Мінску ўвесну былі выканаы амаль усе сімфанічныя творы, канцэрты, рамансы. З вялікім поспехам прагучала кантата «Званы», якая выконваецца рэдка.

Бадай, ніводны музыкант у сваім творчым развіцці не мінае свет С.Рахманінава. Свет, у якім падчас самым неспадзяваным і фантастычным чынам у шчыльным сплаве існуюць строгая стрыманасць і няспынная парыванне, пяшчотная зачараванасць і гарачая пульсацыя, засяроджаная архаічнасць і адкрытая эмацыянальнасць. І вобразы, вобразы... Якія немажліва дарэшты зразумець і патлумачыць, як нельга зразумець і патлумачыць вялікую Волгу ці цёмныя твары святых на старых абразах...

Гэтак думаў я, стоячы на палубе цеплахода. А ўздоўж берагоў — лясы й лясы, пацеркі цэркваў ды званіц.

«На цеплаходзе музыка ірае...» Музыка была. Гучаў Рахманінаў.

Усё-ткі новае было ў гэтым фестывалі. Ён быў наладжаны без дзяржаўных кіруючых структураў і праведзены без пратакольнай цырымоннасці. Душою фэсту быў аргкамітэт, сфарміраваны з людзей маладых, захопленых і дзейных. Па творчым складзе гэта быў фестываль не толькі расійскіх, але і замежных музыкантаў: Элтан Чан /Канада/, Томас Мастраяні, Джозеф Бановец, Луіс дэ Мора Кастра /ЗША/ прадэманстравалі свой стыль выканання і сваё разуменне Рахманінава. Са страсным і віртуозным Кастра ды вытанчаным і акадэмічным Баноўцам я пастараюся пазнаёміць мінскую публіку ў новым філарманічным сезоне. Упэўнены ў іхнім поспеху.

Расійскі бок на «Волгафэсце-93» прадстаўлялі дырыжор А. Паляніччка ды лаўрэаты міжнародных конкурсаў А. Успенская і А. Арлавецкі. Былі й зусім незвычайныя людзі, як Л. Каласкова — прадстаўніца старога рускага драматычнага стылю выканання, якая ў свой час сябравала з У.Сафраніцкім, М. Юдзінай, Д. Шастаковічам, С. Рэрыхам. Адным з арганізатараў быў С. Сацін — унучаты пляменнік С. Рахманінава, які правёў уступную лекцыю і многія канцэртныя праграмы. Сярод гасцей вылучаўся вядомы палітычны дзеяч, старэйшы член Еўрапарламента і паэт Бернар Замарон з Бельгіі. Дарэчы, 26 кастрычніка ў Мінску чакаецца прэм'ера ягонай араторыі-містэрыі, напісанай у садружнасці з кампазітарам Г. Успенскім «Куды крочыш, 2000?..»

Удзельнікі ды частка гледачоў фестывалю на камфартабельным цеплаходзе неслі музычную эстафету ад аднаго волжскага горада да другога, дзе ў гэты нязвыклы для канцэртнай дзейнасці перыяд расчынілі дзверы гасцінныя залы і запоўніліся ўдзячнаю публікай. Аншлагі! Частка канцэртаў адбылася проста ў зале на цеплаходзе. Гучала камерная вакальная ды інструментальная музыка. Замест адзінаццаці запланаваных канцэртаў было сыграна 12, апроч таго адбыліся лекцыі па разнастайных музычных праблемах ды сустрэчы, сустрэчы... Знаёмствы, новыя задумкі, пошукі ідэй, складанне супольных творчых планаў.

«Волгафэст-93» — першы фестываль такога роду. Якім ён будзе ў наступным годзе?.. Ужо мяркуюць над гэтым ягоныя гаспадары. А ў душы кожнага ўдзельніка гэтага міжнароднага музычнага свята застаецца чароўнасць вялікай рускай ракі, непаўторная мудрая прыгажосць старажытных гарадоў ды несканчонасць рахманінаўскай музыкі.

**Пётр ВАНДЗІЛОЎСКІ,**
**старшы выкладчык Акадэміі музыкі, дырыжор Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі**

Пераклады

**_Раві Шанкар — адзін з буйнейшых сучасных паэтаў-філосафаў Індыі, заснавальнік міжнароднай сістэмы псіхатрэнінгу, а таксама Індыйскага, Еўрапейскага і Амерыканскага інстытутаў па вывучэнні Ведаў._**

**_У літаратуры працуе ў жанры шлокі — традыцыйнага для індыйскай літаратуры жанру філасофска-дыдактычнай паэзіі. Раві Шанкар імкнецца не толькі данесці да чытача форму і змест старажытных традыцый індыйскай філасофіі і літаратуры, але імкнецца з дапамогай сваёй ледзь бачнай шанкараўскай усмешкі па-добраму ўплываць на нас і навакольнае жыццё._**

**Ад перакладчыка.**

Раві ШАНКАР

## ПРА МАЛІТВУ

Малітва — не выкленчванне.

Малітва — удзячнасць, адчуванне магутнага прыліву тых хваляў любові, якімі Бог штоімгненна агортвае нас.

Неабавязкова ісці на малітву ў царкву, храм, ці мячэць; Бог там, дзе вы моліцеся.

Малітва не словамі творыцца.

Нельга маліцца абыякава ці машынальна. Малітву нельга завучыць, яна павінна ў вас адвольна ўзысці.

Падчас малітвы не будзьце ні надта сур'ёзны, ні надта маркотны. Малітва — радасць.

Калі моліцеся аб згодзе — згода для вас вышэй за Бога. Калі моліцеся аб ведах — веды для вас вышэй за Бога.

Калі ўся ваша істота трапеча ад найтанчэйшых пачуццяў, гэта — малітва.

## ПРА СПАСЦІЖЭННЕ

Кожная думка — адбітак чагосьці. Люстэрка ўсё адбівае, але варухні яго — і адбітак змяніўся. Тое, што там было, — пакідае люстэрка. І - вобраза ўжо няма. Нават уражання не застаецца.

Вас поўняць думкі і перажыванні. Ды толькі ўсё гэта — зацьменне розуму, што не дазваляе вам бачыць праўдзівую сутнасць з'яў і рэчаў. Усё ж гэта толькі вобразы, што адбіліся ў люстэрку, і кожны новы вобраз не можа быць больш праўдзівы за арыгінал. Дык чаго вартыя ўсе ўражанні і меркаванні? Усё такое, якое ёсць...

Не існуе нічога, чым можна дагадзіць Богу, ці ўгнявіць Яго. Адчувайце: «Я — адно з усім добрым і з Богам».

## ПРА ВЕРУ, ПРЫНЯЦЦЕ І ГАРМОНІЮ

Нават для спрэчкі трэба саўдзельнік. Бітва ж — вялікая гульня ў са-дзеянне.

Селянін сее зерне з верай у Існаванне: губляе зерне з рукі сваёй і набывае значна больш.

Веданне дае нам веру, няведанне ж — толькі перакананне.

## ЗА МЕЖАМІ РОЗУМУ І «ЭГА»

Розум і мозг — не адно і тое ж. Розум — не тое, што змешчана ў галаве, гэта — вялікі інтэлект, што ўсюды і ва ўсім. Існуе толькі адзін розум — розум Бога.

Чалавек, у якога ўнутраны свет неглыбокі — звонку стварае выгляд значнасці.

Вельмі эгаістычныя людзі шукаюць вакол сябе людзей мяккіх і слабых. Толькі тады эгаістам утульна.

Чым больш змагаецеся, тым больш цяжэйшы робіцеся. А калі вы цяжкі — можаце ўпасці. Эга абцяжарвае, і вы рызыкуеце пашкодзіць сваёй вагой іншым. Разумны той, хто мала важыць. Тады здзяйсняецца Ахімса /ненасілле/. Тая птушка лунае, што высока ўзлятае. І вы зможаце лунаць, калі ўсё прымеце.

## РАДАСЦЬ

Няшчасны той, хто не адчуў удзячнасці ні да каго. Памкнёмся ж да вялікай удзячнасці, бо яна прыносіць вялікую радасць, і мы можам тады адчуваць усю паўнату жыцця.

## ПРА ПАЗНАННЕ І СВАБОДУ

Усё неабходнае, каб быць Брахманам, у вас ужо ёсць.

Вы трапляеце з аднаго рабства ў другое таму, што баіцеся свабоды.

Большасць з вашых палкіх пакланенняў — толькі ўхіленне ад прыкрых перажыванняў. Вы свабодныя, калі вам не трэба нічога ў жыцці пазбягаць.

Прасветленасць — гэта ўсведамленне сваёй бязмежнасці.

**Пераклала з англійскай Любоў ФІЛІМОНАВА**

Краязнаўства

# БЫЎ ЧУЛЫМ НАСТАЎНІКАМ...

**_У час вучобы ў Пухавіцкай дзесяцігодцы я знайшоў у школьнай бібліятэцы кнігу Алеся Пальчэўскага «Родныя берагі» з дароўчым надпісам аўтара. На вялікі жаль, тады я не перапісаў яго змест. А болей гэтай кніжкі з аўтографам не сустракаў. Прайшоў некаторы час — і ад дваюраднага брата свайго бацькі Міхаіла Міхайлавіча Кораня даведаўся, што пасля вайны А.Пальчэўскі працаваў настаўнікам у Пухавічах._**



Адным радком расказвалі пра гэта і даведнікі. Праўда, «Пісьменнікі Савецкай Беларусі» /1959 г./, зрабіўшы пропуск ад 1934 /год выдання п'есы «Зламаная іголка»/, адразу інфармавалі: «У пасляваенныя гады А.Пальчэўскі змясціў у літаратурных часопісах шэраг новых апавяданняў. Лепшыя даваенныя і пасляваенныя творы пісьменніка ўключаны ў зборнік «Родныя берагі», выпушчаны Дзяржаўным выдавецтвам БССР у 1958 годзе. У гэтым жа годзе выйшла ў свет кніжка дзіцячых апавяданняў празаіка «Беражанкі».

Але і гэтая інфармацыя — карысная. Значыць, А.Пальчэўскі наведаў Пухавіцкую школу /ужо пасля поўнай адсідкі ў лагеры/ недзе ці напрыканцы пяцідзесятых, ці на пачатку шасцідзесятых. Бо калі б пазней, то падараваў бы пісьменнік пухавіцкім школьнікам, відаць, іншую кніжку: у 1963 годзе выйшла «Жнівеньская раніца», яшчэ раней — у 1961 годзе — кніжка для дзяцей «Аля і Галя».

Больш красамоўным аказаўся даведнік «Пісьменнікі Савецкай Беларусі», выдадзены ў 1981 годзе: «У 1946—1948 гг. выкладаў мову і літаратуру ў Пухавіцкай і Рудзенскай сярэдніх школах». Пасля — сціплым радком пра тое, што ў 1948—1955 гг. жыў у Краснаярскім краі.

Але ў 1981 годзе я пакінуў Беларусь, паступіўшы ў Львоўскае ваеннае вучылішча. Памёр амаль што за год перад гэтым і мой родзіч. Пасля вучобы ў Львове, я служыў у войску ў Сярэдняй Азіі. Адтуль і напісаў ліст-запыт у Цэнтральны дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва БССР. Найперш цікавіла, якія творы А.Пальчэўскага нарадзіліся на Пухаўшчыне. Праз якіхсьці два-тры тыдні атрымаў адказ.

Дазволю сабе працытаваць яго: «В личном фонде писателя сохранились произведения, написанные им на ст.Руденск и в местечке Пуховичи в период работы Пальчевского А.О. преподавателем белорусского языка и литературы в средних школах Пухович и Руденска в 1946—1948 гг. Это: пьеса для детей «Сустрэча» за подписью Александр Волжанин /в автографе/, которая была опубликована в журнале «Бярозка» N 12, 1955 г. /ф. N 50, оп.1, д.86/ и рассказы: «Збітыя рогі» — «Сусед», опубликован в журнале «Беларусь» N 12, 1957 г. /ф. N 50, оп.1, д.18/; «Лілія», напечатан в сборнике «Родныя берагі» в 1958 г. /ф. 50, оп. 1, д.19/; «Першы стрэл» — «Сава», напечатан в ... «Піянер Беларусі» за 28 сентября 1956 г. /ф.50, оп.1, д.20/, рассказ «Выпадак на рэчцы», опубликован в сборнике «Беражанкі», /Госуд. из-во Белоруссии, 1958/, /ф.50, оп.1, д.22/ и «Рэкс і Казбек» — «Казбек» /автограф/, опубликован в журнале «Беларусь» N 10, 1959 г. /ф.50, оп.1, д.21/...»

Інфармацыя з ЦДАМЛІМ запэўніла, што Пухавічы і Рудзенск — мясціны ў жыцці і творчасці А.Пальчэўскага зусім невыпадковыя. Адначасова і шкадаванне з'явілася: дома, у Пухавічах, ходзячы тымі ж самымі сцежкамі, што і Алесь Восіпавіч, нічога не здолеў высветліць. Пачаў пісаць лісты. Паспеў завочна пазнаёміцца з багатай на душэўную шчодрасць Т.Цулукідзе-Пальчэўскай.

Праўда, адказваючы падрабязна на многія іншыя пытанні, жонка пісьменніка астудзіла маю зацікаўленасць: «... Рассказать о жизни Алеся Пальчевского за огромный период жизни после того, как он учительствовал в Пуховичах очень трудно, зто целый роман. Коротко могу сказать, если это Вас устроит, немногое: как Вы, должно быть, знаете, в Пуховичах его забрали вторично. Прямо посреди урока из школы /подлый прием, практиковавшийся в тот период произвола и беззакония, который ныне деликатно именуется «культом личности Сталина»/. Забрали «по старому делу», опять отсидел в тюрьме, потом выслали в ссылку в Красноярский край, в село Абан»... І з другога ліста: «В Пуховичах он не бывал после возвращения из ссылки...»

А як жа тады кніга з аўтографам? Магчыма, Тамара Рыгораўна памыляецца, падумалася тады мне. Тым больш, што па ўсім было відавочна: пасля Пухавіч Алесь Восіпавіч яшчэ папрацаваў у Рудзенску. Адтуль яго і забралі...

Дык дзе ж шукаць сведкаў, як не ў Пухавічах?! Напісаў аднаму з нашых старэйшых настаўнікаў — Л.Пілатовічу. Неўзабаве /хаця, якое там «неўзабаве»! Служыў я тады ўжо на Кубе. Адрас меў — Масква, паштовая скрыня... А гэта значыць, што кожны ліст фільтраваўся як след. А тым больш — ліст, напісаны не парусску/ атрымаў вестачку. Леў Іванавіч напісаў: «Што я магу сказаць пра Пальчэўскага... Я прыехаў у Пухавіцкую школу яму на змену. Так што, дарогі нашы не сышліся. Але аб ім я чуў вельмі многа. У нашай інтэлігенцыі, якая прыйшла пасля рэвалюцыі на змену старой, закончыўшы наспех курсы, тэхнікумы, інстытуты, вельмі мала культуры. З гадамі ты гэта зразумееш лепш. Дык вось Алесь Пальчэўскі не меў гэтага недахопу. Гэта быў чалавек надзвычайна высокай культуры. Сапраўды інтэлігентны чалавек. Аб гэтым мне гаварылі многія. З ім добра сябраваў Лапко Васіль Маркавіч. У яго хаце я адзіны раз і бачыў Пальчэўскага, засталося вельмі прыемнае ўражанне...»

Вось як проста знайсці сведкаў, узрадаваўся я. Лапко ў свой час выкладаў у мяне гісторыю. Але пра А.Пальчэўскага ў яго не распытваў. Ведаў, што Васіль Маркавіч працаваў у Турыне, за некалькі кіламетраў ад Пухавіч. То і вывад зрабіў: наўрад ці яны былі знаёмыя... А аказалася, што ў Турыне В.Лапко працаваў у іншыя гады. Словам, пішу Васілю Маркавічу...

Так спакваля і вымалявалася жыццё А.Пальчэўскага ў Пухавічах. Пачаў працаваць ён у мясцовай школе ў 1946 годзе.

З успамінаў В.Лапка:

«Выкладаў ён у школе беларускую мову і літаратуру, таксама быў класным кіраўніком. Часта наведваў вучняў /асабліва недысцыплінаваных/ па іх месцы жыхарства. Быў чулым настаўнікам. Некаторыя бацькі яшчэ і цяпер успамінаюць яго. Пра сябе ён у той час расказваў вельмі мала. Ды гэта і зразумела. Кожны, хто выходзіў з тых «варот», даваў падпіску, што нікому не будзе расказваць, што з ім было...»

В.Лапка перавялі ў Суцінскую школу. А.Пальчэўскі тады ўжо працаваў у Рудзенску. Адтуль Алеся Восіпавіча і забралі ў чарговы круг сталінскага пекла. А дружба пухавіцкага настаўніка з пісьменнікам працягнулася ўжо пасля вяртання Пальчэўскага ў Мінск.

Яшчэ адзін цікавы ўспамін Васіля Маркавіча: «З 1964 года я працаваў завучам Пухавіцкага дзіцячага дома. Паслаў запрашэнне Пальчэўскаму і Скрыпку Міхасю /з ім я працаваў у Турыне/. Прыехалі яны ў дзіцячы дом, выступілі перад дзецьмі... а пасля завіталі вечарам да мяне ў хату. Прыйшлі знаёмыя Пальчэўскаму настаўнікі — чалавек 15. За святочным сталом падзяліўся сваімі ўспамінамі чалавек, які быў у няволі амаль 18 гадоў. А за што?..

Вось тады і расказаў Алесь Восіпавіч гісторыю пра данос на яго ж, які ў канверце сам Пальчэўскі і адвёз у Мінск, кінуў у паштовую скрыню. Дык вось, як засведчыў тады Алесь Восіпавіч, аўтарам «послания» ў НКУС стаў тагачасны дырэктар школы. Франтавік, маёр... Са школьных гадоў памятаю я гэтага чалавека /партрэт яго вісеў у кагорце пухаўчан — удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны/. Партрэты вязняў ГУЛАГа і тады — у сямідзесятых, на пачатку васьмідзесятых не былі ў пашане. А адзін з настаўнікаў /і на мой сённяшні розум неблагі чалавек, ды ўсё ж.../ і тады згадваў нам, дзесяцікласнікам, «бацьку народаў» як вядомага тэарэтыка нацыянальнага пытання».

Вось што мне стала вядома са сціплых росшукаў пра пухавіцкі час у жыцці А.Пальчэўскага.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# «ГУБЛЯЦЬ ВЕРУ НАМ НЕ ТРЭБА...»

*(Пачатак на стар. 5)*

і паследкаў. Самае сумнае і трывожнае, што яны нагнятаюць вакол моўнага пытання атмасферу, не думаючы, да чаго гэта можа прывесці — да якое бяды. Прыкідваючыся наіўнымі, палохаюць, што ў Беларусі набірае сілу нацыяналізм, што беларуская мова насаджаецца сілай і што на моўнай глебе па віне прыхільнікаў адной дзяржаўнай мовы можа адбыцца небяспечнае абвастрэнне ўзаемаадносін у грамадстве. Так з хворай галавы перакладаюць на здаровую. Да абвастрэння можа дайсці толькі па віне тых, хто дабіваецца другой дзяржаўнай мовы. Паколькі мы ведаем, чым гэтае самае дзяржаўнае двухмоўе абернецца для нас, для лёсу нашае мовы і нашае нацыі наогул, — нам адступаць няма куды. Страціць свой апошні шанц у гісторыі мы не можам — не маем права.

Што ж, вы пытаеце, рабіць? Трэба патрабаваць ад урада, каб ён паклапаціўся пра выкананне Закона аб мовах. І ад Вярхоўнага Савета таксама. І перш за ўсё — хай пакажуць прыклад самі: хай загавораць з народам, з людзьмі па-беларуску і перавядуць на беларускую мову справаводства ў сваіх жа канцылярыях. Няхай скажуць тым, што крычаць аб гвалтоўным насаджэнні беларушчыны: «Супакойцеся, шаноўныя! Ніхто вас за горла не бярэ і не адымае ў вас права і магчымасці вывучаць рускую мову і карыстацца ёю. Але выконваць законы сваёй дзяржавы — трэба! Абавязкова!»

Вельмі шкада, што многія палітычныя і дзяржаўныя дзеячы розных рангаў недаацэньваюць складанасць праблемы і замест таго, каб садзейнічаць спакойнаму ажыццяўленню Закона аб мовах, адкрыта патрабуюць яго перагляду на сесіі Вярхоўнага Савета або вынасу пытання аб мовах на рэферэндум. Так, яны ведаюць, чаго хочуць і чаму свайго дамагаюцца. Але ж яны павінны ведаць і волю соцень тысяч свядомых беларусаў. А яна вельмі выразна выказана ў безлічы іх пісем, прысланых у Вярхоўны Савет: сёння адзінай дзяржаўнай мовай у нас павінна быць мова беларуская — як гэта і запісана ў Канстытуцыі. Калі-небудзь пасля, і не так скора, — тады, як беларуская мова паўсюдна і надзейна ўсталюецца ў грамадскім ужытку і ёй ужо нішто не будзе пагражаць, бо ўжо ўвесь народ зробіць яе сваёй найвялікшай любоўю, — тады можна будзе спакойна надаць статус дзяржаўнай і другой мове. А нават і трэцяй, і чацвёртай. А сёння... Сёння дамагацца гэтага — значыць штурхаць нацыю на шлях самагубства.

Застаецца спадзявацца, што і ўведзеныя ў заблуджэнне грамадзяне і яўныя нядобразычліўцы нашы яшчэ адумаюцца і супакояцца, угамоняцца, і пачнуць супольна і дружна працаваць на карысць Беларусі. Гэта і будзе перамога справядлівасці. Гэта і будзе свята дружбы народаў на беларускай зямлі.

**Гутарыў Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# ПЕРШЫ АРЫШТ

## З ЖЫЦЦЯ ГАЎРЫЛЫ ГАРЭЦКАГА

**Радзім ГАРЭЦКІ**

На наступны дзень, 19 верасня, ранічкаю Г. Гарэцкі ўжо быў у бальніцы. Яго Ганулька яшчэ не страціла прытомнасці, была сумотная-сумотная, а ў 11.30 яна памерла. У той жа дзень студэнты Асацыяцыі дасталі грузавую машыну і дамовіліся аб месцы пахавання каля Галовінскага манастыра. Гору Г. Гарэцкага не было канца. Гэты дзень на ўсё яго жыццё застаўся самым цяжкім, самым сумотным — ён ніколі не забываў тую жудасную згубу. Брат Максім прысвяціў Ганне «Хрэстаматыю беларускай літаратуры», а ў «Камароўскай хроніцы» падрабязна апісаў гэты трагічны выпадак і смерць сястры. Уладзімір Дубоўка на першай старонцы зборніка вершаў «Строма», выдадзенага ў Вільні ў 1923 г., напіша: «Светлае памяці Ганулі Гарэцкай, як вяночак на магілку ў чужыне, прысвячаю. Аўтар».

У справе знаходзіцца характарыстыка студэнтаў ПСГА Жыгалава, Гарэцкага і Артабалеўскага, якая датавана 25 верасня і, відаць, састаўлена ў IV аддзяленні СА ДПУ.

«В Петровской С.-Х. Академии, благодаря умелому руководству реакционной части профессуры и верхушек студенчества, отношение студенческой массы к Соввласти и ее мероприятиям в области руководства и методологии преподавания в Высшей школе определенно отрицательное»... «Руководящую роль в Академии до последнего времени играл так наз. Совет 18, избранный еще в 1920 г.» «...работа его сводилась исключительно к анти-советской и анти-коммунистической деятельности среди студенчества. Совет группировал вокруг себя наиболее реакционную часть студенчества». ...«Группой 18 издается журнал «Младость», который вышел пока еще первым номером... Журнал представляет из себя «Орган Кружка Общественной Агрономии и Совета 18»... и блещет подзаголовками, вроде «Прежнее русского народа темно, его настоящее ужасно и у него нет права на будущее» /Думы в сумерках/».

«...Для характеристики демократической группы нужно отметить, что приобретая влияние на студентов, особенно после арестов ее членов /зимой 1920 г./, она проводила ряд студенческих собраний и выборов». ...«После издания распоряжения Главпрофобра о Госстипендиях группа эта, соорганизовав с проф. Дояренко и Ждановым особую комиссию по улучшению быта студентов и не сделав ни одного реального предприятия — постановила вызвать протест студенчества против разбивки его на категории». ...«При всяких политических арестах группа офишировала их, открывала сбор в пользу голодающих заключенных товарищей и т.п. Группа несомненно была связана с аналогичными группами в других ВУЗ-ах, т.к. была в курсе событий в жизни Московских ВУЗ-ов. Одними из наиболее активных деятельных членов этой группы и являлись Жигалов, Артоболевский и Горецкий. Кроме того, они принимали участие в работах кружка «Общественной Агрономии».

28 верасня быў складзены «Протокол представителей общестуденческих организаций Петровской С.-Х. Академии», які падпісалі пяць сяброў розных камісій, гурткоў... «собравшись по предложению представителя комячейки ПСХА тов. Дьякова»: «Заявляем следующее: Тов. Горецкий, как общественный работник всегда отличался аккуратностью, трудолюбием и выполнял все возлагавшиеся на него обязанности»... «Что касается обвинения его в пятилетней антисоветской агитации, то подобное утверждение совершенно не соответствует действительности». ...«ярким доказательством революционности убеждений тов. Горецкого могут служить его доклады в дискуссионных вечерах... и периодических бюллетенях в качестве статей /см. приложение/. ...«необходимо вернуть тов. Горецкого в ряды трудовых студенческих масс, работающих рука об руку с Советской Властью»...

На наступны дзень група камуністаў з 7 чалавек на чале з Мікалаем Смаленскім склала ліст, у якім пішуць, што... «Знают т.Горецкого, как одного из честных бескорыстных и идейных сторонников советской власти, ...который защищал ее от нападок со стороны правых элементов». ...«Поэтому мы считаем, что факт высылкі тов. Горецкого за пределы РСФСР является результатом неточного выяснения сути дела...»

Ужо 30 верасня гэтыя заявы разам з выпіскай з пратакола пасяджэння бюро комячэйкі, копіямі артыкулаў Г.Гарэцкага і станоўчым водгукам на іх Рындзінай былі пасланы на Лубянку.

Што з сябе ўяўляюць артыкулы Г.Гарэцкага, якія былі надрукаваны ў дадатках да часопіса «Младость»? Артыкул «Младость» в пепельных сумерках» прысвечаны крытыцы першага нумара часопіса «Младость». Аўтар піша: «Я глубоко преклоняюсь перед искренним всечеловеческим патриотизмом, который любя весь мир, любит свою родину, как частицу этого мира, частица, с которой он сжился, сроднился. Такой патриотизм увеличивает интенсивность индивидуального и общественного творчества. Такой национализм, национальный по форме с глубокой интернациональной всечеловеческой сущностью, высоко прогрессивен. Но ведь в «Младости» национализм — мессианство, которое так много погубило...» Ён крытыкуе інтэлігенцыю «Младости» за яе расчараванасць у рэвалюцыі, за тое, што яе мэта «туманна, сера, неярка». «Такова «Младость». Как-то невольно напрашивается: не лучше ли бы назваць «дряхлеющая старость».

Другі артыкул — «Регрессивность и прогрессивность национальных возрождений». Г.Гарэцкі ў ім падкрэслівае: «Только родной язык, как создание и выражение народного творчества, может быть наиболее рационально признанным для словесного, звукового выявления всех тайников и глубин этого творчества». З другога боку, ён папярэджвае, што «языковое возрождение наций становится не средством к увеличению интенсивности всякого рода творчеств, а самоцелью». Далей: «Национальные движения в России... стали массовыми, в них принимает участие главный и единственный судья, его Величество — сам Народ. Задача возрожденческой белорусской и украинской интеллигенции стремиться так повлиять на ход движений, чтобы они резонировали с лучшими освободительными социально политическими идеями XX-го века. В этом им должна помочь интеллигенция и великорусская. Надо ослабить остроту национального конфликта и скорее приблизить время, когда национальное движение переходит в широкое культурно-экономическое возрождение. Для этого прежде всего нужно утратить препятствие к национальной свободе угнетенных народов, убить в своей душе легко могущий зародиться «великодержавный шовинизм»; надо предостерегать возрождающиеся народности от их ошибок, надо критиковать по здоровому их действия, и тогда вступит в благодательное действие тот перевес прогрессивных элементов над регрессивными, которые в национальных движениях наблюдаются».

Як бачым, Г.Гарэцкі не проста ўдзельнічаў у часопісе «Младость», за што яго абвінавачвалі органы ДПУ, а, наадварот, крытыкаваў ідэйны і палітычны напрамак гэтага часопіса.

3 кастрычніка за подпісам загадчыка Беларускага цэнтральнага бюро па асвеце Наркамасветы М.Лойкі, інструктара і сакратара была паслана характарыстыка Гарэцкага Г.І., у якой гаварылася, што ведае яго «...как марксистски мыслящего человека и несомненного сторонника Советской Власти. На публичных студенческих собраниях им неизменно выдвигались принципы социальной революции и борьбы с шовинистическими тенденциями, что нередко приводило к расколу студенчества на два резко враждебных лагеря: тов. Горецкий всегда шел рука об руку с лагерем революционным.

В личной жизни т.Горецкий известен Центральному Бюро как прямой, безукоризненно честный и порядочный товарищ. Исходя из вышесказанного, Белорусское центральное бюро считает арест т.Горецкого следствием недоразумения».

5-ым кастрычніка датавана зробленая на 2-й вокладцы ўсёй справы рэзалюцыя В.Мянжынскага: «Оставить в Академии и не трогать, т.к. считает для себя всю эту историю оскорбительной в виду его прежней советской работы. Просил просмотреть его статьи в «Известиях» под ред. Преображенского и т.д.»

Не зусім ясна, у гэты дзень ці калі раней, але, як успамінае Гаўрыла Іванавіч, яго на допыт паклікаў сам В.Мянжынскі, які быў у той час адным з кіраўнікоў Дзяржаўнага Палітычнага Упраўлення НКУС РСФСР. Гамонка працягвалася каля 1,5 гадзіны. Мянжынскі больш маўчаў і з цікавасцю слухаў студэнта, які з вялікай палкасцю апавядаў пра Беларусь, пра яе гісторыю, геаграфію, культуру і яе праблемы, пра неабходнасць нацыянальна-эканамічнага адраджэння рэспублікі. Мянжынскі з цікавасцю выслухаў, але параіў больш ніколі не займацца ніякімі грамадскімі арганізацыямі, бо інакш зноў будуць непрыемнасці.

Ужо на наступны дзень было складзена «Заключение»: «Я, помощник нач. IV Отделения СО ГПУ Бахвалов, рассмотрев дело N 15729 гр-на Горецкого Г.И., 22 лет, происхождением из мещан Смоленской губ., нашел, что Горецкий был арестован на основании агентурного материала, из которого усматривалась антисоветская деятельность Горецкого, что последний подлежал высылке за границу, но, принимая во внимание, что антисоветская деятельность Горецкого следствием не доказана, а посему полагаю:

Дело следствием прекратить, Горецкого из-под стражи освободить и дело сдать в архив.

Пом. нач. Отд. СО ГПУ Бахвалов

Согласен: Нач. IV отд. СО ГПУ З.Аранский

Чырвонымі чарнiламі наўскасяк рэзалюцыя:

«Утверждаю. Ягода. 10.X.22 г.»

*Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары*

# ТЭРАКТ

*(Пачатак на стар. 8-9)*

— Валеры Піменавіч, — сказала яна. — Вам тэрміновае партыйнае даручэнне. Бяжыце ў часць і адшукайце там палкоўніка Хропіка. Няхай ідзе сюды.

Валеры Піменавіч здзівіўся, але пабег.

Ён мінуў КПП, дзе дзяжурныя жаўнеры гулялі ў карты, і апынуўся на тэрыторыі часці. Насустрач яму якраз ішоў палкоўнік Хропік у парадным мундзіры, але без дзягі, якую не мог адшукаць ні дома, ні цяпер у сябе ў часці, і таму быў вельмі не ў гуморы.

— Таварыш палкоўнік, — пасунуўся да яго Гнюсікаў, — вас тэрмінова просяць да трыбуны.

Палкоўнік Хропік спыніўся. Ён аніяк не мог успомніць, што гэта за цывільны з мікрафонам. Але раптам здзівіўся.

— А як вы сюды трапілі?

Гнюсікаў паказаў пальчыкам.

— Праз канэпэ, — сказаў ён.

— Дзяжурны! — зароў палкоўнік.

Выбеглі дзяжурныя. На хаду яны хавалі ў кішэні карты.

— Чаму ў распалажэнні часці чужыя? — злавесна спытаў палкоўнік.

Дзяжурныя пераглянуліся.

Палкоўнік азвярэў.

— Узяць яго, мацъ вашу туды і растуды! — ён паказаў на Гнюсікава. — Высветліць, хто ён такі і што яму тут трэба!

Валерыя Піменавіча схапілі і пацягнулі на КПП, дзе павалілі, адабралі мікрафон, звязалі і наклалі ў дзяжурцы тварам уніз на запляваную падлогу.

Палкоўнік аднавіў пошукі дзягі.

Між тым Плешакоў вярнуўся на плошчу і з задавальненнем упэўніўся ў тым, што на трыбуне ўсё засталося некранутым. У яго быў свой, вядомы толькі яму аднаму разлік. Днямі адзін з інфарматараў нечакана паведаміў вельмі важную вестку. Ён абгрунтавана і пераканаўча выклаў на пятнаццаці старонках з двух бакоў, што дырэктар бульбаперапрацоўчага комплексу Кныроў — амерыканскі шпіён. Калі Плешакоў адразу стаў правяраць, то высветліў цікавыя факты. Так, восенню мінулага года Кныроў выкінуў з комплексу сотні тон быццам падпсаванай бульбы і не на гарадскі сметнік, а прыхавана ў лес. Тую бульбу, вядома, праз нейкі час павыпорвала мясцовае насельніцтва, і ў раёне рэзка ўзрос працэнт самагонаварэння, чым дзяржаве былі нанесены значныя маральныя і матэрыяльныя страты. Верагодна, здагадаўся Плешакоў, што ў дні 60-х угодкаў Вялікага Кастрычніка ён мог паўтарыць сабатаж, а каб прыкрыць гэта злачынства і адцягнуць увагу, то і быў здзейснены тэрарыстычны акт на плошчы. Заставалася высветліць, хто непасрэдны выканаўца. Тут у Плешакова былі свае меркаванні. Нездарма ён падключыў да вышуку Хекальскага. Справа была ў тым, што ў клубе бульбакомплексу пачаў працаваць член літаб'яднання, інвалід другой групы па зроку Бабаед, які паставіў «Батлейку» — лялечны спектакль, дзе размаўлялі па-беларуску. Плешакову далажылі, што сам Бабаед размаўляе на роднай мове пастаянна, і што нават Кныроў пачаў ужываць у размове з падначаленымі беларускія словы, кшталтам: «лайдак», «пусталомак», «ёлуп». Гэта была ўжо яўная нацыяналістычная змова.

Цяпер Плешакоў абшукаў вачыма плошчу і з задавальненнем выявіў на ёй Кнырова, які, пэўна, для маскіроўкі, таксама прычапіў на грудзі чырвоны бант.

У гэты ж час, нібы скрозь туман, сакратар па ідэалогіі Салавей убачыла, як расчыніліся дзверы райкама і адтуль выйшла ўсё раённае начальства і з імі адказны таварыш з абкама. /Марыя Епіфанаўна вызначыла яго па вельмі высокай, значна вышэйшай за іншых, пыжыкавай шапцы/. Яны скіравалі да трыбуны. У галаве сакратара па ідэалогіі

12 кастрычніка адбылося пасяджэнне Калегіі ДПУ, якое пастанавіла: «Во изменение постановления от 6.09.22 г. освободить, дело прекратить и сдать в архив».

Тым жа днём датаваны «Талон», накіраваны Упраўленнем справамі ДПУ начальніку ўнутранай турмы: «С получением сего немедленно освободить из ареста Горецкого Гаврила Ивановича. С освобожденного взять подписку об освобождении...»

У справе ёсць яшчэ некалькі вельмі цікавых дакументаў, якія датаваны больш познімі днямі, і таму не зусім зразумела, ці вядомы яны былі раней і ці мелі якінебудзь уплыў на лёс «освобожденного».

19 кастрычніка за подпісам старшыні ДПУ Беларусі Ольскага ў Маскву была дадзена шыфраваная тэлеграма: «Постановлением ГПУ высылается за границу числе антисоветской профессуры белорусский деятель Горецкий. Центральное Бюро Компартии через ГПУ просит высылку за границу заменить высылкой одну из отдельных губерний России. Появление Горецкого помешает начатой ЦК работе разложению Белоруссов Шовинистов и наоборот усилит их контрреволюционные настроения».

Хаця і вызвалілі Г.Гарэцкага, але, відаць, працягвалі цікавіцца яго асобай. Так, у канцы ўжо вядомай нам характарыстыкі трох студэнтаў ПСГА алоўкам нейкі І.Рэшатаў 24.10.22 піша:

«Горецкий Гавриил Иванович — студент экономического отдела, один из видных работников кружка Общественной Агрономии по созданию «Агроном-Общественника». Ко всем мероприятиям Соввласти и особенно в области реформы Высшей школы относится крайне враждебно. Ведет антисоветскую и антикоммунистическую агитацию. Избран общим студенческим собранием для связи с обществом помощи ВУЗ».

Намеснік начальніка СА ДПУ /Масква/ Сурта 11.Х1. просіць старшыню ДПУ Беларусі «срочно исполнить наше... от 31.Х и... от 26.Х. в коих... выслать в СО ГПУ с нарочным весь материал имеющийся в Вашем распоряжении и в распоряжении Центрального Бюро Компартии Белоруссии на Горецкого».

Толькі ў снежні 1922 г. пад грыфам «Сов. секретно» прыйшоў адказ: «Нач. СО ГПУ тов. Самсонову /Москва/

Центральному Бюро Компартии Белоруссии Горецкий всесторонне неизвестен. Известен лишь как белорус-шовинист. Наша телеграмма... была вызвана по следующей причине. ЦБ КПБ узнав о предполагавшейся высылке Горецкого заграницу обратилось к нам с просьбой дать телеграмму в ГПУ с ходатайством в случае если высылка Горецкого заграницу должна состояться, то выслать его вместо заграницы в одну из отдаленных губерний РСФСР по следующим мотивам — высылка за границу могла бы помешать работе ЦБ по расколу белоруссов-шовинистов находящихся за границей. ЦБ прося о посылке указанной выше телеграммы стояло перед фактом ареста Горецкого в Москве и возможности его высылки за границу, что мешало бы работе ЦБ за границей — почему оно и обратилось к нам с указанной выше просьбой. Материалов же о контрреволюционной деятельности Горецкого ЦБ не имеет.

Горецкий, по наведенным нами справкам, уроженец Гомельской губ. — белорусс-шовинист, стоящий на платформе полной независимости Белоруссии, беспартийный, близок к белорусским эсерам. В белорусской работе выделялся как литератор, сотрудничал в ряде белорусских журналов. Выявить физиономию Горецкого всесторонне невозможно, т.к. он все время работал в Гомельской губ. и Минску известен лишь по его журнальным статьям, характеризующим его как белоруса-шовиниста.

Брат Горецкого находится в Ковно, работает в Белорусском правительстве Ластовского. Он состоит в группе белоруссов, стоящих на Советской платформе.

Присем препровождается копия письма Горецкого, написанное им после ареста к тов.Игнатовскому — Наркому Просвещения Белоруссии — для сведения.

Зам. пред ГПУ Б /Пинталь/
Нач. СО /Корейва/»

Апошні ў справе — ліст, аб якім упамінаецца ў канцы папярэдняга дакумента і які датаваны 25.Х.22 г. У ім Г.Гарэцкі піша:

«Напэўнае чулі Вы аб ўсех здарэннях нядобрых у Маскве. Усё гэта звязываецца з дзейнасцю беларускай культурна-навуковай асацыяцыі студэнтаў маскоўскіх навуковых устаноў. Да гэтага далучаецца выданне «Маладой Беларусі», прайшоўшай праз фактычнае рэдактаванне Дз.Каравайчыка, а таму адбіўшай у асобе настроі зусім не родных у поўнай меры беларускай студэнцкай моладзі, маладой беларускай інтэлігенцыі. Дадайце да гэтага несвядомасць расійскае і большасці беларускае грамады ў нацыянальным пытанні, невернае разуменне прынцыпаў інтэрнацыянала, касабокае тлумачэнне ідэй дэмакратычнага цэнтралізма і інш. Усё гэта разам стварае навокал культурна-эканамічнага Адраджэння Беларусі /нават няма дамінанты нацыянальнага/ хваравітую атмасферу, а часам адносіны рэзкай западазронасці, блізкай да параўнання ўсяго беларускага з контр-рэвалюцыйным. Гэта ж выгукнула гвалтоўны арышт мяне па даносе аднаго са студэнтаў — хворага маньяка, вытвараючага з сябе асобу малога Напалеона. Заблытаны клубок цяжкіх непаразуменняў распутваецца. З мяне знімаюцца ўсе абвінавачванні, а мажліва поўная рэабілітацыя з боку Г.П.У. Даецца мажлівасць працы. Як ні цяжка, як ні сумна, але пакідаць ранейшае дзейнасці не можна. Асабліва важна пакінуць жывою здаровую Беларускую Асацыяцыю студэнту-пятроўцу, гэта грамада, маючая ў складзе 175 чалавек, можа даць вельмі значную па ўдзельнай вазе частку беларускай агранамічнай інтэлігенцыі, скрозь праняўшую ідэямі Рэнесансу Беларусі, пабудаванымі на грунце найвялікшых усечалавецкіх ідэй нашага веку.

Мы робім належачыя крокі тутака ў Акадэміі, троха яснейшай робім тактыку, арганізуем беларусаў-камуністаў, 14-га наябра /ці вярней 12 наябра — у нядзелю/ адбудзецца гадавая сходка Савета Асацыяцыі /1920—22 гг./, у Акадэміі, у Аўдыторыі агульнага земляробства, ад якой шмат залежыць у будучыні. Маецца адным з першых пунктаў быць разгледжаным «Беларускае Адраджэнне і Камуністычная партыя» /або прагрэсіўныя элементы ў беларускім адраджэнні з камуністычнага пункту погляду/, не хацелась бы даваць выкладанне гэтакае адказнае тэмы студэнтам, бо асвятленне будзе далёка не гэтакім поўным, аўтарытэтным і грунтоўным. А таму, дарагі дзядзька, запрашаю Вас — абавязкова прыедзьце на наша свята — прачытайце лекцыі-даклад. Гэта жадана са ўсех бакоў, будзе мець гістарычную важнасць. Дык будзем чакаць Вас несумненна.

Моцна толькі тое, што здабываецца барацьбою. Хочам жыць, тварыць. Да енкаў, да слоў мы хочам даць працу, мы маем рэальную мэту: праз 20—25 гадоў ператварыць Беларусь у Данію. Дык абарвіце хвілінкі і так нехапаючага дарагога часу. Будзеце бачыць добрыя вынікі.

Спадзяюся на Вас моцна. Уся грамада чакае, асабліва камуністычная частка.

С пашанаваннем Гаўр. Гарэцкі».

Аказваецца, як добра, што ДПУ сачыла за перапіскай, а то мы не атрымалі б ліста Г.Гарэцкага У.Ігнатоўскаму, хаця б і ў копіі.

Такім чынам, студэнт ПСГА Г.Гарэцкі тады не быў высланы за граніцу /меркавалі паслаць у Нямеччыну/. Невядома, што яго выратавала: ці то смерць сястры, што адклала высылку з «четверга» на 10 дзён, ці тыя добрыя водгукі і хадайніцтва сумленных людзей з Акадэміі /што мала верагодна, бо следчым факты і доказы былі непатрэбны/, ці просьба Цэнтральнага Бюро КП Беларусі, якой Гарэцкі перашкаджаў за мяжой весці разбуральную справу сярод «беларусаў-шавіністаў», ці размова з В.Мянжынскім, якому спадабаўся палкі юнак і ён яго пашкадаваў. Хутчэй за ўсё, усе падзеі разам паўплывалі на яго лёс, які пры іншым зыходзе быў бы зусім другі...

Беларуская культурна-навуковая асацыяцыя студэнтаў Пятроўскай сельскагаспадарчай акадэміі пасля вядомых нам падзей у хуткім часе распалася, а многія мары маладога студэнта — старшыні гэтай Асацыяцыі, на жаль, так і засталіся толькі марамі...

---

нешта звінела ўсё мацней і мацней. Мільгалі думкі адна неверагодней за другую. Пабегчы і папярэдзіць? Закрыць сваім целам?

Яна азірнулася. Ні палкоўніка, ні Самахвала, ні Шашкова, ні радыёарганізатара Гнюсікава не было. Ужо не гарачыя, а халодныя мурашы папаўзлі ў яе па спіне.

Урачыстая працэсія набліжалася. Марыя Епіфанаўна заплюшчыла вочы. Калі ж яна расплюшчыла іх, то ўбачыла, як сакратар Прус, адказны таварыш з абкама, другі сакратар Дубовік і іншае начальства падыходзяць да трыбуны. Яна шагнула наперад, раскрыла рот, каб сказаць ім пра ўсё, але ў горле перасохла і адтуль не вырвалася ані слова.

Нібы ў сне яна ўбачыла, як Прус і абкамавец з высокаўзнятымі галовамі, не гледзячы пад ногі, узышлі на трыбуну. Раптам яны нібы спатыкнуліся. Узнікла збянтэжанасць. Марыя Епіфанаўна пасунулася бліжэй і зірнула: першы сакратар Прус, а за ім і адказны таварыш з абкама... наступілі на кучу.

У галаве сакратара па ідэалогіі быццам лопнула нейкая струна, і ў наступіўшай цішыні яна залілася гучным рогатам.

— Ха-ха-ха-ха! — аж заходзілася яна.

Аднекуль ужо узнік загаргаддзела Самахвал, зашаптаў Прусу на вуха, потым яе схапілі за рукі, але яна вырвалася, узмахнула сарваным з галавы парыком і... запела «Інтэрнацыянал».

Роўна ў вызначаны час Плешакоў быў на явачным месцы ў скверыку, але Хекальскага там не знайшоў, раззлаваўся і, плюнуўшы на законы канспірацыі, паехаў да яго на кватэру.

Хекальскі, які нікуды не хадзіў і нічога не высвятляў і дагэтуль ад страху выпіў паўтары бутэлькі гарэлкі, сядзеў у пакоі і мутнымі вачыма глядзеў у адну кропку. Плешакоў, як толькі ўвайшоў, то ўключыў дыктафон і пачаў допыт.

— Дык усё высветліў?

— Усё, — згадзіўся Хекальскі.

— Ці праўда, што дырэктар бульбаперапрацоўчага комплексу Кныроў — агент ЦРУ? — спытаў Плешакоў.

— Так, праўда, — адказаў Хекальскі.

— Можа, ён рэзідэнт?

— Так, рэзідэнт.

— А культработнік Бабаед, можа, таксама агент?

— Так, — пацвердзіў Хекальскі і пацягнуўся да шклянкі.

Плешакоў дазволіў.

— Дык гэта Бабаед здзейсніў тэракт на плошчы? — зноў дапытваўся Плешакоў.

Хекальскі кіўнуў галавой і ікнуў.

Плешакоў пацікавіўся, колькі членаў літаб'яднання і хто — агентурна звязаны з Кныровым—Бабаедам.

— Усе, — сказаў Хекальскі і зноў пацягнуўся да шклянкі.

— Усе, — гэта значыць і ты? — аж здзівіўся Плешакоў.

— Так, — пацвердзіў Хекальскі, паваліўся на канапу і... захроп.

Плешакоў выключыў дыктафон і выйшаў з кватэры. Ён сеў за руль і ўключыў запальванне. Вочы яго сатанінскі блішчэлі.

Ён ехаў прама ў вобласць.

---

# МЫ ТАК ЯГО ЛЮБІЛІ...

## ПАМЯЦІ ЮРЫЯ КАЗЮЧЫЦА



Ён цяжка хварэў. Дыягназ — трагічны, безвыходны, безнадзейны — быў вядомы, ды ў яго ніхто не хацеў верыць. Але ж гэта здарылася — Юра Казючыц пайшоў ад нас у іншы свет. Пайшоў маладым, прыгожым, поўным прагі да жыцця і творчасці. Ён заўсёды працаваў азартна, натхнёна, радасна.

Юра быў светлым чалавекам, верным сябрам, жыццярадасным, таварыскім. Любіў спяваць пад гітару, збіраць вакол сябе людзей, быў душою кампаніі. Жартам, гумарам мог разрадзіць напружаную атмасферу, захапіць калег сваім настроем, суцешыць у цяжкую хвіліну.

Ён быў сапраўдным Чалавекам, і мужна прайшоў жорсткае выпрабаванне лёсу. Не думаў пра смерць і не хацеў паміраць.

Але, мабыць, прадчуваў, што засталося яму нядоўга. Неяк, развітваючыся ў бальніцы, сказаў: «А некралог пра мяне напішыце добры...»

Вось і некралог... Крыўдна, балюча, горка, бо хіба ж у гэтым жанры казаць пра Юрыя Казючыца — выдатнага артыста з вялізным патэнцыялам і дыяпазонам творчых магчымасцей. Ён валодаў шырокім спектрам сродкаў акцёрскай выразнасці, лёгка пераходзіў ад камічнага, гратэскнага стылю да сцэнічнай праўдзівасці і псіхалагічнай глыбіні.

У «Камедыі пра Лісістрату» Юра гарэзліва, дзёрзка працаваў у жанры вострай буфоннай камедыі, «заводзіў» залу жартамі і ўражваў самаахвярнасцю выканання.

Ён увасобіў вобраз Гамлета, юнака, поўнага сіл і энергіі, нязмушана пераходзячы ад тонкага псіхалагізму да сарказму, з'едлівай іроніі, укладаючы ў гамлетаўскія пытанні ўсхваляваную, устрывожаную душу.

У Тэатры-студыі кінаакцёра ён сыграў свае лепшыя ролі, у тым ліку і такую рэдкую, самабытную, як батлейшчык у спектаклі «Дзіця з Віфлеема», праз яе выказваючы любоў да роднага беларускага слова, нацыянальнай культуры, яе вытокаў.

Ён шмат здымаўся ў кіно, але любімай заставалася роля Васіля ў стужцы «Людзі на балоце», дзе яму ўдалося патрапіць у сапраўдны беларускі характар.

Можна доўжыць пералік роляў гэтага выдатнага акцёра, але «схапіць» цалкам феномен Юрыя Казючыца вельмі складана. Ён быў такі, які быў — выпраменьваў святло і радасць. Ва ўсім, у жыцці і ў творчасці.

У Рускім тэатры ягонай апошняй працай быў «Амфітрыён», спектакль, у якім Юра дэманстраваў бляск акцёрскага майстэрства, да вышынь якога так натхнёна крочыў.

Як шкада, што шлях гэты быў такі кароткі...

**Тэатр-студыя кінаакцёра**

# ДВА ЮБІЛЕІ БЕЛАРУСКАГА ДЫЗАЙНА

***У беларускага дызайну сёлета два юбілеі. Адзін — радасны, другі — сумны. Першы — 75- годдзе пачатку дызайну ў Беларусі. Другі — 70 год заўчаснай пагібелі ягоных першых паросткаў.***

Пачнём з першай падзеі. Не, мы не знойдзем ніякай, гэтак кажучы, афіцыйна вызначанай даты пачатку беларускага дызайну. Але ў 1918 годзе адбылося тое, што можна трактаваць як першы штуршок, ад якога распачалася дызайнерская дзейнасць у Беларусі. Гаворка ідзе аб стварэнні ў Віцебску Народнай мастацкай вучэльні. Дакладней, тады толькі было прынята рашэнне аб стварэнні такой вучэльні на базе прыватнай мастацкай школы-майстэрні Ю.Пэна. Быў прызначаны дырэктар вучэльні — малады мастак, сам выхаванец школы Пэна Марк Шагал. Быў абвешчаны прыём у новую навучальную ўстанову, у якую на працягу некалькіх дзён запісалася больш за сто чалавек. Але пакуль усё гэта былі толькі добрыя намеры.

Наваяўлены дырэктар наваяўленай вучэльні заклікае калег-мастакоў, каб яны дапамаглі ў стварэнні маладой мастацкай школы. У канцы 1918 года ў газеце «Искусство Коммуны» друкуецца артыкул М.Шагала, у якім ён запрашае мастакоў з розных гарадоў краіны прыехаць працаваць у Віцебск.

Заклік Шагала не застаўся без водгуку. Неўзабаве на перон віцебскага вакзала з паязду, што прыбываюць з Масквы і Петраграда, выходзяць людзі са скрынямі для фарбаў, з рулонамі паперы, складнымі мальбертамі. Сярод іх вылучаецца гордая постаць цёмнавалосага мужчыны са строгім энергічным тварам — Казімір Малевіч, бацька новага напрамку абстрактнага жывапісу — «супрэматызму». А вунь тая прыгожая маладая жанчына — яго бліжэйшая паплечніца Вера Ермалаева. Невысокі лысаваты мужчына з чорнымі вачамі — графік-канструктывіст Л.Лісіцкі. Побач — вядомы жывапісец І.Дабужынскі.

З 1919 года, з прыбыццём у Віцебск вядомых мастакоў, мастацкае жыццё набывае нечаканы для губернскага горада сталічны размах. У горадзе ствараецца першы ў савецкай краіне музей сучаснага мастацтва. У аснове калекцыя карцін, дасланых у Віцебск з Петраграда Аддзелам выяўленчых мастацтваў. Народная мастацкая вучэльня ператвараецца ў Віцебскія дзяржаўныя мастацкія майстэрні, а потым у Мастацка-практычны інстытут. І нарэшце па ініцыятыве Малевіча і Ермалаевай ствараецца аб'яднанне «левых» мастакоў УНОВІС /Учредители нового искусства/, у якое, акрамя яго заснавальнікаў, уваходзяць Л.Лісіцкі, М.Суэцін, І.Чашнік, Л.Юдзін і іншыя. Менавіта ў творчасці членаў УНОВІСа і праявіліся парасткі таго, што мы сёння называем прамысловым дызайнам. Гэта УНОВІСу належыць ідэя «вытворчасці праектаў новых форм утылітарных патрэб і рэалізацыі іх у жыцці».

У майстэрнях сяброў УНОВІСа праца ішла дзень і ноч: тут і распрацоўка мэблі, і розных інтэр'ераў, і архітэктурных аб'ектаў, у тым ліку утылітарных будынкаў, і прадметаў побыту, і аздоба кніг. Новыя мастацкія формы мастакі УНОВІСа шукалі ў сувязі з сучасным светам тэхнікі. Лідэр новага руху К.Малевіч пісаў: «Як у нашым тэхнічным жыцці: мы не можам карыстацца толькі караблямі, на якіх ездзілі сарацыны, — так і ў мастацтве мы павінны шукаць формы, адпаведныя сучаснаму жыццю... Тэхнічны бок нашага часу ідзе ўсё далей наперад, а мастацтва стараецца пасунуць усё далей назад. Вось чаму вышэй, значней і каштоўней тыя людзі, якія ідуць за сваім часам».

Менавіта з Віцебска сталі распаўсюджвацца па краіне новыя эстэтычныя ідэі, філіі УНОВІСа ствараюцца ў Маскве, Петраградзе, Смаленску, Арэнбурзе, Саратаве, Пермі. Ідэі ўновісаўцаў леглі і ў падмурак тэорыі так званага «вытворчага мастацтва», якая была вельмі папулярная ў 20-я гады ў асяроддзі савецкіх мастакоў «левага» кірунку. Распрацоўкай гэтай тэорыі займаліся выдатныя тагачасныя тэарэтыкі новага мастацтва Б.Арватаў, А.Ган, Н.Тарабукін. На практыцы ж яе ажыццяўлялі піянеры савецкага дызайну А.Родчанка, У.Татлін, Л.Папова, А.Сямёнава і іншыя. Прадстаўнікі «вытворчай» канцэпцыі жадалі зліцця мастацтва непасрэдна з жыццём, шлях да чаго бачылі ў эстэтызацыі побыту. Мастацтва ўяўлялася ім не проста часткай культуры чалавека, але жыццебудовай, метадам выхавання людзей. «Мастацтва як метад **будовы** жыцця... — вось лозунг, пад якім ідзе пралетарскае ўяўленне аб навуцы мастацтва», — пісаў адзін з тэарэтыкаў «вытворчай» канцэпцыі. Наогул жа гэта былі тыя ж ідэі, што распрацоўваліся віцебскім УНОВІСам.

А тым часам у Віцебску, у Мастацка-практычным інстытуце навучальны працэс усё болей удасканальваўся. Віцебск ідзе ў нагу з часам і нават уперадзе часу. У Мастацка-практычным інстытуце практыкуецца рознаўзроўневае выкладанне ад «азоў» выяўленчага мастацтва і да навуковага аддзялення /нешта накшталт аспірантуры/. Па заканчэнні навуковага курса студэнт павінен, акрамя выканання экзаменацыйных практычных заданняў, жывапісных ці праектных, напісаць тэарэтычную работу.

Уяўленне пра тыя дысцыпліны, якія праходзілі ў інстытуце, можа даць вытрымка з праграмы Матэрыяльнага факультэта аддзялення УНОВІСа:

1. Знаёмства з матэрыяламі, апрацоўка іх.
2. Тэхніка-вопытнае ўтварэнне элементаў...
3. Канструяванне формы...
4. Выражэнне дынамікі і статыкі...
5. Канструяванне як вопыт узаемаадносін элементаў, размеркаванне цяжару.
6. Праекцыя пабудовы формы ў прасторы і г.д.

Якія ж задачы ставілі перад сабой стваральнікі Віцебскага Мастацка-практычнага інстытута? Гэта відаць з чарнавіка праграмы, які захаваўся з тых часоў. У ёй гаворыцца пра тое, што зараз дзяржаве патрэбныя спецыялісты, якія б маглі стварыць сучасны рэчавы свет, дзе б жытло, масты, аэрапланы, рэчы побыту не толькі характарызаваліся б тэхнічнай дасканаласцю, але і былі ў сваім родзе творамі мастацтва. Мастацтва ж зараз жыве «не паўторам ужо знойдзеных форм, якія цяпер толькі паліруюцца з агітацыйнай мэтай, але стварэннем адзінага фронту канструктыўнай творчасці. У ёй ляжыць асноўная думка».

Вялікія планы. Вялікія мары. Здаецца, наперадзе шмат цікавага, значнага... Але вось 1922 год. Ад перона віцебскага вакзала адыходзіць цягнік на Петраград. У адным з вагонаў поезда К.Малевіч. Ён ужо ніколі не вернецца ў Віцебск. За Малевічам Беларусь пакідаюць Л.Лісіцкі, В.Ермалаева, іншыя выкладчыкі Віцебскага мастацка-практычнага інстытута. Якая ж таму прычына? Найперш — сіла інерцыі мыслення, прыхільнасць да існуючых, звыклых эстэтычных уяўленняў і густаў, як у грамадстве ў цэлым, так і ў мясцовай адміністрацыі. У далейшым выявяцца і іншыя, больш глыбокія прычыны ўціску дызайну, але аб гэтым далей.

Яшчэ да ад'езда Малевіча пачаліся нападкі ў мясцовай прэсе на УНОВІС. Так, у адным з нумароў віцебскага часопіса «Искусство» ў артыкуле пад назвай «Пра УНОВІС» пісалася наступнае: «Мы хочам сапраўднай жывапіснай культуры. Нам абрыдлі кругі, квадраты, трохкутнікі і бессэнсоўныя словы пра збудаванне рухомых вакзалаў у прасторы і г.д. УНОВІС растоптвае і забівае ў памочнікаў майстроў /так у Мастацка-практычным інстытуце называліся навучэнцы. — **Я.Л.**/ усялякае пачуццё прыгажосці і эстэтычнага ўспрымання...» Патроху пачынаецца адміністрацыйны наступ на Мастацка-практычны інстытут. Губпрафасветы патрабуе аддаць частку памяшканняў інстытута для музычнага тэхнікума. У сувязі з гэтым у інстытуце скарачаюць сталярню, малярную майстэрню, а таксама майстэрню УНОВІСа. Прыйшлося закрыць і музей сучаснага мастацтва.

У хуткім часе Віцебскі губернскі аддзел Рабоча-сялянскай інспекцыі праводзіць у інстытуце рэвізію яго работы, пачынаючы з 1918 года. Рэвізоры вынікамі рэвізіі не задаволены, па іх меркаванню, гэтая навучальная ўстанова не адпавядае свайму прызначэнню. Да таго ж адмоўнае ўражанне ў начальства выклікае выстава студэнцкіх работ, большасць якіх выканана ў авангардысцкім стылі. За ўсім гэтым ідуць і «аргвывады». Інстытут пазбаўляецца статусу вышэйшай навучальнай установы і ператвараецца ў мастацкі тэхнікум. Гэтая мера выклікае адабрэнне дэлегатаў губернскага з'езда работнікаў мастацтваў. Трэба сказаць, што віцебскі мастацкі тэхнікум потым падрыхтаваў нямала таленавітых беларускіх мастакоў, але сярод іх мы ўжо не сустрэнем ніводнага дызайнера. Калыска УНОВІСа і маладога беларускага дызайну была практычна зруйнавана.

Закрыццё Мастацка-практычнага інстытута адбылося ў 1923 годзе — вось гэта той сумны 70-гадовы юбілей, пра які мы гаварылі ў пачатку артыкула. Далей, па меры эскалацыі рэпрэсій бальшавіцкага рэжыму, драматычны лёс лідэраў Віцебскага УНОВІСа ператвараецца ў глыбокую трагедыю. Пасля ад'езду з Віцебска К.Малевіч працаваў у Ленінградзе ў створаным ім інстытуце мастацкай культуры /ГІНХУК/, які таксама пасля адной з «праверак» у 1926 годзе быў закрыты. У 1927 годзе ў Берліне адкрываецца выстава работ Малевіча, на якой прысутнічае сам аўтар. І пасля вяртання ў Ленінград яго арыштоўваюць як «германскага шпіёна». Праз тры месяцы мастака выпускаюць з турмы. Але ён ужо зусім хворы. Праз некалькі год рак уносіць Малевіча ў магілу. У год яго смерці /1935/ была арыштавана бліжэйшая паплечніца Малевіча па Віцебскім мастацка-практычным інстытуце В. Ермалаева. Мастачка, якая ў той час займалася афармленнем дзіцячых кніг, за «антысавецкую дзейнасць» была асуджана на пяць гадоў лагераў. Далей Караганда і дадатковы тэрмін. І вось Аральскае мора, баржа, на якой вязуць зняволеных. Усіх высаджваюць на невялікім пясчаным востраве. Сярод асуджаных на пакутніцкую смерць мастачка Вера Ермалаева. Больш аб яе лёсе нічога невядома...

Тое, што гібель маладой беларускай дызайнерскай школы была невыпадковая, даказвае і лёс першай расійскай дызайнерскай навучальнай установы ВХУТЕМАС-ВХУТЕИН. Некалькі пазней яна таксама была асуджана на знікненне. Прычын тут некалькі. Трэба сказаць, што ўзровень вытворчасці ў савецкай краіне ў 20-я гады яшчэ не дазваляў увесці ў прамысловасць метады тэхнічнай эстэтыкі. Не былі падрыхтаваны для ўспрымання новай эстэтыкі і народныя масы, а таксама многія тагачасныя кіраўнікі, што трапілі «з грязі ў князі». Абстрактныя практыкаванні, якімі займаліся дзеячы УНОВІСа, іх проста палохалі. Адвергла новыя эстэтычныя тэорыі і высокае партыйнае начальства. Рэч у тым, што першыя савецкія дызайнеры спрабавалі ўварвацца ў тую сферу, дзе гегемонам павінна была заставацца толькі сама партыя. Успомніце словы аднаго з прадстаўнікоў «вытворчай» плыні: «Мастацтва як метад **будовы** жыцця ... — вось лозунг, пад якім ідзе пралетарскае ўяўленне аб навуцы мастацтва». Вось у гэтым першыя савецкія дызайнеры, па меркаванні тых, хто трымаў уладу, «пераходзілі рамкі». Не, толькі партыя, на чале з вялікім Сталіным можа кіраваць будовай жыцця, той жа, хто прэтэндуе на падмену яе ў гэтай ролі, уяўляе небяспечнасць. Дарэчы, гэта характэрна наогул для ўсіх таталітарных сістэм. У фашысцкай Германіі таксама быў закрыты Баўхаўз, дызайнерская школа, якая, як і першыя савецкія дызайнеры, прапаведвала мастацтва як сродак жыццебудовы. Таталітарныя дзяржаўныя сістэмы пільна ахоўваюць недатыкальнасць сваёй усеабдымнасці, гэта іх інстынкт самазахавання.

Так, першыя парасткі дызайну ў савецкай Беларусі выкарчавалі, калі яны толькі паспелі ўзысці. Але ідэі, якія распрацавалі ўновісаўцы, не былі забытыя, іх увабралі наступныя пакаленні дызайнераў як на Беларусі, так і ў іншых рэспубліках былога Саюза. Больш таго, гэтыя ідэі перасеклі межы СССР і зрабіліся здабыткам культуры ўсяго цывілізаванага чалавецтва. І мы сёння ганарымся, што менавіта Беларусь была адной з першых краін, дзе нарадзіліся перадавыя ідэі сучаснага дызайну. Таму і юбілей у нас і сумны, і радасны.

**Якаў ЛЕНСУ**


**ЛіМ**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**ГАЗЕТУ РЭДАГАВАЛІ:**

Х.ДУНЕЦ (1932-35)
І.ГУРСКІ (1935-41)
А.КУЛЯШОЎ (1945-46)
М.ГОРЦАЎ (1947-49)
П.КАВАЛЁЎ (1949-50)
В.ВІТКА (1951-57)
М.ТКАЧОЎ (1957-59)
Я.ШАРАХОЎСКІ (1959-61)
Н.ПАШКЕВІЧ (1961-69)
Л.ПРОКША (1969-72)
Х.ЖЫЧКА (1972-76)
А.АСІПЕНКА (1976-80)
А.ЖУК (1980-86)
А.ВЯРЦІНСКІ (1986-90)

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Юрась ЗАЛОСКА, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Барыс ПЯТРОВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), Юрась СВІРКА**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі -- 33-24-61; намеснікі галоўнага рэдактара -- 33-25-25; 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі -- 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі -- 33-19-85, літаратурнага жыцця -- 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі -- 33-22-04, паэзіі і прозы -- 33-22-04, музыкі -- 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання -- 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- 33-24-62, навін -- 33-19-85, мастацкага афармлення -- 33-24-62; фотакарэспандэнт -- 33-24-62; бухгалтэрыя -- 26-86-40.





**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**

**Друкарня "Беларускі Дом друку"**

Індэкс 63856. Наклад 12.000.
Нумар падпісаны 2.09.1993 г.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12